# Літаратурны экватар

**Альманах**

***Заснаваны ў 2012 годзе***

***Выпуск 5***

***2016 год***

Мінск
«Ковчег»
2016

УДК [821.161.3+821.161.1(476)]-822

Літаратурны клуб «Экватар»

У альманах «Літаратурны экватар» уключаны творы як прафесійных, так і пачынаючых аўтараў. Усе яны – удзельнікі літаратурнага клуба «Экватар», які ўзначальвае беларускі паэт Вячаслаў Корбут.

Укладальнікі *Вячаслаў Корбут, Інга Вінарская*
Шэф-рэдактар *Інга Вінарская*
Уступныя артыкулы
*Вячаслава Корбута, Інгі Вінарскай*





***Па слядах незлічоных зорак***

Сёння ў руках мы трымаем пяты нумар нашага альманаху. І гэта сапраўды свята, бо кожны нумар – гэта імправізацыя, шарм і нейкі выбух энергіі, нібыта ўтвараецца новая зорка. Кожная добрая кніга, выдатны часопіс альбо альманах – гэта таксама новая зорка, якая будзе свяціць і аздабляць сваёй энергіяй сэрцы чытачоў, даваць ім мажлівасць нешта зразумець і многае, я ўпэўнены, спасцігнуць.

Шчэ з дзеясатак гадоў таму паэты жылі ў сваіх сусветах больш патрыярхальна: пісаліся лісты, дамаўляліся задоўга на сустрэчы, шукалі рэдкія зборнікі ў крамах, перадрукоўвалі рукапісы. Дзякуючы інтэрнету, усё стала прасцей. Мы кожны на нейкай сувязі, мы модна тусуемся на тых ці іншых сайтах, мы маем права і рэалізуем яго, калі адпраўляем свае вершы ў сетку інтэрнэта. Так хутка слова, выгукнанае паэтам ці пісьменнікам, перастане мець свой сакральны сэнс. Але я ў гэта не веру, бо штосьці магічнае і найцікавейшае будзе весці і цягнуць далавека да рукапісу, ці дакладней, – кнігі. Мы сталі іншымі, так! Мы сталі пісаць па-іншаму, больш смела і больш гучна. А ці не штучна ўсё гэта, ці не спроба замяніць нашымі творамі штосьці, што ёсць вышэй ці ніжэй за нас. Хутчэй, адказу не будзе ніколі, пакуль не наступіць іншы час ці іншая эпоха, калі нехта звонку зможа ацаніць тое, што напісана нашым пакаленнем.

Наш альманах «Літаратурны экватар» – гэта клубны, абсалютна ўнікальны і непаўторны праект, бо тут надрукаваны творы аўтараў, чый творчы шлях у многім развіваецца, дзякуючы літаратурнаму клубу «Экватар». Тут людзі чэрпаюць творчую энергію і робяць пошук сваёй ісціны і сваіх творчых ідэй. І таму асмелюся падкрэсліць, што наш альманах ляціць па слядах сапраўдных літаратурных зорак – выдатных кніг і зборнікаў, мы робім здольны на жыццё праект ужо таму, што імкнемся адлюстраваць свой час і быць у ім праўдзівымі.

Але праўда яшчэ і ў тым, што на гэтым шляху мы губляем сваіх таварышаў і сяброў. 20 сакавіка 2016 годзе мы згубілі свайго

вельмі надзейнага сябра – Валерыя Скакуна, паэта, барда, пісьменніка, разумнага і таленавітага чалавека. Ён памёр у нядзелю, едучы з працы дамоў. Праз пяць дзён мы павінны былі выступаць з творчай праграмай у Ваўкавыску. Асабіста мне яго не хапае вельмі, бо для мяне ў гэтым жыцці было многа звязана з Валерыям, з яго ідэямі, думкамі, перажываннямі. Ён, як ніхто з нас, разумеў жыццё ў яго складанасці і цярністаці, бо сам многа прайшоў і многаму быў здольны навучыць. Як бард ён ніколі не пакідаў раўнадушнымі слухачоў, спяваў горача, ад душы, смела і бадзёра рыхтваўся да кожнага канцэрта. За апошнія гады мы шмат дзе былі, і ён быў вельмі сваім перад навучэнцамі у школах, перад дзеткамі у біблятэках, перад вайскоўцамі ў ваенных частках. Ён выхоўваў і свайго сына Валодзю патрыётам, вучыў яго беларускім вершам, песням, нават паказваў, як хадзіць за плугам, паважаць зямлю і краявіды Радзімы.

У Валерыя былі «залатыя» рукі, ён умеў літаральна ўсё: сам сабраў трактар, сам пабудаваў добры дом. Аб сваіх навыках працаўніка-будаўніка ён распавядаў у прозе. Асабліва гэта яскрава ўдалося перадаць у зборніку «Паўночны варыянт» і апошняй яго кнізе «За зацяненнем Поўначы». Менавіта з гэтай апошняй кнігі мы даведаліся пра спартыўныя дасягненні гэтага вельмі таленатвітага і ўсебакова адоранага прыродай чалавека. Як лыжнік ён заваяваў шмат медалёў, быў пераможцам і прызёрам розных рэспубліканскіх і абласных спаборніцтваў, але яго вялікай кар’еры спартсмена быццам бы нешта перашкодзіла. Відаць, лёсу так было заўгодна, каб ён змог сябе рэалізаваць як творца, як чалавек удумлівы і разважлівы. Ён дыхаў песняй і адчуваў яе. Нажаль, пакінуў не так шмат аўдыёзапісаў, хаця і планаваў запісаць свой першы альбом, але гэта будзе ўжо пасмяротна.

У 2001 годзе ён напісаў радкі, якія паказваюць яго, як чалавека незвычайнага ўжо ад маленства:

Я нетаропка ў белы свет
Ішоў маленствам і юнацтвам,





Лёс наварожваў мне сюжэт,
Выточваў ад жыцця мастацтвам.

Мне сыпаў манны з неба Бог,
І дасылаў выпрабаванні,
Як дзе я ўвечар занямог,
Даваў мне сілы зноўку з рання.

Кудысь сышлі тае гады,
Гады маленства і юнацтва,
Часцей з гадамі брыў туды,
Дзе пазнаваў жыцця мастацтва.

Не трэба нічога дадаваць болей пасля такіх слоў. Валеры быў і застаецца ў сваіх творах і песнях сапраўды мастаком. Шчырасць, з якой ён пісаў, вельмі высокая, ён быў праўдзівы з сабой, і любіў, калі людзі былі з ім праўдзівыя, і ў гэтым бачыў соль жыцця. Ён у вочы мог сказаць кожнаму сваю думку, і часцяком вельмі жорсткую, але яна была праўдзівая і шчырая. У наш час, калі пануе вакол хітрасць, хцівасць, нейкая выгада, вельмі важна мець побач такога сябра-грамадзяніна. Валеры быў паэтам – прадстаўніком класічнай літаратурнай школы, ён пісаў проста, ясна і вельмі зразумела, але ў кожным вершы была думка, быў нейкі парыў ці надрыў, адчувалася ўласная сістэма жыццёвых каардынат, у якой ён адчуваў сябе паўнавартасным і сучасным аўтарам і чалавекам.

Дадам і той факт, што больш дасціпна і дасканала ён стаў пісаць тады, калі пачаў наведваць літаратурныя панядзелкі, якія спачатку праводзіліся пры газеце «Чырвоная змена», а пасля і ў рэдакцыі часопіса «Першацвет» пад кіраўніцтвам вядомага беларускага пісьменніка, выхаваўшага не адзін дзесятак маладых літаратараў, Алеся Герасімавіча Масарэнкі. І ў нашым альманаху друкаецца шэраг ягоных выхаванцаў, у тым ліку і аўтар гэтага артыкула. Мы ўсе ўдзячныя за тое, што змаглі адкрыць для сябе вялікія тайны літаратуры, якімі далей шчыра дзелімся ўжо з нашымі аўтарамі і моладдзю. Можна смела дадаць, што Валеры Скакун у

літаратуру ўвайшоў, дзякуючы шмат у чым Алесю Герасімавічу, яго мудраму слову і трапнай парадзе, аб чым і сам Валеры неаднаразова гаварыў з вялікай цеплатой да гэтага чалавека.

Сёння, калі Валерыя няма, разумееш, што ўвайсці ў сістэму каардынат Скакуна далёка не многім пад сілу. І ягонае месца ў нашым клубе будзе вольным яшчэ доўгія гады. Сёння трэба будзе зрабіць нямала, каб і грамадскасць па справе ацаніла ягоную творчую спадчыну, каб яна захавалася ў нашай нацыянальнай літаратуры, бо Валеры лічыў сябе шчырым нацыянальным паэтам, любіў родную мову, нашую літаратуру і культуру. Паездіўшы нямала па свеце, вельмі любіў сваю Беларусь, нашую Радзіму, і з’яўляўся сапраўдным яе патрыётам. А наша задача зрабіць так, каб творчыя прынцыпы і творчы дух Валерыя Скакуна засталіся з намі назаўсёды, каб мы разумелі і ведалі, што гэты вельмі брутальны чалавек з гітарай, з тварам, які глыбока пасеклі маршчыны, яшчэ ўвойдзе ў залу, і загучыць ягоны глыбокі голас, які нікога ніколі не пакідаў раўнадушным...

Перагортваючы старонкі нашага альманаху «Літаратурны экватар», хачу адзначыць той момант, што альманах стаў больш сталым і ў ім вельмі шмат пазітыўных твораў, многа дакладнай і шчырай паэзіі і прозы. Мала таго, дадам, што тут прысутнічаюць мноства жанраў: ад паэзіі да псіхалагічнай прозы, нават ёсць невялікая драматургія ў выглядзе малой п’ескі. Таму пяты выпуск альманаху «Літаратурны экватар» – гэта значная падзея, і яна адбываецца, у многім дзякуючы нашаму шэф-рэдактару Інзе Вінарскай. Яна ўвесь час руплівa падбірала матэрыялы, працавала амаль з кожным аўтарам, клапацілася, каб творы збіраліся як мага больш дасканалыя, каб кожны аўтар адчуваў адказнасць за кожнае паэтычнае слова і кожную старонку прозы, бо не сакрэт, што наш альманах ужо чытаюць сотні і тысячы чытачоў – як у папяровым выглядзе, так і ў інтэрнэт-прасторы. Таму прафесійны рэдактарскі клопат Інгі нам усім дазваляе адчуваць сябе ўпэўненымі ў тым, што ўзровень надрукаваных твораў будзе адпавядаць заяўленаму прынцыпу: глыбокі лірызм, патрыятызм, мастацкая вартасць. Дзякуй ёй за працу, як і ўсяму творчаму калектыву альманаха. Канешне, да пастаўленай планкі не кожнаму адразу ўдаецца





дацягнуцца, але ці адразу мы ўсе становімся дарослымі? Працэс літаратурнага сталення – гэта працэс вельмі няпросты і часам пакутлівы. Усё залежыць ад таленту і працы кожнага чалавека. Таму паседжанні нашага клуба часта прысвечаны аналізу твораў, напісаных нашымі аўтарамі, і для многіх гэта – вельмі добрая школа.

Як і ў мінулыя гады, альманах прадстаўляе сабой дзвюохкрылы праект, дзе размешчаны творы на беларускай і рускай мовах, амаль палову займае паэзія, і не менш проза. Гэта стала ўжо традыцыяй, і радуе тое, што многія нашыя аўтары спрабуюць свае сілы па-беларуску, не баяцца пераходзіць з паэзіі на прозу, актыўна эксперэментуюць. Працягвае дзівіць дакументальна-гістарычнымі хронікамі Якаў Анапрэенка, ва ўнісон яму чытаецца пазнавальны артыкул Кацярыны Мяшковай. Па-сучаснаму цікава і шмат ў чым актуальна адчуваецца подых дзвюх цікавых інтэрв’ю Інгі Вінарскай з вядомымі беларускімі пісьменнікамі. Прыемна зазначыць і той факт, што да альманаху далучыліся нашыя добрыя сябры, вядомыя літаратары: паэтка, літаратурны даследчык Тацяна Барысюк і паэт, бард, перакладычык Серж Мінскевіч. Іх творы – добры прафесійны і мастацкі ўнёсак у скарбонку альманаху.

Сваю цікавую і змястоўную паэзію ў альманаху прадставілі нашыя аўтары Апанас Бацяноўскі, Вольга Бацяноўская (Дзядкова), Яўген Вермут, Вячаслаў Данілаў, Дзмітрый Марозаў, Раіса Паўлючук, Лідзія Поляк, Наталля Радзькова, Марыя Разумка, Вера Феактыстава, Аляксандр Чуро, Святлана Шашко-Шаблінская, Ірына Шамко, Валянцін Шведаў, Ала Шыковіч, Валянціна Шпілеўская. Творы кожнага з паэтаў – гэта асобны сусвет са сваёй філасофіяй, адкрыццямі і ўласным адчуваннем жыцця. Зазначу, што многія з названых аўтараў пастаянна развіваюцца і імкнуцца адкрыць у сябе новыя межы таленту, працягваюць шліфаваць да гарачай іскры свае творы, што вельмі добра.

Асобнае слова падзякі за мадэратарства сайта «Літаратурны экватар» і актыўную творчую дзейнасць Яўгену Вермуту, які на працягу гэтых гадоў не толькі наш верны сябра, але і праваднік ідэй клуба «Экватар» у інтэрнэце.

Як я зазначыў раней, ёсць у альманаху і невялікая драматургія. Так, Галіна Мішнева, з’яўляючыся ўжо даволі напры-

ктыкаванай паэткай, змагла прадставіць невялікую, але даволі змястоўную і сучасную п'еску. Гэта, несуменна, плюс. Працягваюць плённа працаваць на ніве прозы і нашыя пісьменнікі, творы якіх, як заўсёды, вельмі арганічна ўпісваюцца ў старонкі альманаху. Гэта Ігар Грыцкоў, Тэрэза Кавальчук, Людміла Лазута, Юрый Мельнікаў, Людміла Сівалобава, Вера Феактыстава, Жана Хромава, Ірына Цуканава, Ірына Шамко. Іх проза часам аўтабіяграфічная, часам абсалютна мастацкая, таму, безумоўна, выклікае непадробную цікавасць разнастайнасцю тэм і характараў. Зазначу, што Ірына Цуканава – заўсёдны ўдзельнік творчых канцэртаў «Экватара» на розных імпрэзах і выступах. Яе зычны і пранізлівы голас спявачкі ўжо палюбіўся шматлікім слухачам, за што ёй нашая ўдзячнасць. Зазначу і той факт, што кніжкамі разжыліся ў бягучым годзе наступныя нашыя аўтары: Ігар Грыцкоў – кнігай прозы «Аднойчы ў нас, на Гомельшчыне», Галіна Мішнева – кнігай паэзіі «Радость бытия», Людміла Лазута – кнігай прозы «Вузкімі сцежкамі» і Кацярына Мяшкова – кнігай паэзіі і прозы «Чароўная хваля вандровак». Іх кнігі сталі добрым знакам творчага ўздыму і пачэсным вынікам нялёгкай працы пісьменніка.

Шаноўныя сябры, віншую вас з выхадам пятага юбілейнага нумару альманаху «Літаратурны экватар», які шмат у чым падсумаваў вынік працы нашага клуба за гэтыя гады і дадаў, безумоўна, энергіі і ўпэўненасці, што творчы парыў і творчы працэс абавязкова павінны быць матэрыялізаваныя на паперы, каб прынесці чытачу мноства новых эмоцый і перажыванняў. І як добра, што гэта мы робім агульнымі сіламі, застаючыся, несумненна, шматграннай творчай адзінкай, аснова якой і ёсць наш клуб «Экватар». Віншую ўсіх аўтараў і чытачоў, зычу натхнення, новых ідэй і цікавых твораў!

*Вячаслаў Корбут,*
*кіраўнік літаратурнага клуба «Экватар».*





### *«Экватар» чалавечых лёсаў*

Калі я сабралася напісаць гэты артыкул, то пачала думаць нават не пра альманах «Літаратурны экватар», а пра сам літаратурны клуб «Экватар», дзякуючы сябрам якога і з'яўляецца на свет кожны год новы нумар гэтага альманаху. А клуб існуе ўжо, дарэчы, сем год. І большасць з іх – ужо амаль шэсць – на базе бібліятэкі Цэнтральнага дома афіцэраў горада Мінска.

Ітак, сем год. Шмат чаго адбылося за гэты час. Я неяк праглядала архіў фотаздымкаў нашага клуба, а займае ён ужо шмат месца – амаль дваццаць гігабайтаў камп'ютарнай памяці, – і прыйшла да высновы, што шмат літаратурнага народу прайшло праз наш клуб. Састаў сяброў пастаянна мяняецца. Чаму? І ці нармальна гэта? Так, нармальна. Застаюцца толькі тыя, хто па-сапраўднаму цэніць літаратуру, прафесійнае слова, хто хоча творча развівацца, хто хоча знаходзіцца ў сапраўдным літаратурным асяроддзі. Але не толькі гэта. У нас у клубе атмасфера амаль дамашняя. І «Экватар» – гэта ўжо, напэўна, літаратурная сям'я. Мне здаецца, менавіта так. І асноўнае правіла знаходжання ў гэтай сям'і – павага адзін да аднаго. Трэба, усё ж такі, быць людзьмі, не рабіць гадасцяў сябрам клуба і самому клубу не шкодзіць. Казалася б, так проста. Але не. Са многімі мы развіталіся з-за гэтых самых гадасцяў і непавагі. А ў некага пачалася зорная хвароба, але ж геніямі мы нікога не прызначаем і такой хваробе не садзейнічаем – з псеўдазоркамі таксама развітваемся.

Увогуле, «Экватар» падзяляе лёсы ягоных сяброў на «да» клуба, «разам» з клубам, і – для некаторых – «пасля» клуба. Аднак у большасці людзі ўсё ж застаюцца з намі. А ёсць і тыя, хто ў клубе з самага яго заснавання. І, акрамя Вячаслава Корбута і мяне, гэта, безумоўна, Людміла Аляксееўна Сівалобава (старэйшая па ўзросце ў клубе) і Апанас Бацяноўскі (адзін з самых маладых нашых сяброў).

Людміла Аляксееўна прыйшла ў «Экватар» калісьці ў 2010 годзе са сваімі не вельмі дасканалымі вершамі, якія, аднак, мелі пэўныя сюжэты. І я, намагаючыся не пакрыўдзіць, параіла ёй пачаць пісаць прозу. Вынік гэтай парады пераўзыйшоў усе чаканні.

Калі Людміла Аляксееўна праз пэўны час прынесла на паседжанне клуба сваю першую навэлу і прачытала яе, я была папросту ў шоку, бо зразумела, што нарадзілася сапраўдная пісьменніца. Ну, а потым выйшлі ў Людмілы Сівалобавай за некалькі год тры зборнікі малой прозы.

Апанас Бацяноўскі – малады таленавіты паэт і музыкант, які ў клубе таксама з 2010 года. У яго тры зборнікі паэзіі. Грае ён, дарэчы, не толькі на скрыпцы, але і на фартэпіяна, і на адной з прэзентацый ён нават выконваў музычную п'есу ўласнага напісання. Некалькі год таму да нашага клуба далучылася і мама Апанаса, таксама паэтка, – Вольга Бацяноўская (Дзядкова), што прыемна.

Быў у нас яшчэ адзін сябра «Экватара», які быў у клубе з дня яго заснавання, і пакінуў нас не таму, што мы гэтага пажадалі ці ён, а таму, што ён пакінуў гэты свет. 20 сакавіка 2016 года памёр Валеры Скакун, вельмі рана – ва ўзросце 54 гадоў. Гэта стала вельмі цяжкай стратай для ўсіх «экватарцаў». Валеры быў душой клуба, ён шмат удзельнічаў у выступленнях, часта ездзіў з канцэртнай брыгадай «Экватара» па воінскіх частках і не толькі. Валеры выдаў некалькі кніг паэзіі і дзве кнігі прозы: «Паўночны варыянт» і «За зацяненнем Поўначы». Зараз рыхтуецца да выхаду пасмяротнае выданне – вялікая кніга вершаў. Многія з нас страцілі не толькі калегу па пісьменніцкім цэху, але і блізкага сябра. Так, кіраўнік нашага клуба Вячаслаў Корбут сябраваў з Валерыям 25 год, я асабіста ведала яго напрацягу 10 год. Страта гэтага чалавека і сябра – цяжкі ўдар для нас...

І вось новы, пяты нумар альманаху «Літаратурны экватар». Хаця, на самой справе – гэта нумар сёмы. Чаму ж нумар пяты? Пяты – з міжнародным кодам ISSN. Першыя два гэтага кода не мелі. Але нейк так наш кіраўнік Вячаслаў Корбут у 2012 годзе замахнуўся на Парыж, дзе гэтыя ISSN-ны прысвойваюцца. Наша знаёмая перакладчыца некалькі разоў на дзелавой англійскай мове пісала лісты ў гэты самы Парыж, а мы выконвалі ўсе патрабаванні, якія адтуль паступалі. У выніку – мы маем міжнародны код ISSN, і наш альманах гэтым унікальны. Нездарма ж Беларуская Нацыянальная бібліятэка запатрабавала ў спадара Корбута нават першыя два нумары нашага альманаху, што яшчэ не мелі коду





ISSN, – маўляў, мы хочам ведаць, з чаго пачынаўся ваш альманах «Літаратурны экватар», і каб у нас усё гэта было. Ну, а для пяці нумароў альманаху з кодамі, канешне, была зроблена афіцыйная рассылка па асноўных бібліятэках краіны.

Але ж вернемся да нумара пятага альманаху, у якім вы чытаеце гэты артыкул. Ён мацнейшы за іншыя нумары, хаця, хібы ўсё роўна ёсць – дакладней, не хібы, а слабыя аўтары. Хаця, можна ўпэўнена зазначыць, што з кожным годам іх усё менш.

Пазіцыя адбору твораў у альманах ізноў жа такі «экватарыяльная», пасяродкавая – асабліва што тычыцца мовы напісання. Нікога не прымушаем пісаць толькі па-беларуску альбо толькі па-руску. У праекце, дарэчы, размешчаны творы на абедзвюх мовах. Абмежаванняў па жанрах і тэматыцы твораў таксама няма.

Узрадавала далучэнне да альманаху у гэтым годзе нашых сяброў з Інстытута літаратуры Акадэміі навук РБ Таццяны Барысюк і Сержа Мінскевіча. Абодва яны – вядомыя літаратары. Таццяна Барысюк – паэтка і літаратурны даследчык, Серж Мінскевіч – паэт, бард, перакладычык. Безумоўна, іх творы ўпрыгожылі пяты нумар альманаху «Літаратурны экватар».

Майстар-клас па паэзіі і прозе прадэманстраваў кіраўнік клуба Вячаслаў Корбут, які размясціў на старонках альманаху не толькі нізку выдатных вершаў, але і вельмі цікавае апавяданне.

Што тычыцца аўтараў нашага клуба, то ў нас розныя ёсць: і моцныя, і сярэднія, і слабыя. Апошніх, дзякуй Богу, няшмат.

Але многія аўтары растуць, а некаторыя нават растуць крута. І гэта, безумоўна, – заслуга той літаратурнай вучобы, што праводзіцца на паседжаннях клуба. Найбольш яркі прыклад – Раіса Паўлючук, якая прыйшла да нас у 2013 годзе пачаткоўцам, а ў 2015 годзе стала срэбраным лаўрэатам Нацыянальнай літаратурнай прэміі «Золотое перо Руси» у намінацыі «Моя малая Родина». І сёння творы Раісы Паўлючук могуць упрыгожваць старонкі самых аўтарытэтных выданняў.

Ёсць у нас і аўтары, якіх я называю «шчасце рэдактара», бо ў іх матэрыялах амаль няма чаго рабіць. Гэта такія людзі, як Кацярына Мяшкова і Юрый Мельнікаў. Але ж, зразумела: яны прафесійныя філолагі.

Бездакорныя творы таксама прадставілі ў пяты альманах Якаў Рыгоравіч Анапрэенка і Яўген Вермут. Яўгену мы ўсе, дарэчы, вельмі ўдзячныя за стварэнне і адміністраванне сайта «Літаратурны экватар», дзякуючы якому пра клуб «Экватар» і ягоных аўтараў ведаць і ў інтэрнэце.

Упершыню ў гэтым годзе ў альманаху надрукаваны драматургічны твор – невялічкая вясёлая п’еска Галіны Мішнёвай. Цікавымі вершамі парадавалі Валянцін Шведаў і Вячаслаў Данілаў, дастойную прозу прадэманстравалі Тэрэза Кавальчук, Людміла Лазута, Жана Хромава, Вера Феактыстава, Ірына Цуканава. Ірыне, дарэчы, вялікі дзякуй за пастаянны ўдзел у выступленнях у ліку канцэртнай брыгады «Экватара» – таксама, як і Кацярыне Мяшковай, і Веры Феатыставай, і Святлане Шашко-Шаблінскай.

За сябе адкажу. Усё роўна ж спытаюць: чаму надрукавала інтэрв’ю? Справа ў тым, што Данута Бічэль і Алесь Пашкевіч – гэта тыя людзі, якія ў свой час вельмі паўплывалі на мой літаратурны лёс. Менавіта яны садзейнічалі майму ўступленню ў 2004 годзе ў Саюз беларускіх пісьменнікаў – так званы Купалаўскі саюз, за што я ім дагэтуль удзячная. Таму друкую з імі інтэрв’ю – каб засталіся ў гісторыі.

У 2016 годзе ўдзельнікі літаратурнага клуба «Экватар» выдалі шэраг кніг: Ігар Грыцкоў – кнігу прозы «Аднойчы ў нас, на Гомельшчыне», Галіна Мішнёва – кнігу паэзіі «Радость бытия», Людміла Лазута – кнігу прозы «Вузкімі сцежамі», Кацярына Мяшкова – кнігу прозы і паэзіі «Чароўная хваля вандровак». Выхад кніг быў адзначаны прэзентацыямі з удзелам сяброў клуба і запрошаных гасцей. Было файна.

А увогуле, можна ўжо сказаць, што літаратурны клуб «Экватар» – гэта невялікая, але паўнавартасная арганізацыя, дзе праводзяцца некалькі разоў у месяц паседжанні, дзе ёсць канцэртная брыгада, якая шмат выступае ў воінскіх частках, і не толькі, і нарэшце, вядзецца выдавецкая праца – выходзяць кнігі сяброў клуба, і канешне ж, – кожны год новы нумар альманаху «Літаратурны экватар». Так трымаць!

*Інга Вінарская,*
*шэф-рэдактар альманаху*
*«Літаратурны экватар».*





## *ЯКАЎ АНАПРЭЕНКА*

*Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Грушнае Брагінскага раёна Палескай вобласці. Педагог, філосаф, псіхолаг, вядучы навуковы супрацоўнік, дэпутат, адзін з заснавальнікаў Партыі народнай згоды, супрацоўнік Службы бяспекі Штаба XXII Алімпійскіх гульняў, ліквідатар аварыі на ЧАЭС, лаўрэат Міжнароднага конкурсу ўрада КНДР, аўтар навуковых прац па праблемах сацыяльнай псіхалогіі, дэкалогіі «Эклектыка», гексалогіі «Про́лагі», эсэ і аповесцяў краязнаўчай тэматыкі. Ма́е дзяржаўныя і ведамасныя ўзнагароды.*

### Зямляк мой Палуян

Еду да мамы ў сваю родную вёску Грушнае – гэта каля паўтысячы кіламетраў ад маёй сталічнай кватэры, 25 кіламетраў на поўдзень ад райцэнтра. Колішні даследчык беларускіх старадаўнасцей А.К. Кіркор гэтую мясцовасць апісаў так: *«Среди болот, на берегу Брагинки и небольшого озера, местечко Брагинь… Далее тянется царство туманов, лесов и болот»*.*

Але ж Брагін ма́е настолькі багатую і часам малавядомую гісторыю, што сучаснікам ёсць падставы ганарыцца многімі яго людзьмі і падзеямі. Узяць хоць бы згадваемы 1147 год: Масква пачала будавацца ў той час, калі Брагін, згодна Іпацьеўскаму летапісу, даўно ўжо існаваў: *«Ростиславъ же иде Смоленьскоу по томъ же веремени како оуже рекы сташа пославше Олговичи Двдвича дроужиноу свою с Половци воеваша Брягинь»**.*

Землякі ганарацца тым, што ў пачатку XVII стагоддзя адсюль з’явіліся на маскоўскім троне самаабвешчаныя расійскія цары

*Киркоръ А.К. Въ Белорусском Полесье. / Живописная Россія: Отечество наше въ его… значеніи. – Изд. Вольфа, СПб.-М.: 1882, с. 381.

**Полное собрание русских летописей. – Т. 2. – СПб.: 1908, с. 327-360.

Ілжэдзмітрыі*. Брагіншчына памятае масавы патрыятызм і самаадданасць сваіх жыхароў пры абароне Айчыны. Адсюль пайшлі на вайну з Напалеонам мае прапрадзеды Анапрэенкі, Шрамянкі і Ветчанкі; радавым 175-га Батурынскага палка адправіўся на фронт Першай Сусветнай вайны мой прадзед Анапрэенка Іван, які гераічна загінуў 30.05.1915 года і пахаваны на Мінскіх Брацкіх воінскіх могілках 1914-18 гг. Брагінскім ваенкаматам былі прызваныя на абарону Радзімы ад фашысцкіх захопнікаў і не вярнуліся больш за 80 маіх аднавяскоўцаў, сярод якіх і мой дзядзька Шрамянок Васіль Дарафеевіч, які гераічна загінуў на фронце. Тут у Брацкай магіле васьмі тысяч патрыётаў Брагіншчыны пакоіцца прах майго дзеда-падпольшчыка Шрамянка Дарафея Нікіфаравіча, страшэнна закатаванага фашыстамі…

Часцяком я ездзіў з мамай у Брагін на базар, або ва ўнівермаг за абноўкамі перад навучальным годам, сфатаграфавацца для камсамольскага білета, па іншых прычынах, і горад паўставаў перада мной з кожным годам усё больш прыгажэйшым. У апошнія «савецкія» дзесяцігоддзі райцэнтр быў звязаны аўтобуснымі зносінамі з усімі вёскамі раёна, раённымі, абласным і рэспубліканскім цэнтрамі, а на самалёце «Ан-2» з нізкім коштам білета штодзённа можна было хутка дабрацца да Камарына, Лоева, Гомеля, Мазыра, Кіева, і мне неаднаразова прыходзілася карыстацца яго паслугамі. Аэрадром знаходзіўся на месцы сучаснага мікраараёна вуліцы Скарахода да дарогі Р125, які называўся «Палуянаўшчына» – тут у сямействе Палуянаў меліся сад, агароды і гаспадарскія пабудаванні.

Беларускі вучоны, доктар гістарычных навук Іван Васільевіч Палуян перакананы, што палуяны – гэта зборшчыкі мёду, якія аддавалі палову меркі** памешчыку, і адсюль пайшло прозвішча. Яшчэ ў дзяцінстве ён чуў аб гэтым ад старых людзей, таму лічыць магчымым паходжанне Палуянаў у Брагіне ў даўнія часы галада-

*Ганжураў І.Ф. Тут Ілжэдзмітрый баляваў. / Памяць. Брагінскі раён: Гісторыка-дакумент. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. – Мн.: Маст. літ., 2003, с. 46.

**Мерка – старадаўняя мера аб'ёму, каля 39 л. – (АЯР).





мору, калі мясцовы пан завёз сюды для папаўнення сялян з іншых месцаў. Але меркаванне аўтарытэтнага прафесара сумнеўнае.

Вядомы беларускі паэт Алег Антонавіч Лойка (1931-2008), апісваючы ў сваім рамане-эсэ знаёмства Янкі Купалы з Сяргеем Палуянам у Вільні ў жніўні 1909 года, яшчэ не ведаў, калі менавіта і дзе нарадзіўся «будучы беларускі Бялінскі... настойлівы, упарты... умее адстойваць свае густы, свае перакананні...»*. Не ведаў пра гэта і пляменнік Анатоль Мікалаевіч Шалін, які ў сваіх успамінах указаў толькі гады жыцця свайго дзядзькі Сяргея: 1890-1910**.

Гэтае адкрыццё зрабілі выдатныя беларускія вучоныя муж і жонка Рагойша Вячаслаў Пятровіч і Кабржыцкая Таццяна Пятроўна. У выніку ўпартай карпатлівай шматгадовай працы яны ўстанавілі: знакаміты першы прафесійны беларускі тэатральны крытык, літаратар і грамадскі дзеяч Палуян Сяргей Епіфанавіч нарадзіўся ў мястэчку Брагін Рэчыцкага павета 8 кастрычніка па Юліанскім календары (20 кастрычніка па Грыгарыянскім) 1890 года***. Указаная сёстрамі Ганнай і Зінаідай дата не выклікае пытанняў, тым больш, што, зыходзячы з праваслаўных традыцый, на гэты дзень прыпадае памяць святых мучанікаў Сергія і Вакха.

У сувязі з тым, што метрыкаў і іншых першасных дакументаў пакуль не знойдзена, некаторыя недасведчаныя журналісты дапусцілі недакладнасці аб даце нараджэння і нават выдуманыя спекуляцыі пра асабістае жыццё знакамітага земляка. Але ж знойдзены яго ўласнаручны запіс пры яго рэгістрацыі ў Кіеве ў 1908 годзе: *«Приехалъ изъ Речицкаго уезда, где родился въ 1890 году и жили родители. Местечка Брагиня житель, города Речицы мещанинъ»*****. Таксама на падставе

*Лойка А. Як агонь, як вада...: Раман-эсэ пра Янку Купалу. – Мн.: Маст. літ., 1984, л. 115.

**Палуян С.Е. Лісты ў будучыню. – Мн.: Маст. літ., 1986, л. 159.

***Кабржыцкая Т., Рагойша В. Слядамі Znічкі. – Мн.: 1990, л. 27.

****Архів київського РАГСу. Метрична Книга за 1910 рік, частина 3. Померлі по Марії-Магдалинської церкви Київського Маріїнського дитячого притулку. Уявління № КШ-15099.

прадстаўлення прыстава Лук'янаўскага ўчастка Кіева пры пахаванні на Байковых могілках святаром Мікалаем Яронемскім зроблены запіс аб даце смерці С.Е. Палуяна: *«7 апреля умеръ, а 10 апреля 1910 похороненъ возрастом 20 летъ «Минськой губерніи, города Речицы мещанинъ Сергей Епифанович Полуян»**.

Рэвалюцыі і войны нездарма пакінулі свой чорны след, ліквідаваўшы амаль усе звесткі пра народжаных, узяўшых шлюб і памёршых жыхарах Брагіншчыны перыяду 1860-х – 1940-х гадоў. Таму прыходзіцца карыстацца наяўнымі магчымасцямі: апытаннямі жыхароў Брагіна, пошукам магчымых сваякоў Палуянаў, вывучэннем мемуараў і архіўных матэрыялаў. Намі выкарыстаны стаўшыя даступнымі царкоўныя метрычныя кнігі** і рэвізскія казкі канца XVIII – сярэдзіны XIX стагоддзяў***, дзе прыведзены рэвізіі падушнага падатковага абкладання насельніцтва (больш познія не захаваліся) і некаторыя іншыя дакументы. Трэба адзначыць, што ў якасці памешчыкавых сялян Палуяны і Лаўрусенкі ўказаны ва ўсіх гэтых дакументах, у той час як Бахонкі ўзгадваюцца толькі да сярэдзіны XIX стагоддзя. Відаць, гэтае сямейства стала свабодным яшчэ да адмены прыгоннага права, тым больш, што ў епархіяльным друкаваным органе Бахонка згадваецца як багаты прыхаджанін: *«Брагинь. Николаевская церковь. […] Икона Божіей Матери, въ серебряной ризе, весомъ въ 100 золотниковъ, пожертвованная прихожаниномъ Дмитриемъ Бохонко»*****.

*Державний архів міста Києва. Фонд 116, опис 46, справа 8384.

**Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Фонд 136, вопіс 13, справы 493 л. 198-205, 497 л. 32об., 498 л. 103об, 120об, 529 л. 49, 60, 552, л. 87-117, 123об, 161об; вопіс 14, справа 422 т. 1 л. 54-130.

***НГАБ. Фонд 333, вопіс 9, спр. 707, л. 335, 345а-346 п.40, 354а-355 п.80.

****Описаніе церквей и приходовъ Минской епархіи. Прил. къ Минскимъ епарх. ведомостямъ за 1879 г. – Минскъ: Типо-литографія Соломонова, 1879, с. 23.





***На сёння вядомы наступныя звесткі пра дзяцей Палуянаў:***

1. *Неаніла:* 1884 (Брагін) – 1885 (Брагін);
2. *Ганна:* 1886 (Брагін) – 1963 (?);
3. *Яўгенія:* 1889 (Брагін) – 1972 (?);
4. ***Сяргей*: 08.10.1890 (Брагін) – 07.04.1910 (Кіеў);**
5. *Зінаіда:* 17.10.1894 (Брагін) – 16.01.1985;
6. *Людміла:* 29.09.1895 (Астрагляды) – 26.03.1985;
7. *Дзмітрый:* 1897 (Крышычы) – 194(?);
8. *Ангеліна:* 23.12.1898 (Крышычы) – 1996;
9. *Рыгор:* 1900 (Крышычы) – 28.02.1952 (Аргенціна).

Пяць дзяцей былі народжаныя і ахрышчаныя ў Брагіне. Хрысціў іх выдатны святар, настаяцель Брагінскай Мікалаеўскай царквы Максім Анісімавіч Ярэміч (1820-1894), які ўзгадваецца ў дзённікавых запісах архіепіскапа Міхаіла (Галубовіча) падчас яго візіту ў Брагін*, а таксама з іншых тагачасных публікацый**. Іншых дакументальных звестак пра радавод Палуянаў пакуль знайсці не давялося. Лёс дзяцей склаўся вельмі па-рознаму, але ўсе яны, кожны ў сваім асабістым разуменні, імкнуліся да вялікіх мэтаў. Зінаіда, напрыклад, прымала актыўны ўдзел у абароне Айчыны ў перыяд Першай сусветнай вайны – нават начальнік Штаба Вярхоўнага Галоўнакамандуючага ў дакладзе аб параненых у баях каля беларускай вёскі Дрысвяты (зараз Браслаўскі раён Віцебскай вобласці) згадваў пра яе: *«Сястра міласэрнасці Палуян Зінаіда Епіфанаўна змешчана ў Лісавецінскую абшчыну Чырвонага Крыжа, Палювостраўская набярэжная, 5»****.

*Янушкевіч. Я.Я. Дыярыюш з XIX стагоддзя. – Мн.: Хурсік, 2003, с. 256.

**Минские епархиальные ведомости № 24, 1891, ч. неоф. – Мн.: 1892, с. 752; Минские епархиальные ведомости № 5. - Мн.: 1892, с. 133; Минские епархиальные ведомости № 1. – Мн.: 1892 г., с. 26.

***На австро-германском фронте. / "Русское слово", 6.03.1916 г. № 54.

Аб лёсе малодшага брата Рыгора ніхто з сямейства Палуянаў не ведаў да канца жыцця. Але цяпер можна зрабіць удакладненне. У Рускім кадэцкім некропалі Буэнас-Айрэса ёсць мемарыяльная доска з надпісам: *«Полуян Григорий Епифанович, Георгиевский кавалер. Крымский Кадетский корпус, 4 выпуск (1924 г.), вице-унтер-офицер. С гимназической скамьи вступил в ряды Добровольческой Армии. Награжден Георгиевским крестом 4-ой степени. Галлиполиец. В Югославии, после окончания Кадетского корпуса, получил специальность инженера в Загребском университете. В Аргентину переехал в 1949 году. Работал на руднике слюды. Погиб 28.2.1952 при утечке газа в руднике «Сельва», Альта Грасия, вблизи г. Кордобы»**.

Трагічную смерць Р.Е. Палуяна са сваёй жонкай Зінаідай і яе братам згадвае ў сваіх успамінах старшыня Кадэцкага Аб'яднання ў Аргенціне І.Н. Андрушкевіч**.

Па фотадакументах і апытанняў старажылаў райцэнтра вызначана дакладнае месца і нават захаваўся дом, у якім нарадзіўся класік беларускай літаратуры, – у пачатку сучаснай вуліцы Кірава, якая раней неафіцыйна называлася Загароддзе. Гэты дом Сяргееў дзед Іван пабудаваў пасля вызваленння ад прыгону за добрую службу***.

…Стаю на месцы, дзе нарадзіўся вялікі беларус, і неўзабаве здалося мне, што тут маленькі Сяргей, як і я калісьці, займаўся гульнямі, якімі здаўна бавіліся дзеці на Брагіншчыне: вось нехта з дзяцей паступова падыходзіць да бутэлечкі на зямлі і спрабуе палкай няглендзячы трапіць у яе, але Сяргей першы кідае палку і трапляе ў цэль («Пекур»); вось дзеці расставілі ў пэўнай паслядоўнасці фігуры з костачак і паслядоўна камандамі стараюцца

*Кадетское письмо № 50. Буэнос-Айрес, 2007. [Электронны рэсурс]: http://ruguard.ru/forum/index.php/topic,47.0.html. Дата доступу: 01.05.2016.

**"Белая гвардия". [Эл. рэс.]: http://argentina/Kadet_nekropol. Д.д.: 10.05.2016.

***Марціновіч А. Як месяц - адзінокі… Кніга 3 – Мн.: Беларусь, 2008. с. 377.





збіць іх меншай колькасцю біткоў («Бабкі»); вось дзеці даганяюць і жвава дакранаюцца да асаленага вядучага, які расстаўляе пры гэтым рукі, каб любы ўдзельнік гульні мог падбегчы, дакрануцца і выбавіць яго («Квач»); вось Сяргей з хлопчыкамі гуляе ў «Ножыка»…

Але бацька не дазваляў сваім дзецям гуляць разам з сялянскімі. Сам выхадзец з прыгонных сялян, мешчанін Епіфан Іванавіч у пачатку 1880-х гадоў удала і з разлікам ажаніўся з сястрой уладара маёнтка Хатуча* надворнага саветніка** Бахонкі Сцяпана Дзмітрыевіча. Нягожа пляменніку «вашага высакароддзя» вадзіцца з «прастачынамі». Тым больш, брат маці Сяргея Вікенцій, як прыклад іншым, пасля паспяховага заканчэння Віленскага настаўніцкага інстытута працаваў інспектарам гарадскога вучылішча ў Мітаве. Як хацелася палепшыць сацыяльны статус, даць дзецям добрую адукацыю! У асяроддзі «прасталюдзінаў» яго дзецям знаходзіцца нельга. Займаючыся ў Брагіне дробным аптовым прадуктовым гандлем, бацька марыў назапасіць грошай, займець асабісты маёнтак (ён ужо запрыкмеціў нешта ў Астраглядах) і самому стаць панам. У гэтых умовах бацька ставіўся да выхавання дзяцей строга і не заўсёды справядліва. Па ўспамінах сясцёр Сяргея, іх дзед Іван Рыгоравіч часцяком супакойваў празмерны гнеў свайго сына і здымаў псіхалагічны дыскамфорт у сям'і***.

І здаецца мне, што менавіта ў гэты брагінскі перыяд жыцця ў маленькага Сяргея паўсталі першыя пытанні: чаму так многа несправядлівага на свеце, чаму адны жывуць багата, а другія бедна? Мабыць, у душы дзіцяці ўжо ў самым маленстве паявілася псіхалагічная рыса разлому, якая паступова прывяла да поў-

*Памятная книжка Минской губерніи на 1904 годъ. Списокъ землевладельцевъ Минской губерніи, владельцевъ 500 десятинъ земли и более. – Мн.: 1903.

**Грамадзянскі чын VII класа ў Расіі, адпавядаў чыну падпалкоўніка.

***Гл.: Кабржыцкая Т., Рагойша В. Слядамі Знічкі. – Мн.: Выд. ЦК КПБ, 1990; Палуян С.Е. Лісты ў будучыню. – Мн.: Маст. літ., 1986.

нага разрыву з бацькам, да іншага асабістага светаўспрымання, да асэнсоўвання неабходнасці ліквідацыі сацыяльнай несправядлівасці.

У гэтым сэнсе мэтазгодна зазірнуць трохі наперад і пазнаёміцца з матэрыяламі яшчэ адной архіўнай справы.

Сутнасць справы: мала таго, што бацька Сяргея Епіфан Іванавіч Палуян у 1897 годзе з парушэннем заканадаўства купіў у Крышычах спрэчны маёнтак (мабыць, каб танней), – ён жа яшчэ прысвоіў сабе зямлю мясцовых сялян і забараняў ім нават пасвіць на ёй сваіх кароў; у выніку шматгадовых судовых пазоваў да сялян ён з ганьбай прайграў справу* . Таму нават не здаецца мне, а я ўпэўнены ў тым, што менавіта такая антыгуманная пазіцыя бацькі да простых людзей яшчэ больш паўплывала на светапогляды яго сына, што хутка прывяло да кардынальнага разрыву адносін з бацькам і фарміравання рэвалюцыйнай грамадзянскай пазіцыі.

… Здаецца мне, што еду я ў сваё Грушнае па брагінскай вуліцы Палуяна, і весела махае мне рукой маленькі хлопчык Сяргей…

***

Сяргей Епіфанавіч Палуян (8(20).10.1890 – 7(20).04.1910) (псеўданімы: П. Ян, С. Ясяновіч, С. П.) нарадзіўся ў Брагіне, вучыўся ў Мазырскай прагімназіі, Мітаўскай (цяпер г. Елгава, Латвія) гімназіі; супрацоўнічаў у беларускай газеце «Наша ніва» і ў украінскіх перыядычных выданнях; аўтар празаічных твораў,

* «Дело о выкупе земли крестьянами изъ именія Кришичи помещика Александровича. Прошеніе владельца именія Кришичи Епифанія Иванова Полуяна земскому начальнику 3 участка Речицкаго уезда объ указаніи крестьянамъ границъ пользованія сервитутными урочищами въ принадлежащемъ ему именіи Кришичи. Речицкій уездный съездъ въ административномъ присутствіи определилъ: дело производствомъ прекратить. 16.03.1914 г.». – НГАБ. Фонд 1595, вопіс 2, справа 2308, лісты 7, 150, 157, 212.





артыкула «Аб нацыянальнай школе ў Беларусі», рэцэнзіі на кнігу «Другое чытанне для дзетак беларусаў» Якуба Коласа; падтрымліваў творчыя пошукі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цішкі Гартнага; адстойваў духоўнае адраджэнне і правы беларусаў на развіццё сваёй мовы і культуры. Янка Купала прысвяціў памяці Сяргея Палуяна паэму «Курган» і верш «Памяці С. Палуяна», Максім Багдановіч – вершы «С. Палуяну» і першы і апошні прыжыццёвы зборнік твораў «Вянок», а Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.) – верш у прозе «Раны».

## ТАЦЦЯНА БАРЫСЮК

*Нарадзілася 18 кастрычніка 1971 года ў Мінску. Пасля сярэдняй школы № 149 і Мінскага педвучылішча № 1 скончыла філфак БДУ (1995) і аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (2001), дзе працуе малодшым навуковым супрацоўнікам (цяпер гэта Інстытут літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі). Вершы Т. Барысюк друкаваліся ў часопісах «Першацвет», «Маладосць», «Крыніца», «Полымя», «Беларусь», «Беларуская думка», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і некаторых альманахах. Друкуецца з 1993 г. Аўтар паэтычнай кнігі «Аўтапартрэт» (2002) і шматлікіх літаратурна-крытычных і літаратуразнаўчых публікацый. Выступае як паэт, літаратуразнавец, крытык і перакладчык. Аўтар кампаратывісцкіх прац «Сон у беларускай і польскай паэзіі 80-90-х гадоў XX стагоддзя», «Традыцыі англійскага і польскага рамантызму ў сучаснай беларускай паэзіі», «Пошукі бессмяротнасці ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі», «Нацыянальныя вобразы свету і чалавека ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі». Піша дысертацыю «Ідэйна-жанравыя пошукі ў сучаснай беларускай паэзіі». Да лепшых твораў адносяцца таксама сыны – Андрэй і Пётр.*

***

*М.К., першаму каханню і мужу*

Сустракаемся мы – прастора і час
губляюць значэнне.
Бясконцасць і Вечнасць
праз нас
праступаюць.

*17-18.10.2005*



***

*М.К.*

Узаемасчапленне пачуццяў – як Космас…
Ты мяне ўжо адрокся і выкрэсліў з сэрца.
Свеціць нам абаім Вока Божае – Сонца,
толькі ў Вечнасці ўжо болей нам не сустрэцца.

Халадэча астральная, чорныя дзіркі…
Міжпланетныя сувязі ладзяць істоты.
Ад расстання ад нашага – горка і прыкра.
Спее смутак сусветнай маёй адзіноты.

*23.02.2016*

***

*М.К.*

Перад кожным снаўпадзеннем:
«Я-хацела-быць-з-табой…» –
прамаўляю летуценню,
марнай мары, лёсе мой!

Нам не быць з табою разам,
мы спалілі ўсе масты.
Толькі з тэлефонных фразаў
я адчую: існы ты.

Нат без слоў і без выявы –
я цябе пабачу ў снах…

Прысмак палыну гаркавы.
Жыць без сэрца – боль і жах…

*20.12.2014*

**Саснёнай дачушцы***

Ты помніш, я прыходзіла – у сне,
а ты мяне, занятую, чакала?..
– Калі ты, мама, забярэш мяне? –
у інтэрнаце тым мяне пытала.

А я тлумачыла, што многа спраў,
што для яе зусім не маю часу.
Яна ж і разумела ўсё, аднак
была такой пакрыўджана-няшчаснай!

А я сыходзіла. Надоўга. Боль…
Сюжэт той стрэчы сніла двойчы-тройчы…
Згадаю сон – адчую сорам, золь,
і ўбачу зноў заплаканыя вочкі…

*4.04.2014*

**Мужчынскае шчасце**

*N.N., трэцяму мужу*

Кажаш «кахаю», а я ўсё ж – не веру!
Аналізую і словы, і ўчынкі,

* Такі сон бачыла двойчы (або тройчы) у 1990–1995 гг. Дачушку майму першаму мужу нарадзіла іншая жанчына.





вымушаную, халодную вернасць,
колкасці, крытыку нат без прычыны.

Моташна ў клетцы сядзець Апалону,
хоць і даўно пасівелыя скроні.
Шашні ў мінулым. Прыелася жонка.
Шчасце ў яе сапсаваным настроі.

*30.04.2013*

**Формула жаночага шчасця ў шлюбе**
*(антыпарады)*

*N.N.*

Муж здраздзіў? Б’е? Астыў? Няхай!
Трывай. Цярпі. Даруй. Кахай.
Забудзь пра талент, летуценні –
і стань яго маўклівым ценем.

*5.11.2013*

**Дзень маці**

*N.N.*

…сакрэт сямейнага шчасця… –
сама, сама, сама…
*Людміла Кебіч*

Учора Дзень маці адзначылі:
учора мы з мамай ішачылі.
Для печкі з аўто выгружалі
мы гліну – аж сто кілаграмаў,

цаглін дзвесце, тону пяску –
да цемры, да болю ў баку.

А мужу было фіялетава:
віно піў, еў на юбілеі ён.
Ці будзе жаночае шчасце?
Наўрад ці…

*15.10.2013*

**Рытарычнае пытанне**

Як ратаваць сваё Сонца душы,
той, што забіта знявагаю роспачнай?
Як навучыцца, праз пекла праходзячы,
скаргі свае ў скрушным сэрцы душыць?

*5.03.2016*

**Літаратуразнаўцам і мовазнаўцам,
рыцарам слова**
*(санет)*

*Да Дня абаронцаў Айчыны*

Прааналізаваўшы сусвет,
што стварылі калісьці паэты,
адкрываеце людзям сакрэт
іх ідэй праз сузор’е канцэптаў.

Вы спасціглі і мову, і стыль,
і адметны пісьменніцкі космас,
каб глыбінныя з’явы знайсці,
што хавае іх аўтарскі Логас.





Кожны з вас – воляй цвёрдаю лют,
спазнае паэтычныя зоры,
каб данесці іх бляск – Абсалют

нават тым, хто душой з інфузорый.
Бо філолагі – нашы мужчыны –
абаронцы бяссмерця Айчыны!

*23.02.2011*

**Настаўніца з вялікай літары**
*(залатое сячэнне : 5+8=13)*

*Да 70-гадовага юбілею
доктара філалагічных навук,
прафесара кафедры рускай літаратуры
філалагічнага факультэта БДУ
Ірыны Сцяпанаўны Скарапанавай*

Постмадэрнізму планету адкрылі
Вы ў беларускай здзіўлёнай навуцы.
Працай грунтоўнай Расію скарылі.
Гэты напрамак расправіў Вам крылы
да новых мэтаў даследчых імкнуцца.

Вашай увазе – гульня з сімулякрамі,
у віртуальных рэальнасцей цуд.
На нелінейных шляхах – сны абстрактныя,
бітвы цытатаў – як суд чытачу.
У хаатычным сусвеце, між ісцін,
дзе жанраў межы парвала свабода,
для традыцыйнай эстэтыкі выйсцем –
Ваш светлы Розум, Душа і Асоба!

*2.04.2015*

**Горад Мінск – гэта тэкст**
*(залатое сячэнне перавернутае)*

Лабірынты вуліц, паркаў,
людзі – быццам сімулякры.
Варажбіткі – феі – паркі
хочуць мне пачысціць чакры.
Люстраных адбіткаў безліч –
быццам сход братоў ці клонаў.
Зноў вампір падорыць немач –
з’есць энергіі цыклоны.

З сноў дзівосных, фантастычных
ажываюць персанажы.
Карнавальны фэст, містычны:
танцы, маскі, жэсты страшаць.
Мінск – як тэкст з людзей, пейзажаў…

*26.03.2015*

**Цвіў язмін**
*(залатое сячэнне)*

*Памяці мамы*

Помню: ты, маладая і жвавая,
нас на лецішчы клікала есці.
І язміну галоўкі бялявыя,
набрынялыя пахкаю аурай,
нас натхнялі чароўнасцю весняй.

І здавалася, будуць заўсёды
маладосць твая і неўміручасць.





Ты, нібы незгінальнасці ода,
ратавала ўсіх блізкіх спадручна.
А калі ты хваробе скарылася,
мы цябе зберагчы не адолелі.
Нас язміну журба белакрылая
ахінула самотным зняволеннем.

*26.04.2016*

**Што такое Лондан?**
*(залатое сячэнне перавернутае)*

*Заслужанаму прафесару*
*Арнольду МакМіліну*
*на 75-годдзе*

Што такое Лондан? Гэта Таўэр,
Біг Бэн на Вэстмінстэрскім абацтве.
Тэмза і сабор Святога Паўла.
Веліч Бэкінгемскага палацу.
Гэта каралева-дзеці-ўнукі.
Універсітэт, музей брытанскі.
Дэндзі, «Бітлз», хіпі, бугі-вугі.
Смог над Сіці, плошчай Трафальгарскай.

Блумсбэры, цуд-паркі, квет-сады.
Тут архітэктуры стройнасць ліній
і парад культурнай пекнаты.
І сярод брытанцаў – one in (a) million –
тут жыве спадар Арнольд МакМілін.

*21.06.2016*

**Страсць**
*(залатое сячэнне)*

Сустрэча позіркаў, усмешак, слоў
і прыцягненне дум, і душ, і целаў…
А побач ён, мужчына з мрояў-сноў,
яго ў самоце ўспамінаю зноў,
бо разам з ім да зорак узляцела.

Калі гарыш у полымі спакусы,
калі не можаш жыць без чалавека,
а пацалункі апякаюць вусны
і ёсць парыў пяшчоту зведаць,
тады Сусвет знікае прыкры-звычны,
стыхіяў флейты пачынаюць граць,
тады так апантана, феерычна
ўзрывае нашу падсвядомасць страсць!

*11.08.2016*





***АФАНАСИЙ БОТЯНОВСКИЙ***

*Родился 19 августа 1985 года в Минске. В 2006 году окончил Республиканский музыкальный колледж при БелАМ. Затем поступил в БГПУ им. М. Танка, который окончил в 2009 году, получив квалификацию «преподаватель музыки». Весной 2009 года издал поэтический сборник «Серебряный голубь», в октябре 2010 года – сборник стихотворений и поэм «Бездна над головой», в мае 2014 года – книгу стихов «Рыцарь духа». Автор генеалогического исследования рода Ботяновских.*

**Наполеон**

Галантный и мятежный век.
У моря юноша мечтает.
Кем станет этот человек,
Еще пока никто не знает.

Неведомый избранник, он
В своей душе мечту лелеет
О том, что миром завладеет
Тот, кто во Францию влюблён.

Сей корсиканский дворянин
Обид, насмешек не прощает.
Он – Гения и Воли сын!
Лишь он пока об этом знает,

Но впереди его – Тулон!
Но впереди его – Россия!
Для королей – Антихрист он.
Для вольной Франции – Мессия.

Его не убелят виски,
Ему не перебьют колени

Ни африканские пески,
Ни ветры острова Елены…

Галантный и мятежный век.
У моря юноша мечтает.
Еще пока никто не знает,
Кем станет этот человек.

**Гул**

В таинственное – с детства верил.
Мне помнится, как ветер дул,
Когда услышал в небе сером
Невольно я чуть слышный гул.

А лет тогда мне было мало:
Ел кашу я, пил молоко.
Мне, мальчику, тогда казалось:
Гул этот очень далеко.

Потом, годами обрастая,
Стал замечать я: гул растет.
Хотелось знать, что он несет:
Ключи от ада или рая?

Что слышим мы теперь: раскаты
Грозы иль Третьей Мировой?
Неужто час пришел расплаты
За кратковременный покой?

Ужели счастье невозможно
Для нас – ни нынче, ни потом?
…Мне кажется, что гул тревожный,
Приблизившись, стучится в дом.





**Наследие**

Не только мат переходил
Из поколенья в поколенье.
Передавалось и терпенье,
И мудрость, и священный пыл.

Не пляски, водка и табак,
Не балалайки и матрёхи –
Отчизны символы. Но так
Пусть заявляют пустобрёхи.

Не трусы и не подлецы,
Нет, отличительные межи
Страны – восставшие стрельцы
И Аввакум, пророк мятежный.

Преданья старины седой
И предков древние могилы,
И крест на храме золотой –
Вот наша крепость, наша сила.

И пусть глумятся наглецы,
От смеха плакать им недолго:
Найдутся на Руси стрельцы
И Аввакум, десница Бога.

**Дети империи**

Мы пили, но не вёдрами,
Ирисками закусывали,
Смотрели прямо, гордо мы,
Себя неплохо чувствовали.

В кино, в театр толпами
Стояли за билетами,
По тротуару топали
И хвастались штиблетами.

А музыку мы слушали
Английскую и шведскую,
Колбаску утром кушали
Родимую, советскую.

Чиновников, начальников
Считали идиотами
И, чтоб не впасть в отчаянье,
Спасались анекдотами.

Не знали мы, несчастные,
Что наше поколение
Увидит дни опасные –
Державы разрушение.

Встречали мы так радостно
Всё новое и пошлое,
Не зная, каким сладостным
Казаться будет прошлое.

**Подражание Борису Слуцкому**

Мы живём в эпоху изобилия –
Развлечений, книжек и услуг.
Ездим – кто в Брюссель, а кто – в Севилью,
Слушая колес упрямый стук.

Времена печально-серых будней,
Времена весёлого кино,





Времена, когда жилось нам трудно, –
Говорят, что вы прошли давно.

Информационная диета
Длилась все застойные года.
Но нет лучшей школы для поэта,
Чем ограничений череда.

Годы чёрно-белых фотографий,
Годы точных фраз и ярких чувств,
Времена преодоленья страха –
Вы нам были, в общем, по плечу.

Часто лагеря мы вспоминали,
Чтоб свободы воздух слаще был.
И дешевым пивом запивали
Славу, доблесть и солдатский пыл.

Мы желаем новым поколеньям
Научиться у своих отцов
Трезвому холодному мышленью,
Чтоб смогли без страха и волненья
Дням суровым посмотреть в лицо.

**Время хаоса**

Трудно в хаосе дней разобраться,
Если думать давно ты отвык.
Легче в хаосе том растеряться
И сорваться – не в бездну, так в крик.

Пролетарии водочку хлещут,
А в словах их обида слышна:

праблемах, на ўласным быцці. Мне здаецца, што ў XXI стагоддзі наша літаратура якраз будзе вырастаць з гэтай сваёй радзіннай кашулі і будзе прымяраць да сябе абсалютна ўсе вопраткі іншых нацый усяго сусвету – ад Польшчы да Мексікі.*

*Інга Вінарская.* Назавіце, калі ласка, асноўныя функцыі, што выконвае на сёння Саюз беларускіх пісьменнікаў. Якім, на Ваш погляд, павінна быць будучае гэтай арганізацыі?

*Алесь Пашкевіч.* Што тычыцца Саюза беларускіх пісьменнікаў... Можа быць, я ізноў скажу крамольную думку, ужо другую на сёння: у ідэале я хацеў бы, каб у нашай дзяржаве, у краіне Беларусь, не было б неабходнасці ў Саюзе пісьменнікаў.

Вядома гісторыя стварэння Саюза беларускіх пісьменнікаў 69 год таму, вядома, з якімі мэтамі ён ствараўся. Калі было забаронена існаванне літаратурных згуртаванняў – у першую чаргу, «Узвышша», – калі былі разгромленыя ўсе творчыя суполкі, якія аб'ядноўвалі людзей адных пазіцый, адных думак, урэшце блізкіх талентаў, дык была створана своеасаблівая літаратурная камуна у двукоссі, гэтакі літаратурны калгас, бо за гуртом лепш было прыглядаць, назіраць, нешта даваць, некага падкупляць...

Цяпер ў нас, нажаль, становішча такое, што Саюз беларускіх пісьменнікаў выконвае функцыі і прадстаўнічыя, і асветніцкія. Саюз пісьменнікаў не толькі прадстаўляе інтэграваныя, абагульненыя інтарэсы сваіх сяброў, але і павінен клапаціцца пра захаванне спадчыны беларускіх пісьменнікаў, якія працавалі таму тысячагоддзе ўжо, – Кірыла Тураўскага, Еўфрасінні Полацкай... На сёння Саюз пісьменнікаў арганізуе вечарыны, адзначае юбілеі класікаў беларускай літаратуры, паколькі, нажаль, ні Міністэрства культуры, ні Міністэрства адукацыі гэтыя функцыі на сябе браць не могуць, а ў некаторых выпадках проста не жадаюць. Саюз беларускіх пісьменнікаў павінен клапаціцца і пра сваіх будучых сяброў. Працуюць секцыі паэзіі, прозы, літаратурнай крытыкі,

*У 2015 годзе беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, атрымала Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры.





дзіцячай літаратуры, драматургіі. Хочацца, каб пісьменніцкая сям'я папаўнялася новымі сябрамі, каб маладыя літаратары адчувалі не толькі маральную, натхняльную, а таксама і фінансавую падтрымку Саюза пісьменнікаў.

Але я ўсё ж такі мару пра тыя часы, калі неабходнасці ў існаванні Саюза беларускіх пісьменнікаў не будзе. Гэта не значыць, што будуць рэпрэсіі, як напрыканцы 30-х гадоў XX стагоддзя, калі засталося толькі некалькі дзесяткаў пісьменнікаў з некалькіх соцень. Я мару якраз пра неіснаванне Саюза пісьменнікаў у тым выпадку, калі ўсе функцыі і задачы, якія пазначаны ў статуце нашай арганізацыі, будуць выконвацца іншымі арганізацыямі, а пісьменнікі будуць выконваць функцыі свае: не бюракратычныя, не прадстаўнічыя, а творчыя.

*Інга Вінарская.* Чаго б Вы хацелі пажадаць усім пісьменнікам Беларусі як старшыня Саюза пісьменнікаў?

*Алесь Пашкевіч.* Хочацца пажадаць ім усім адчуць, зразумець, мець тое, чаго яны не адчулі, не зразумелі, не мелі і не маюць. Найперш – беларускамоўных чытачоў масавых, а гэта значыць, што і адпаведнай дзяржаўнай падтрымкі і павагі да нацыянальнай мовы беларускай. Хачу пажадаць фінансавай незалежнасці, тут і ганарары, і спонсарства – няхай усё ўключаецца. Хачу пажадаць свабоды выказвання сваіх думак, свабоды слова і жыцця ў багатай незалежнай краіне Беларусь, а яшчэ кахання, радасці і спакою.

*Інга Вінарская.* Няхай усе Вашы пажаданні спраўдзяцца. Дзякуй вялікі за інтэрв'ю.

### ***«Снапок цудоўных словаў». Інтэрв'ю з беларускай паэткай Данутай Янаўнай Бічэль (г. Гродна, 3 жніўня 2001 г.)***

Глыбокі летні вечар. Цёплае, нерухомае паветра. Неба, амаль ужо цёмнае, і ў небе гэтым свецяццарознакаляровыя ліхтары. Я лаўлю сябе на думцы, што Брэсцкі вакзал усё-такі вельмі прыгожы, асабліва ўвечары. У маёй кішэні ляжыць білет

«Брэст – Гродна». Я еду да беларускай паэткі Дануты Янаўны Бічэль.

Данута Бічэль – жывая легенда, аўтарка шматлікіх кніг паэзіі, паэтка, чые вершы ўвайшлі ў Залаты фонд беларускай культуры... Якая яна ў жыцці? Як сустрэне яна мяне? Стучаць калёсы цягніка...

А раніцай у Гродна мяне сустракае невысокая, трохі сівая жанчына. Толькі вочы выдаюць у ёй чалавека незвычайнага. Яе карыя вочы адразу бачаць цябе наскрозь і пранікаюць у самыя глыбіні тваёй душы...

Мы прагаварылі з Данутай Янаўнай недзе гадзін пяць. Яна шчыра адказала мне на ўсе мае пытанні, яна чытала мне свае вершы. Большую частку нашай размовы я прапаную вашай увазе.

*Інга Вінарская.* Данута Янаўна, як атрымалася, што Вы пачалі пісаць вершы? Вы памятаеце, у колькі год Вы напісалі свой першы верш?

*Данута Бічэль.* Я нарадзілася ў вёсцы, а вёска тады сапраўды была яшчэ вёскай, не калгаснай вёскай, а менавіта вёскай: без дарог, без розных прызнакаў цывілізацыі. Вёска была тады з лучынай, з лямпай газавай, з печамі. Нашы вёскі тых часоў, яны былі фальклёрныя, спеўныя, і я проста нарадзілася ў песні, у вершах. Гэта доля была мне вызначана маім нараджэннем.

Цяпер, што тычыцца першага верша. Расла я ў вясковай сям'і. Сястра мая была на дзевяць гадоў старэйшая ад мяне. Неяк прыйшлі да яе сяброўкі, сталі гуляць у «кошкі-мышкі». Тады я, можа першы раз у жыцці, злезла на падлогу, ўчапілася за зэдлік, а яны мяне пытаюць: «Мышка-мышка, дзе была?» А я адказваю: «Акунь-дакунь, кунь-кунь-кунь!» Гэта, мусіць, быў мой першы верш. (Смяецца.)

Потым усё было неяк стыхійна. У школе – недзе я была класе ў трэцім – настаўніца выпускала газетку насценную, і я напісала туды вершы. Нажаль, не захавалася тая газетка, і я не ведаю, якога ўзроўню былі тыя вершы, але хлопцы за іх гналі мяне снежкамі ад





школы да дому. Цяпер я часам думаю, што гэта быў мой першы ў жыцці ганарар. (Пасміхаецца.)

Дарэчы, мы з суседскімі дзяўчатамі хадзілі ў школу ў Дакудава, а гэта за шэсць кіламетраў ад вёскі Біскупцы, дзе мы тады жылі. Каб было хутчэй нам прайсці і лягчэй, мы ўсе нешта такое рыфмавалі ўслых. А потым дзяўчаты мае кінулі ўсё гэта рыфмаванне, а я не. Запісвала свае вершы ў сшытачкі. Пайду, бывала, у лес, схаваюся ад ўсіх і нешта такое пішу... Нічога гэтага не захавалася. Мама мая гэтымі сшытачкамі, відаць, печку падпаліла.

Вось такі быў пачатак.

*Інга Вінарская.* Шлях ў вялікую літаратуру... Напэўна, былі людзі, якія Вам дапамагалі на гэтым шляху. Раскажыце пра іх, калі ласка.

*Данута Бічэль.* Тады быў час Беларусі вясковай. Беларусь, дарэчы, і цяпер застаецца вясковай, але жорсткай: сённяшняя вёска залезла ў горад, стала знішчаць яго, знішчаць культуру. Цяпер кожны пачаў думаць толькі пра сябе ды пра сваіх сваячкоў. А тады ў літаратуры было неяк ўсё надта прыгожа, усе трымаліся адзін аднога. Калі з'яўляўся новы талент, дык яго заўважалі.

У 1957-м годзе я скончыла педагагічнае вучылішча з дыпломам выдатніцы і прыехала паступаць у Гродзенскі педагагічны інстытут. Можна было, канешне, пайсці працавць у школу, але я хацела павучыцца яшчэ, таму я і прыехала ў Гродзенскі педынстытут і лёгка туды  паступіла са сваім дыпломам выдатніцы. Яшчэ летам, да пачатку заняткаў у інстытуце, я напісала верш «Роднае слова» і даслала яго ў штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», падпісала «Д. Бічэль». У «ЛіМе» не зразумелі: хлопец гэта ці дзяўчына? Я ўжо вучылася на першым курсе, калі прыехалі ў Гродна паэты Сяргей Грахоўскі і Пётр Прыходзька. Яны высветлілі, хто я такая, паглядзелі на мяне, нічога мне не сказалі, вярнуліся назад у Мінск і тады ўжо надрукавалі ў «ЛіМе» гэты верш з нармальным іменем і прозвішчам аўтаркі «Данута Бічэль». (Смяецца.) Пошта, якую мне прыслалі пасля надрукавання гэтага верша чытачы «ЛіМа», была велізарная. Потым я, напэўна, ніколі не мела такіх водгукаў. Нават з Канады былі лісты. Праўда, так-

сама я іх неяк згубіла. Усё гэта я адвозіла дадому, і яно там недзе прападала ў вясковай хаце.

А дапамагалі мне ўсе: дапамагаў Янка Брыль, дапамагаў Васіль Быкаў, дапамагаў Аляксей Карпюк. Дарэчы, Аляксей Карпюк быў рэдактарам першага майго сборніка вершаў «Дзявочае сэрца». Потым завезлі мяне неяк сябры да Ларысы Антонаўны Геніюш, і гэта ўжо была дапамога іншага, больш глыбокага зместу, духоўная дапамога. Ларыса Антонаўна вучыла мяне, якім павінен быць чалавек, якой павінна быць паэтка, – па свайму, так сказаць, узору. Я яе называла духоўнай мамай. Потым з' явіўся Мацей Юзеф Канановіч з Лодзі. Ён аказаўся родам адсюль, з Гродзеншчыны. Ён таксама мне дапамагаў. Выдаў кніжку маю ў Лодзі ў перакладзе на польскую мову, «Ty – to ty» называлася. (У беларускім варыянце гэтая кніга мае назву «Ты – гэта ты».) Былі вялікія, магутныя людзі. Можа, на ўзрозні сусветным яны і не вялікія, але ў маім жыцці гэта былі вялікія людзі, і яны мне дапамагалі.

*Інга Вінарская.* Данута Янаўна, наколькі я ведаю, з беларускай паэткай Ларысай Антонаўнай Геніюш Вас звязвала шматгадовае сяброўства. Можна даведацца больш падрабязна пра гэтае сябродўства?

*Данута Бічэль.* Калі казаць пра тое, хто на мяне зрабіў найбольшы ўплыў, каму я абавязана ў сваім жыцці духоўным, то Ларысу Антонаўну Геніюш трэба паставіць на першае месца.

Мама мая, вясковая сялянка, ніколі не раўнавала мяне да Ларысы Антонаўны, бо мама мая добра ведала, што займае ў маім сэрцы сваё месца. Але тата мой быў незадаволены. Летам я звычайна пакідала дачку і сына ў вёсцы. Я працавала тады настаўніцай, і летам ў мяне быў доўгі адпачынак. Дык вось, я прывозіла дзяцей да маіх мамы і таты, а сама ехала да Ларысы Антонаўны. І тата мой неяк мне сказаў: «Ты дрэнна робіш, што едзеш да гэтай жанчыны, таму што яна не спрыяе... ў тваім жыцці». Ён гаварыў абсалютную праўду, таму што я ехала да чалавека небяспечнага.

У Зэльве, дзе жыла Ларыса Антонаўна, знаходзіўся ўзмоцнены атрад «органаў». Амаль усе мясцовыя жыхары атраду гэтаму





дапамагалі сачыць за паэткай. Яна была завялікая асоба для маленькага мястэчка, завялікая літаратурная з'ява.

У Зэльву Ларыса Антонаўна і муж яе прыехалі пасля сталінскага лагера. Але, справа ў тым, што ў тыя часы жыццё па-за межамі лагера не надта адрозніваласся ад жыцця лагернага. Добра на гэтую тэму сказаў мой сябра Рудльф Пастухоў ужо недзе ў самым канцы свайго жыцця: «Я адчуваю сябе на волі, як у зоне, толькі па другі бок агароджы».

Ларыса Геніюш – гэта быў мой літаратурны інстытут. Я літынстытутаў не канчала. Я атрымала вышэйшую адукацыю ў Гродзенскім педагагічным інстытуце, дзе даваліся вельмі пасрэдныя веды. У гэтай сувязі ўспамінаюцца радкі А.С. Пушкіна: «Мы все учились понемногу чему-нибудь и как-нибудь...» Паездкі да Ларысы Антонаўны заўсёды давалі мне адкрыццё нечага новага. Так, напрыклад, я высветліла, што ўвогуле не ведаю гісторыі Беларусі, што сапраўдная гісторыя Беларусі зусім іншая, чым тая, што я вывучала па падручніку «Гісторыя БССР». Адным словам, пачалося ўсё са знаёмства з Ларысай Геніюш. Паступова я зразумела, што не ў вёсцы Біскупцы жыву, а жыву ў Краі, які як адна суцэльная рана, як адна суцэльная трагедыя...

Канешне, пасля знаходжання ў лагеры, Ларыса Антонаўна канцэнтравала ў сябе драму і з драмай гэтай жыла, і нельга было ёй нікуды ад гэтага болю падзецца. Тым не менш, яна заставалася чалавекам вельмі дэмакратычным, справядлівым. Яна нават захавала ў сабе крышачку жаночага какетства. Але самае цікавае, што яна несла ў сябе вялікі энергетычны зарад. Усе, хто прыязджаў да яе, зараджаліся гэтым яе зарадам. Вось і я, спустошаная бытам, школай савецкай, жорсткасцю горада, пустэчай нейкай, бездухоўнасцю – усім тым, што было тады вакол нас усіх, прыязджала да Ларысы Антонаўны і, як да акумулятара, падключалася да яе. Яна мяне адпойвала, карміла, пякла нейкае печыва.... Ну чаму яна ўсё гэта рабіла? Яна ж была Вялікая! Я павінна была ёй служыць! А яна рабіла ўсё гэта з прыемнасцю, круцілася кругом мяне. Калі я ад яе выязджала, дык яна, як родная маці, выпраўляла мяне ў дарогу: заўсёды старалася мне нейкіх там прадуктаў з сабой паклас-

ці, старалася падзяліцца ўсім, што вырастала на яе малюсенечкім агародзе. А на агародзіку тым, трэба сказаць, усё расло, цвіло... Але самае галоўнае, Ларыса Антонаўна чытала мне свае вершы. Гэта была паэтка, у якой ніколі не было такога часу, калі не пішацца – так я думаю. Над вершамі яна працавала заўсёды. На першы погляд здавалася, што яна ўсяго толькі хатняя гаспадыня, і нічога, акрамя гэтага, не робіць. Прабяжыцца, бывала, па той Зэльве, у магазінчык зойдзе, па ваду пойдзе – ваду, дарэчы, яна насіла ў вёдрах у руках сваіх. А галава яе ўвесь час працавала над вершамі. Пісала яна іх як экспромты, таму што ёй ніколі не трэба было думаць, што яна іх надрукуе. Яна ўвогуле не ўмела рыхтаваць кнігі да друку. Яна была паэткай сапраўды ад Божага натхнення. Потым прыходзілася часам ёй казаць: «Давайце мы гэтую страфу выкінем, бо страфа гэтая лішняя». Яна не згаджалася, і, можа, мела рацыю, бо гэта былі яе вершы, яе душа...

Прайшло ўжо столькі гадоў пасля смерці Ларысы Антонаўны – у 1983-м годзе яна памерла, – і неяк яна ўсё вырастае, вырастае... Выдалі цяпер усё, што можна было з яе твораў выдаць, усё, што было пад рукамі. Але гэта ўсё роўна не ўсё, таму што ў яе вельмі цікавая эпісталярная спадчына. Яна пісала лісты – і не толькі мне. А калі Іван Пятровіч памёр, муж яе, і яна ў Зэльве засталася адна, то яна пісала вельмі шмат лістоў. У дзень, напрыклад, магла напісаць мне чатыры лісты. Іх усе я пакінула ў Музеі Максіма Багдановіча ў Гродна, у якім доўгі час працавала. Ёсць там зараз тыя лісты ці не, я не ведаю. У лістах сваіх Ларыса Антонаўна заўсёды была такая натуральная, выказвалася вольна пра ўсё. Гэта цэлая, канешне, падзея ў беларускай літаратуры – Ларыса Геніюш. Пра яе адну можна гаварыць усё інтэрв'ю... Менавіта яна навучыла мяне, як трэба жыць на свеце. Я прысвяціла ёй шэраг вершаў. Прачытаю адзін з іх.

**Запрашэнне да Ларысы Геніюш**

Жадаю, не сакрэт,
з табой без аніякае прычыны
на дзень ці два
паехаць да жанчыны,
якая ў нас адна на цэлы свет.

Ад страху адзіноты па начах
паставіла пад лаўкаю сякеру...
І духаў запрашае на вячэру!
Дух продкаў тоіцца ў яе вачах.

Заслана тканаю дзяружкай лава.
Там Багдановіч – найшчырэйшы госць.
На покуці Рагнеда і Прадслава.
І нам з табой таксама месца ёсць.

Хто слову служыць, там бываў не раз!
Да той жанчыны, мудрай і прыгожай,
даеду ў заледзь я, у бездарожжа...
Якая ёсць, з'яўлюся – без прыкрас.

*Інга Вінарская.* Данута Янаўна, я неяк чула ў літаратурных колах гісторыю пра тое, як, цяпер ужо нябожчык, Уладзімір Караткевіч запрашаў Вас на свой Дзень нараджэння: Вы, нібыта, не хацелі ісці, адмовілі яму, і тады ён стаў перад Вамі на калені, прычым у лужыну. Гэта гісторыя праўда ці байка? Вы былі добра знаёмыя з Уладзімірам Караткевічам?

*Данута Бічэль.* Не, я ні разу не была ў Валодзі на Дні нараджэння. Неяк аднойчы мы з Эрыкам, мужам маім, заязджалі да Валодзі і яго Валі – так сказаць, сям'ёй да сям'і. Было гэта летам. Мы добра пасядзелі ўчацвярых, потым пайшлі на Мінскае мора (возера Юбілейнае), і там хлопцы нашы пакупаліся, а мы ножкі ў тым моры крышачку папаласкалі... Але факт гэты, што Валодзя станавіўся перада мной на калені ў лужыну, сапраўды меў месца. Было гэта так. Прыехала я неяк па сваіх справах у Мінск і ішла па сталіцы, а тут раптам аднекуль збоку ў скверыку Купалаўскім з'явіўся Валодзя. Убачыў мяне, падышоў і стаў перада мной на

калені. Дарэчы, ён не адзін раз у жыцці станавіўся перада мной на калені. Такіх выпадкаў было некалькі. Але, я думаю, што я не выключэнне з правілаў. (Смяецца.) Было некалькі жанчын, перад якімі Валодзя на калені станавіўся. Ён проста граў увесь час рыцара.

У мяне было вельмі чыстае, вельмі прыгожае сяброўства з Валодзем Караткевічам. Я такая шчаслівая, што была яго сучасніцай! Ён быў незвычайны чалавек. Мы мала сустракаліся, але ўсе гэтыя сустрэчы запомніліся і знайшлі адлюстраванне і ў маёй творчасці, і ў ягонай.

У Гродна Валодзя прыехаў упершыню ў 1965-м годзе. Прыезд яго быў цалкам звязаны з напісаннем кнігі «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Спачатку ён працаваў у архівах, а потым прыехаў у Гродна, каб самому паглядзець на гэты горад. Я Валодзю сустрэла, і мы з ім хадзілі па горадзе Гродна. Я яму горад паказвала, а ён мне пра яго расказваў, бо ён ведаў тады гісторыю Гродна значна лепш, чым я. Я вывучыла сапраўдную гісторыю свайго горада ўжо пазней, і дастаткова цяжка было гэта зрабіць, бо вывучаць прыходзілася па нейкіх крупіцах, кніг добрых не было, ды, шчыра кажучы, і цяпер іх няма. Гэта быў вельмі прыгожы майскі дзень, калі мы з Валодзем Караткевічам хадзілі па горадзе Гродна. Валодзю вельмі Гродна спадабаўся і ён сказаў мне: «Калі б я быў першай асобай у Беларусі і гэта было б у маёй уладзе, то я загадаў бы над гэтым горадам зрабіць вялікі такі купал, каб паветра і ўсялякая хімія яго не разбурылі». Пазней Валодзя прыслаў мне з Мінска верш «О Каложа, туга мая светлая...» Прыгожы вельмі верш. Я спадзяюся, што ён застанецца ў нашай літаратуры. Я таксама напісала верш пасля той маёй сустрэчы з Валодзем. Называўся ён «У Гародні вясною з Валодзем Караткевічам»:

А прывёз самалёт Валодзю
у Гародню, нібы ў санаторый.
І мы сустракаліся з ім,
дзе пачынаўся Баторый.





Не варухнуліся сфінксы
на варотах Аўгуста Трэцяга.
Сустракаліся і размаўлялі
на руінах муроў, на хрыбеціне.

А з бессмяротных стагоддзяў
зарыкаў не забіты тур.
Ланцуг крыжакоў прыходзіў –
іх у Нёман адкінуў мур.

У касцёле нашым апосталы
нас прымалі ў святы свой рад.
Да Святога з Вечнаю Кнігай
быў падобны Валодзя, мой Брат.

Пра Валодзю Караткевіча можна было б шмат расказваць гісторый, але гэта было б асобнае інтэрв'ю – інтэрв'ю пра яго...

*Інга Вінарская.* Жыццё, адданае творчасці, вершам. Вы не шкадуеце аб гэтым?

*Данута Бічэль.* Не. Таму што менавіта творчасць з'яўлялася і з'яўляецца дагэтуль сэнсам майго жыцця. Я ўклала сваё жыццё ў вершы і шкадую, што не ўсё, што я ўсё ж такі не здолела так сабрацца, каб працаваць над вершамі суткамі.

*Інга Вінарская.* Данута Янаўна, з якімі беларускімі перыядычнымі выданнямі Вы ў цяперашні час супрацоўнічаеце, і чаму?

*Данута Бічэль.* Перш за ўсё, гэта каталіцкіцкія выданні: «Наша вера», «Ave Maria», «Беларускія каталіцкія навіны» і «Маленькі рыцар беззаганнай». Гэта тое, што ў мяне на сённяшні дзень ёсць. Усе гэтыя выданні шукаюць аўтараў, бо наша постсавецкае грамадства, яно ў асноўным атэістычнае, а нават калі не атэістычнае, то нейкае ўсё роўна далёкае ад рэлігіі, і выбар аўтараў тут невялікі.

Раскажу больш падрабязна пра часопіс «Наша вера». Галоўны рэдактар там Хрысціна Аляксееўна Лялько. Яна сама неяк запрасіла мяне супрацоўнічаць з гэтым часопісам, вельмі

хутка надрукавала там падборку маіх вершаў, а потым стала запрашаць на рэдкалегіі. Трэба сказаць, што рэдкалегіі ў часопісе «Наша вера» праходзяць зусім па-іншаму, чым у постсавецкіх рэдакцыях. Прыходзяць людзі, з імі ветліва вітаюцца, садзяць іх за стол і кормяць абедам. (Усміхаецца.) Так, збор рэдкалегіі ў часопісе «Наша вера» пачынаецца менавіта з абеду. Перад абедам абавязкова чытаюць малітву. Усе нейкія ветлівыя, далікатныя, прыгожыя, разумныя. Людзей мала. Кожны чалавек беражэцца. Пасля абеду ўсе пачынаюць абмяркоўваюць справы літаратурныя, выказваюць кожны свае думкі. Я ў гэтым часопісе знайшла сапраўды мілых людзей. Некаторых з іх я ведала даўно, з некаторымі пазнаёмілася там. Напрыклад, я пазнаёмілася там з супервярстальшчыкам Алегам Глекавым. Ён не проста тэхнічны работнік, а мае яшчэ і бездакорны густ і можа даць прафесійную літаратурную адзнаку кожнай публікацыі. У часопісе «Наша вера» зусім іншая сітуацыя, зусім іншыя людзі, чым у любым постсавецкім выданні. У рэдакцыю «Нашай веры» часта прыходзяць ксяндзы, бо гэта каталіцкі часопіс. Ёсць у іх адна пані, якая дапамагае «Нашай веры» матэрыяльна: збірае сродкі недзе па сваіх знаёмых – пані Зося. Яна нават дазваляе супрацоўнікам і сябрам часопіса збірацца перыядычна ў яе кватэры. Але часопіс «Наша вера» мне падабаецца не толькі таму, што ў ім друкуюць мае творы. Мне цалкам падабаецца палітыка гэтага выдання. Калі ў дзяржаўных часопісах друкуюць сябры сяброў, свае сваіх, то тут выбіраюць сапраўды добрую літаратуру, шукаюць такую літаратуру.

*Інга Вінарская.* Рэлігія, вера ў Бога, якое значэнне яны мелі для Вас раней і што яны значаць цяпер у Вашым жыцці?

*Данута Бічэль.* У цяперашні час я адчуваю сваю віну перад Богам за тыя гады, калі я абыходзілася без рэлігіі. Хаця, калі шчыра, абыходзіцца зусім без рэлігіі я і тады не магла.

Яшчэ ў раннім дзяцінстве мама мая навучыла мяне «Ойчэ наш» гаварыць і «Вітай Марыя» і да першай споведзі мяне падрыхтавала. Мама мая была вельмі рэлігійная. Чытаць яна амаль не ўмела і кніг не чытала, але ў яе быў невялічкі «Малітоўнічак», і па тым «Малітоўнічку» яна ўсё ж такі ўмела трохі чытаць і ўсё





жыццё малілася. Побач з мамай маёй заўсёды былі Бог і Святая Марыя, таму яна заўсёды была спакойная. Яна перажыла тое, што перажыла ўся Беларусь. Але маму маю, вясковую запрацаваную жанчыну, ніштo не змагло выбіць з раўнавагі, ніколі яна не рвала на сабе валасы ў прамым і ў пераносным сэнсе. Гэта было рэлігійнае выхаванне, гэта была вялікая школа.

Зараз мяне да рэлігіі цягне ўсё больш і больш. Можа таму, што ўжо старасць надышла. Я нарадзілася яшчэ ў канцы 1937-га года і памятаю нават, як у вайну быў спалены касцёл, у які мая мама хадзіла. У горадзе Гродна, не так далёка ад дома, у якім я жыву зараз, ёсць прыгожы Фарны касцёл, касцёл Францішка Ксаверыя. Гэта і мой касцёл таксама, таму што Святы Францішак – гэта мой Святы. Я нарадзілася ў той дзень, калі ён памёр. У каталіцтве дні Святых – гэта дні іх смерці (іх адзначаюць), а ў нас, смяротных, адзначаюць Дні нараджэння. І ў мяне ёсць другое імя – Францішка, так што я Данута-Францішка, і Святы Францішак – мой магутны апякун. Я зараз адчуваю, што Бог заўсёды са мной, што чалавек не памірае, таму што яго душа застаецца жыць. Яны засталіся са мной, гэтыя вялікія людзі, якіх я ведала, таму што тое, што яны мне гаварылі, яно ўва мне жыве.

Я думаю, што было б зусім някепска, калі б людзі ў нашай краіне чыталі больш рэлігійнай літаратуры, асабліва кнігі пра тое, як жылі людзі, якія пасля смерці былі прылічаны да Святых. Гэта магло б стаць вялікай маральнай падтрымкай, асабліва для бедных людзей. А бедных людзей у Беларусі цяпер значна больш, чым багатых, бедных менавіта матэрыяльна, але не духам, бо гэта адно з другім у Беларусі не супадае.

Рэлігія прыблізілася да мяне цяпер настолькі, што я не адчуваю гэтых дзвюх тысяч гадоў, якія існуе хрысціянства, і жыццё Езуса Хрыстуса, яно сёння больш блізкае для мяне, чым жыццё тых партыйных сакратароў, з якімі мне ў 50-я гады мінулага стагоддзя прыходзілася размаўляць. Я надрукавала неяк у часопісе «Наша вера» верш, які добра адлюстроўвае тое, што я толькі што сказала:

***

Пан Езус дарогай апосталаў вёў
а Маці ўсіх дома чакала
а гэтых дзвюх тысяч кароткіх гадоў
мінула і як не бывала

Пан Езус ідзе на Крыжовую смерць
даруе мне смерцю збаўленне
не бойся маленькае сэрца балець
не бойся свайго паражэння

Вось такая на сёння сітуацыя. Але гэта маё жыццё. Я нікому яго не навязваю. Нельга агітаваць, каб чалавек любіў Бога. Гэта немагчыма.

*Інга Вінарская.* Данута Янаўна, мне здаецца, што сапраўднае каханне заўсёды вядзе да трагедыі. Вы згодны з гэтай маёй думкай?

*Данута Бічэль.* Не, не згодна, таму што я каталічка. У каталікоў такога не можа быць: трагедыі ў каханні. Не атрымалася каханне, дык не атрымалася. Проста тут трэба думаць аб вышыні духа, аб сваёй душы. Так, сапраўднае каханне прыносіць вялікі боль як жанчынам, так і мужчынам таксама, асабліва страта такога кахання. Час, канешне, гэты боль пераадолее. Але трэба пастарацца і самому ці самой гэты боль пераадолець, трэба яго накіраваць на творчасць, калі размова ідзе пра творчых людзей, а ў нашым з табой выпадку, Інга, пра паэтак. Трэба боль гэты выкарыстаць, калі можна так сказаць. Трэба ўставаць ноччу і не рваць на сабе валасы, не плакаць па страчаным каханні, а пісаць пра ўсё гэта вершы, шукаць радкі адпаведныя. І, калі ты напішаш пра гэта добрыя вершы, табе стане лягчэй. І будуць людзі чытаць твае вершы, і боль твой разыйдзецца праз слова тваё па людзях, і ты пазбавішся таго болю.

*Інга Вінарская.* Гэта магчыма, каб жанчына-паэтка мела сям'ю, дзяцей? І ўвогуле, сям'я дапамагае альбо перашкаджае творчасці?





*Данута Бічэль.* Жанчына-паэтка павінна жыць поўным жыццём, жыць жыццём, якое ёй наканавана лёсам. Калі даў Бог гэтую сям'ю, значыць яна павінна мець гэтую сям'ю. Не даў Бог сям'і, трэба жыць без сям'і. Што зробіш? І так, і так можа жыць паэтка.

Учора, напрыклад, мне пазваніла паэтка са Смаргоні – я прозвішча яе не запомніла, – у якой ёсць чацвёра дзяцей і адзін зборнік вершаў. (Смяецца.) Яна мне паведаміла, што Ніл Гілевіч ёй сказаў, што трэба ёй уступаць у Саюз беларускіх пісьменнікаў. Гэта значыць, што яна добрая паэтка, бо ў Ніла Гілевіча ўсё-такі густ ёсць.

Сям'я не перашкаджае пісаць вершы, бо на вершы трэба так мала часу. Яны пішуцца ў любы час, у любым стане. І гадуючы дзяцей, і кормячы іх, і ў бяссонныя ночы, што прыходзіцца каля іх праводзіць, калі яны хварэюць. Бяссонне, між іншым, якраз спрыяе паэзіі. Гэта няпраўда, калі нейкая жанчына кажа, што не стала паэткай, таму што выйшла замуж і ў яе нарадзіліся дзеці. Не стала паэткай, таму што таленту не мела. І ўсё. А дзеці і муж – не перашкода. Абіраючы бульбу, напрыклад, можна напісаць не толькі верш, але і паэму вялікую. Мыючы дзіцячыя пялюшкі, можна напісаць нават цэлы зборнік вершаў для дзяцей. Проста трэба, я паўтаруся, каб у паэткі быў талент.

Недзе ў 1996-м годзе ў Алеся Чобата нарадзілася ідэя напісаць удваіх са мной зборнік вершаў пра Максіма Багдановіча пад назвай «Ты не самотны...» Першую палову гэтага зборніка павінна была напісаць я, а другую – Чобат. У асноўным гэтыя вершы я напісала, ідучы на працу ў музей Максіма Багдановіча. Я ішла, настройвалася, што іду да Максіма. Ужо музейчык быў тады зроблены, усё там было расстаўлена хорашанька, просценька: старая мэбля, розныя іншыя экспанаты. І вось я ішла на працу і думала пра Максіма. Думала светла, чыста, бо кожны дзень трэба было пра яго людзям расказваць, і увесь час ён быў нібыта побач са мной. І па дарозе ў музей неяк зусім лёгка складаліся пра Максіма Багдаговіча вершы. Мала таго. Я ўсё жыццё хацела напісаць верш пра Васіля Быкава, і ў мяне нават быў адзін радок: «Малюе лодку Вася Быкаў». Чамусьці менавіта такі радок. Я не напісала гэты

верш у свой час, калі была знаёмая з маладым і прыгожым тады Васілём Быкавым, а потым, калі я аднойчы ішла да Багдановіча, гэты верш нарэшце ў маёй галаве склаўся.

Для таго, каб пісаць вершы, трэба ўсё-такі, каб было натхненне, а для натхнення трэба, каб у паэткі было нейкае натуральнае жыццё. Канешне, можа такое быць, што і злосць таксама выводзіць на вершы, але тут трэба, каб гэта была не знішчальная злосць, а творчая. Таму жанчына можа і павінна заставацца жанчынай, і вершы яна можа пісаць у любым стане: у замужжы, не ў замужжы, ва ўдоўім стане таксама. Гэта няважна.

*Інга Вінарская.* Перад самай сваёй смерцю Уладзімір Маякоўскі напісаў верш, у якім былі такія радкі:

Как говорят, инцидент исперчен –
любовная лодка разбилась о быт.
С тобой мы в расчёте, и не к чему перечень
взаимных болей, бед и обид.

Як Вы лічыце, каханне можа доўга жыць у бытавых умовах? Ці ўсё ж такі любоўная лодка абавязкова разаб'ецца аб быт?

*Данута Бічэль.* Магчыма, каб каханне, і трэба, каб каханне пасля свайго нараджэння жыло потым увесь час, і пасля смерці закаханых таксама, бо гэта каханне. Тут я ўсё-такі да Максіма Багдановіча вярнуся, да ягонай «Зоркі Венеры». Погляды Максіма і яго каханай і пасля іх смерці на той зорцы недзе, іхняе пачуццё грэе зоркі, так скажам.

Уладзімір Маякоўскі, відаць, не меў у жыцці сваім такога добрага кахання. Ён, скажам так, дрэнны выбар рабіў. У Маякоўскага былі такія жанчыны, якія да яго прысмокваліся, як да вялікага паэта – на самой справе так, напэўна, і было. Але што мы будзем абгаворваць гэтых яго жанчын? Тым больш, што адна з іх скончыла самагубствам. І ўсё-такі эгаізма там было надта шмат.

Каханне, скажу на ўласным прыкладзе, яно не разбіваецца аб быт. Наадварот, яно дапамагае ў быце. Яно дапамагае ў няшчасцях, у выпрабаваннях усіх, у безграшоўі. Дарэчы, менавіта каханне да майго мужа не аднойчы натхняла мяне на напісанне вершаў. Вось адзін з іх:





***

Прынёс ахапак прамення:
– Дзверы хутчэй адчыні!
Не будзь перуном-імгненнем,
маланкі з мяне не ўчыні.

Не зікні за борам рэхам,
бы ў майскім лесе «ку-ку».
Чаму ж ты так доўга ехаў
верхі на маладзіку?

Выкінуў рэшткі страху.
На прысаку рук заснуў.
Стаміўся з вялікага шляху –
сонца з дарогі вярнуў.

Так што, хай яно будзе, светлае каханне на зямлі, хай яно грэе людзей і хай натхняе паэтак і паэтаў!

*Інга Вінарская.* Творчы чалавек – гэта свабодны чалавек, а жанчына з пункту гледжання нашага грамадства можа дазволіць сабе значна менш свабоды, чым мужчына. Жанчына-паэтка павінна ўвогуле звяртаць увагу на грамадскую думку, на законы так званай маралі, альбо дзеля сапраўднай творчасці яна можа дазволіць сабе ўсё?

*Данута Бічэль.* Не, жанчына-паэтка не можа сабе дазволіць ўсё. Патаемна ў гэтым пытанні ты, Інга, маеш на ўвазе распусніцу. Жанчыну-распусніцу я не прызнаю, бо я ўжо старая жанычына. Калі б мне зараз было недзе гадоў трыццаць, і ты задала б мне гэтае пытанне, то, можа быць, я па-іншаму адказвала б. Я таксама ў жыцці прайшла праз нейкі грэх, але сёння я лічу, што магла б гэтага і не рабіць, і абысці, і лепей было б для душы.

Ёсць на свеце розныя краіны, па-рознаму там людзі ставяцца да маралі, ды і сама мараль, напэўна, там адрозніваецца ад нашай. Але мы ўсё ж такі жывем ў краіне, дзе строгая мараль, дзе

людзі сочаць адны за другімі, асабліва сочаць за жанчынамі, і за жанчынамі-паэткамі таксама. Таму я лічу, што не трэба дражніць людзей, а трэба з імі па-людску жыць. І проста: які сэнс у гэтай волі вольнай? Няма сэнсу ніякага.

Зусім іншае, калі прыходзіцца гаварыць пра тое, што жанчыну-паэтку пад маркай, што гэта трэба для яе творчасці, мужчыны рознымі сродкамі: сілай, шантажом, абяцаннямі нейкімі – могуць прымусіць рабіць тое, што супярэчыць яе душы, яе поглядам, яе маральным прынцыпам. І тады яна папросту вымушана адступіць некуды ў бок ад сябе самой, і кепска ёй ад гэтага, ды яшчэ і пальцам на яе ўсе паказваюць. У такім выпадку жанчыне трэба ўсё-такі паспрабаваць змагацца за сябе: за сваю душу, за свае правы, за свой талент.

*Інга Вінарская.* Данута Янаўна, Вы лаўрэат Джяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы за 1983 год. Як і за што Вы атрымалі гэтую прэмію? Ці адбыліся нейкія змены ў Вашым жыцці пасля яе атрымання?

*Данута Бічэль.* У 1983 годзе на Дзяржаўную прэмію імя Янкі Купалы сапраўды вылучылі маю кнігу вершаў «Дзе ходзяць басаногі», і мне трэба было самой на кнігу гэтую нейкую анатацыю напісаць. Я напісала, што кніга мая непрыгожа выглядае і што не трэба мне ніякай прэміі. З Мінска яшчэ доўга мне тэлефанавалі і настойвалі: «Напішы другую анатацыю». Я нічога другога не напісала, але, тым не менш, мне Дзяржаўную прэмію БССР імя Янкі Купалы далі. Але я ўсё-такі лічу, што атрыманне гэтых прэмій залежала тады ад абставін. У маім выпадку членам камітэта па прэміях трэба было паказаць, па-першае, што яны людзі і хочуць мяне падтрымаць у цяжкі для мяне перыяд пасля смерці майго мужа, а па-другое, што яны могуць вылучыць на прэмію чалавека з правінцыі.

Дзяржаўная прэмія БССР складала тады дзве тысячы рублёў – у тыя часы гэта былі вялікія грошы. Яшчэ выдавалі дыплом і значок вельмі прыгожы з Янкам Купалам, пазалочаны такі. Дзеля атрымання ўсяго гэтага выклікалі мяне ў Мінск. Сабралі ўсіх лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій за 1983 год разам, дыпломы і значкі ўручаў Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Бровікаў, быў тады такі дзяржаўны дзеяч. Кожнаму лаўрэату давалі яшчэ гваздзічку. Са мной разам атрымлівала прэмію вялікая брыгада работнікаў Лідскага лакафарбавага завода. І вось гэтыя лідскія мужчыны ўсе свае гваздзікі аддалі мне. Так прыемна мне з-за гэтага зрабілася, тым больш, што тады зіма была. І атрымаўся ў мяне вялікі букет. А за Валодзю Караткевіча яго прэмію атрымлівала яго сястра, бо сам Валодзя на той час ужо памёр. І я палову кветак аддала ёй і сказала: «Занясі Валодзю на магілу». А другую палову гэтага букета я занесла Янку Купалу, бо гэта ж была прэмія імя Янкі Купалы.

Памятаю, ішла я праз Мінск такая шчаслівая! Згубіла ад сваёй сукенкі паясок. (Смяецца.) Потым вырашыла, што трэба неяк маю прэмію адзначыць, і накіравалася да Хрысціны Лялько. Хрысціна Аляксееўна пажадала запрасіць Янку Скрыгана, каб ён таксама выпіў з намі крышачку за маю прэмію. Але жонка Янкі Скрыгана не пусціла яго да нас і сказала так: «Гэта вы спецыяльна ў такі час званіце, бо ведаеце, што я зараз з унукам сяджу, з Янам, і не змагу да вас прыйсці. Вы хочаце, каб дзед мой адзін да вас прыйшоў. Нічога ў вас не атрымаецца!» (Смяецца.) Ужо значна пазней мне давялося ўбачыць таго Яна, унука Янкі Скрыгана. Прыехаў неяк да нас у Гродна Валера Жавалеўскі і Яна разам з сабой прывез. Унук Янкі Скрыгана, трэба сказаць, на той час пераўтварыўся з маленькага хлопчыка ў прыгожага юнака з доўгімі русымі валасамі, завязанымі ў пучок, і з гітарай за плячом. І вось прыйшлі Валера з Янам да мяне на працу ў музей Максіма Багдановіча. Ян сеў і зайграў на сваёй гітары. Божа мой, Божа! Які з яго цудоўны атрымаўся музыкант! Але вернемся да маёй прэміі. Канешне, у маім жыцці гэта была тады падзея. Я, дарэчы, нават сёння ўспамінаю атрыманне гэтай прэміі, як нешта светлае і прыгожае, але толькі з чыста эмацыянальнага боку.

Я нідзе не выкарыстала той факт, што атрымала Дзяржаўную прэмію БССР імя Янкі Купалы, бо я не ўмею выкарыстоўваць сітуацыі. Я засталася правінцыяльнай паэткай і па-ранейшаму стаяла ў чэргах на выданне сваіх кніг у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Апошняя чарга была з 1990 па 1999 гг. У выніку

выйшаў зборнік маіх выбраных вершаў «Снапок». Тады я, дарэчы, для сябе вырашыла, што гэта будзе мой апошні зборнік, які ўбачыў свет у дзяржаўным выдавецтве. Не хачу я больш там друкавацца.

*Інга Вінарская.* Некаторыя сучасныя пісьменнікі кажуць: «У савецкі час хаця б ганарары плацілі, а зараз што?» Як на Вашу думку, калі было лепш жыць пісьменніку: у савецкі час або ў цяперашні?

*Данута Бічэль.* У цяперашні. Таму што зараз хоць і ганарараў не плацяць, але і ад пісьменніка нічога не патрабуюць. Пісьменнік вольны. Так, у савецкі час плацілі ганарары, але затое маглі мне, напрыклад, у сем гадзін раніцы пазваніць з Гродзенскага абкама партыі і сказаць прыкладна так: «Мы в девять часов утра собираем литераторов Гродненщины. Надо, чтобы Вы пришли, потому что без Вас мы не можем с ними разговаривать». Я пачынала выдурняцца і казала: «Ведаеце, я сёння ноччу не спала. Якая з мяне карысць? Я ж стаю каля трубкі і сплю. Мне трэба адаспацца». Назаўтра яны званілі мне зноў і гаварылі наступнае: «Мы всё отложили на сегодня. Сегодня Вы отоспались?»

Я дастаткова доўгі час працавала ў школе, а потым пачала працаваць у музеі Максіма Багдановіча. Музей мой лічыўся адным з аддзелаў Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. І аднойчы мяне ў абкам вадзіла дырэктар гэтага музея. Яна мяне папросту прымусіла пайсці, сказаўшы: «Я ўсё-такі дырэктар вялікага музея, а Вы – мая падначаленая. Ад мяне патрабуюць, каб Вы ў абкам прыйшлі, і Вы са мной туды пойдзеце». І я з ёй пайшла. Заходзім мы ў кабінет першага сакратара, а ён маёй начальніцы кажа: «Елена Андреевна, Вы свободны. Я с Данутой Ивановной буду разговаривать».

Шмат было такіх рэчаў у тыя часы. Калі я ехала, напрыклад, да Ларысы Геніюш, мяне па дарозе маглі затрымаць супрацоўнікі «органаў» і пачаць задаваць нейкія пытанні. Трэба было абавязкова хадзіць на розныя іхнія сходы: у абкам, у аблвыканкам, і гэтак далей. 8-га сакавіка абавязкова запрашалі цябе, у прэзідыум садзілі, але насільна. І ты вымушаны быў ісці, бо як жа ж? Калі





што не так, потым адразу пачыналіся «разборкі». Ты ж абавязкова працаваў недзе. Прысылалі табе праверку на працу. Я ў школе выкладала беларускую мову і літаратуру. Дык вось аднойчы на адзін з маіх урокаў прыслалі ў якасці правяраючай настаўніцу матэматыкі. Настаўніца тая пасля ўрока мне сказала: «Я не ведаю, чаму мяне да Вас паслалі, але мне сказалі, каб я напісала адмоўную характарыстыку на Ваш урок».

Ну, а сёння... Канешне, могуць і сёння са мной некаторыя дзеячы ваяваць, але я магу папросту іх ўсіх паслаць, устаць і пайсці. І сёння мне ніхто нічога за гэта не зробіць. Вы, маладыя, нават не ўяўляеце, ад чаго мы пазбавіліся. Моладзь цяпер жыве і не ведае ці забылася ўжо пра тую сістэму, у якую некалі былі ўцягнуты ўсе людзі, усё грамадства. І нельга было нікуды ад той сістэмы падзецца. Я добра памятаю, як аднойчы Іван Пятровіч, муж Ларысы Геніюш, сказаў: «Жыць у гэтым грамадстве і не замазацца немагчыма. Трэба думаць толькі, каб менш забрудзіцца». Дух волі, тое, што мы жывем сёння у іншай краіне, – вось што галоўнае. На тэлебачанне не запрашаюць – ну, і добра: я магу без яго абысціся, і без радыё я таксама магу абысціся. Але ў мяне ёсць чыстая папера і ручка, і пісаць я магу ўсё, што захачу. Духоўна я сябе адчуваю вольнай у цяперашні час. Нікому не патрэбная? Так. За мяне ніхто не хвалюецца: усё ў мяне ёсць ці не, усё ў мяне добра ці не, але гэта маё жыццё, і я з ім магу рабіць усё, што захачу. Дарэчы, пра жыццё сваё і не толькі пра яго я нядаўна напісала верш пад назвай «Лямант душы польнай паэткі»:

паспрабавала прабрацца з хутару ў горад
з польным снапком за душой думала хопіць
любові цяпла на аўру містычнага плоту
застацца сярод прафесійных забойцаў
забіваюць цвікі забіваюць і не забываюць

завязніла ў камеры коціка шэрага
залізваюць пустэчу польныя кветкі

засохлі ад грызні грызуноў гарадніцы
у Гародні ваўчыц карануюць канторы

ягнятка за плотам мастацтва скубае
сушыць былінку вачамі колеру спелага моху
бачыць дваццаць стагоддзяў шыхт
усяго толькі ста пакаленняў

вочы Маці Хрыста з Галілеі галактыкі
а на хутары сцены адагравае прымурак
пятае пакаленне плот падае і ляжыць
абараняе лежачы дзяўчаты і хлопцы
вяртаюцца на шарачку прасці кудзелю стагоддзяў

нябёсы нябёсы нябёсы нябёсы
не баюся не бойся босенькая

*Інга Вінарская.* Данута Янаўна, Вы доўгія гады жывеце ў Гродна, можна сказаць, амаль усё жыццё. У Вас ёсць шэраг вершаў, прысвечаных Гродна. А як горад Ваш на самой справе да Вас ставіцца? А Вы да яго? Вось я, напрыклад, пра свой родны Брэст неяк напісала:

Я ненавижу, и люблю,
И, проклиная, снова славлю...

У Вас бываюць хоць зрэдку прыступы нянавісці да Гродна, як у мяне да Брэста?

*Данута Бічэль.* У горадзе Гродна я заўсёды адчувала і адчуваю сябе не на месцы. Я нарадзілася ў вёсцы Біскупцы і жыла там у гады свайго дзяцінства і юнацтва. А потым я вельмі была звязана з мамай, татам і сваёй сястрой, і таму – са сваёй вёскай. Усё-такі ў маім характары вельмі шмат вясковага, як, між іншым, і ў маёй паэзіі.

У горадзе Гродна я некалі будавала беларускі домік для Максіма Багдановіча, цацачны такі домік. (Маецца на ўвазе музей Максіма Багдановіча ў Гродна.) Пакуль я ў тым доміку корпалася, я адчувала сябе на месцы, але гэта было таксама нейкае штучнае жыццё. Тым не менш, я ўмела нават з будаўнікамі адносіны наладзіць, і паважалі яны мяне. Я хадзіла па заводах і фабрыках, каб знайсці нейкія будаўнічыя матэрыялы, каб добра зрабіць экспазіцыю. Напрыклад, жоўценькія цвічкі, патрэбныя для яе, я знайшла на абутковай фабрыцы, а металічныя палоскі на «Торгмашы». Людзі ўсюды мяне прымалі і дапамагалі мне. Але, калі гэты мой будаўнічы перыяд скончыўся, я адчула сваю абсалютную непатрэбнасць у горадзе Гродна і нават склала такі жорсткі верш:

Гэты горад нагадвае строму,
а між цесных завулкаў турму.
Тут не вытрываць доўга нікому,
калі нават хадзіць аднаму.

Гэты верш я не здолела нідзе надрукаваць. (Пасміхаецца.) Ён застаўся ў маёй памяці.

А ўвогуле, пра Гродна можна пісаць і светлыя вершы, бо гэта горад прыгожы. Гэта такі крэсовы горад, цацка каралёў польскіх. Ён будаваўся таленавітымі людзьмі, майстрамі. Працавалі тут і таленавітыя архітэктары, і таленавітыя кавалі. Нават цяпер знаходзяцца людзі, якія робяць падробкі пад старажытнасць, і падробкі гэтыя добра ўпісваюцца ў архітэктуру гэтага горада.

Гродна – гэта горад, які некалі захапіў Валодзю Караткевіча, і Валодзя напісаў сапраўды прыгожы раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Гэты горад натхняў і натхняе паэтаў, дарэчы, я думаю, што не толькі беларускіх. Не, Гродна ўсё ж такі таго не заслугоўвае, каб яго лаяць у вершах. Няхай ён сабе жыве, і няхай у ім жывуць шчаслівыя людзі.

У горадзе Гродна нарадзіліся мае дзеці: дачка і сын. Мая дачка – яна мастачка – малюе прыгожа гэты горад. Мне падабаюцца яе карціны. Яе мастацтва глыбока філасофскае. Яно такое сучаснае, мадэрнае, але, мне здаецца, у ім ёсць крышачку наіўнасці нейкай. У дачкі маёй скламіся някепскія адносіны з горадам Гродна, і, дай Бог, каб і ўнукам маім ў гэтым горадзе было добра, бо ўсе тры мае ўнукі таксама нарадзіліся тут. Так што выкінуць горад Гродна са свайго жыцця я не магу, але я б хацела, каб пасля смерці мяне па-

хавалі ў роднай вёсцы Біскупцы, побач з маім мужам і маімі татам і мамай.

*Інга Вінарская.* Вы неяк напісалі мне ў адным з Вашых лістоў, што літаратурны рынак даўно ўжо заваяваны і што ў ім нельга прабіцца без штурхача якога-небудзь, няхай бы ты пісаў нават вельмі добра. Атрымоўваецца, што меў рацыю вялікі Пушкін, калі пісаў:

А слава... луч её случайный

Неуловим...

Поспех, слава – гэта выпадковасць, альбо справядлівасць усё ж такі ёсць, хаця б пасля смерці?

*Данута Бічэль.* Я тут так лічу: калі ты ўсё-такі ўзяўся за гэту работу, то трэба быць прафесіяналам. Усё, што можаш, усё, што табе прыродай дадзена, выкарыстай. А там – як ужо яно атрымаецца. Справядлівасць ёсць. Прыклады таму – Максім Багдановіч і Ларыса Геніюш. Хаця, канешне, як не будзе беларусаў, дык не будзе і Максіма Багдановіча, і Ларысы Геніюш. Хутчэй за ўсё не будзе. Можа некалькі вершаў іхніх і застанецца ў перакладах якога-небудзь іншага народа, але мяне гэта не цешыць, таму што мне хацелася б, каб захаваўся народ беларускі і каб гэты народ захаваў мову беларускую.

Я шмат чытаю цяпер польскай літаратуры. Мне надта падабаюцца вершы Чэслава Мілаша і Караля Вайтылы (Папы Яна Паўла II). Нядаўна мяне вельмі здзівіў і ўразіў адзін верш Караля Вайтылы, верш пра мову. Там гаварыцца, што Радзіма – гэта дом, а мова – гэта дах у гэтым доме. Караль Вайтыла, дарэчы, не аднойчы пісаў пра неабходнасць захавання польскай мовы, а палякі, трэба сказаць, у гэтым сэнсе ў значна лепшай сітуацыі, чым беларусы. Да таго ж, яны маюць такога магутнага заступніка, такога вялікага чалавека, як Папа Рымскі Ян Павел II, які застаўся ў душы палякам, хаця служыць Сусветнаму каталіцкаму касцёлу.

Тая літаратура, што ствараецца пісьменнікамі на мове адной краіны, зусім не патрэбная іншым краінам, бо для іншых краін прыйдзецца літаратуру гэтай адной краіны перакладаць на іхнія мовы. А гэта надта дорага каштуе, бо трэба, каб перакладчыкі выдатна ведалі тую мову, з якой яны збіраюцца перакладаць, а так-





сама ведалі гісторыю і культуру той краіны, якой належыць гэта мова.

Я лічу, што калі ўжо ты ўзяўся пісаць на сваёй мове, дык і пішы на сваёй мове. Не трэба ёй здраджваць. Хіба ж можна перайсці са сваёй на нейкую іншую мову і дасягнуць нечага? Хаця, канешне, рабілі і такое, і некаму нешта ўдавалася, але, я не думаю, што ўдавалася выдатна. Увогуле, што тычыцца поспеху, дык тут не мы, не пісьменнікі, вырашаем. Я так скажу: пісаць трэба добра і халтуры не трэба друкаваць. Ну, а як там далей будзе: возьмуць нас некуды ці не возьмуць – гэта ўжо іншае пытанне.

*Інга Вінарская.* Данута Янаўна, мне часта ўспамінаюцца такія Вашы радкі:

Давайце паспрабуем стаць народам

і скінем скуру гнусную гадзюкі...

Якім бы Вы на самой справе хацелі бачыць беларускі народ?

*Данута Бічэль.* Ну, гэта ўжо з раздзела фантастыкі пойдзе. Я хацела б бачыць беларускі народ... народам! Сапраўды народам, які здольны ахвяраваць сваім дабрабытам дзеля Краю, які здольны памерці за Радзіму, як гэта робяць іншыя народы, як гэта нават рускія робяць. Мне хацелася б, каб нашы людзі навучыліся думаць. І думаць не толькі пра сябе і не толькі на паўдня наперад. Я ўсё ж такі хачу спадзявацца, што наш народ зменіцца, бо моладзь цяпер іншая, чым, напрыклад, маё пакаленне.

У 90-я гады, калі ўтварылася незалежная Рэспубліка Беларусь, да мяне ў музей Максіма Багдановіча прыходзілі дзеткі, і яны ўжо ведалі, хто такі Леў Сапега, хто такі Францішак Скарына, а гэта значыць, што яны ўжо крышачку ведалі сваю гісторыю. Дзеткі гэтыя ўжо любілі сваіх продкаў. Дык вось, мне вельмі хацелася б, каб наш народ нарэшце вывучыў і палюбіў сваю гісторыю, сваё мінулае – так, як гэта, напрыклад, умеюць палякі. Тады, можа быць, мы нарэшце станем прыгожым еўрапейскім народам. Ды хай сабе і не еўрапейскім! Якое гэта мае значэнне: еўрапейскі мы народ ці азіяцкі? Проста трэба, каб мы сталі народам з’ядналым, каб мы ўмелі паважаць і цаніць адзін аднога.

На заканчэнне прачытаю невялічкі вершаваны ўрывак. Мне вельмі хацелася б, каб і ў рэальным жыцці ўсё адбылося так, як у гэтых радках:

Дасць Бог, у Беларусі незалежнай,
ад веснавога сонца разгуканай,
хадзіць, як спадарам, хадой няспешнай
нам паспрыяе доля нечакана.

Прачнуўшыся аднойчы не пад спудам,
убачым, што на небе мы – не ў яме.
Дасць Бог, супольна з беларускім людам
маліцца будзем у Хрыстовым Храме.

А потым Данута Янаўна паказвала мне Гродна, горад, пра які яна, як мне здалося, ужо даўно ведае ўсё. Я, як зачараваная, глядзела на цудоўныя старыя замкі, касцёлы, дамы, паркі. З расказаў Дануты Янаўны, як жывыя, паўставалі перада мной Эліза Ажэшка і Максім Багдановіч. У мяне было адчуванне, што вуснамі вядомай паэткі са мной гаварыла сама Гісторыя.

А калі ўжо я ехала назад у Брэст, то раптам падумала, што толькі сапраўдны талент можа радавацца іншаму таленту, нават маладому.

Мілая Данута Янаўна, дзякуй Вам вялікі за шчодра падараваны мне снапок цудоўных словаў! Дай Вам Бог усяго самага светлага і лепшага ў Вашым няпростым жыцці!





***ІГАР ГРЫЦКОЎ***

*Нарадзіўся 7 верасня 1963 года в г/п Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці.*

*З 1981 по 1984 гг. служыў у пагранічных вайсках КДБ СССР. З 1984 па 2008 гг. служыў у органах унутраных спраў Рэспублікі Беларусь.*

*З 1990 па 1992 гг. – курсант Мінской сярэдняй спецыяльнай школы міліцыі МУС СССР імя М.Ф. Фрунзэ. У 1997 годзе скончыў Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь.*

*З 2008 года на пенсіі па выслузе гадоў.*

*Літаратурай захапляецца з юнацтва. Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар кніг: «Братья» (2012 год: проза), «На южных рубежах» (2014 год: проза), «Аднойчы ў нас, на Гомельшчыне» (2016 год: проза).*

**Гарбата з падманам**
*(Аповесць)*

*З паклонам да нашых бабуль...*

**1.**

– Хто першы пойдзе адказваць?

– Я, я! Не, я! – чуваць дзяцячыя галасы ў пакоі прыватнага дома, што пад нумарам 82 па вуліцы Наватарскай у горадзе Мінску. Гэтак забаўляюцца, гуляючы ў школу, тры маленькія сяброўкі.

У тыя гады (маецца на ўвазе пачатак 70-х гадоў ХХ стагоддзя) ў краіне панаваў развіты сацыялізм. Грамадзяне актыўна працавалі на прадпрыемствах, змагаліся ў сацылістычных спаборніцтвах, старанна дапамагалі сваякам у весцы, альбо гарбаціліся на лецішчы. «Свойскае» сала і яйкі, ці гуркі з памідорам са свайго агароду мелі вясковыя жыхары і гараджане. Тады было такое паняцце як дэфіцыт, а гэта печань траскі, ікра асятровых рыб, каўбаса сервілат, гарбата індыйская і іншыя прадукты, але ж самае неабходнае заўсёды было ў крамах.

У той час маленькія сяброўкі, дзвюм з іх споўнілася па пяць год, а трэцяй – шэсць, сябравалі з маленства. Дзве пяцігадовыя дзяўчынкі вельмі любілі наведвацца да сваёй старэйшай сяброўкі Святланы, якая ўвесь час гадавалася ў бабуліным доме. Бабуля Святланы, спадарыня Настасся вельмі празарлівая гаспадыня, у якой заўсёды была прымаўка: «Запас бяды не чыніць». Яе словы мелі нейкае дачыненне і да цукерак, якія так прыцягвалі маленькіх дзяўчынак. А там, у адным з чыста прыбраных пакояў бабулінага дома знаходзіўся невялічкі дэкаратыўны кошык, даверху напоўнены рознакаляровымі цукеркамі. Здаецца, што ён заўсёды быў напоўнены да верху. Яшчэ з парогу дзяўчынкі адчувалі салодка-прыцягальны пах. У дзяцей ад гэтага аж слюнкі па кішках цяклі, а ў галаве з’яўляўся легкі кайф.

І вось сяброўак сустракае гаспадыня і праводзіць да сваёй унучкі ў залу. Потым яна ставіць на пліту напоўнены вадой чайнік і старанна гатуе бутэрброды, намазваючы халоднае масла.

– Хто першы пойдзе адказваць? – чуваць голас Святланы.

– Я, я! Не, я! – наперабой гарланяць сяброўкі.

На нейкі час іх галасы нібы сціхаюць, а потым зноў яны чутны з залы. Так дзеці забаўляюцца, гуляючы ў школу, але ж іх думкі час ад часу звяртаюцца да па-майстэрску сплеценага кошыка з цукеркамі.

Праз некаторы час бабуля Настасся кліча да стала дзяўчынак, пасярод якога важна адблісквае велізарны самавар, які у гэтай сям`і перадаваўся ад продкаў з пакалення ў пакаленне. Гэткімі рарытэтамі ўжо даўно ніхто не карыстаецца. Вакол самавара – сподкі з кубачкамі, талерка з бутэрбродамі, а трохі далей – чароўны кошык з цукеркамі.

Дзеці хутка апынаюцца вакол стала з прысмакамі, нібыта толькі гэтага і чакалі. Яны хуценька разбіраюць бутэрброды, не зводзячы вачэй з кошыка з цукеркамі. Трохі пазней дзяўчынкі, расчырванелыя ад кіпню, пераглядваюцца, нібы нечага чакаючы.

– Можа, яшчэ? – пытаецца бабуля.

– Так, так, – аднолькава адказваюць дзеці.

– Што, смачна?





– Ага, так, так, – у разнабой кажуць яны.

Такім чынам, піццё чаю зацягваецца яшчэ на час, цяпер ужо з цукеркамі. Насыціўшыся, сласцёны дзякуюць гаспадыню за смачную ежу, і – далей па сваёй справе. А справа ў іх адна, выдумляюць самі сабе гульню: то ў школу, то ў лякарню, то ў краму…

– Якая ж у вас гарбата смачная, – выхваляе адна з дзяўчынак.

– А ў нас усё смачнае, – важна адпавядае Святлана.

– Гэта таму, што гарбата з самавару, – тлумачыць трэцяя дзяўчынка.

– Так, з самавару, а яшчэ і ад таго, што бабуля ўсё робіць і гатуе, а я ёй дапамагаю, – зноў паясняе Святлана.

– А я таксама маці дапамагаю, – кажа адна з сяброўак.

– І я, – далучаецца да іх гаворкі трэцяя сяброўка.

Задаволеныя дзіцячыя галасы ўсё мацней можна пачуць з пакою.

**2.**

На наступны дзень кожная з маленькіх сяброўак займаецца сваімі справамі. Але праз некаторы час, як заўсёды, яны збіраюцца ў прасторным доме бабкі Настассі і яе ўнучкі Святланы.

– Праходзьце, мае дарагія, зараз самавар будзем награваць, – ласкава прымае ўнучкавых сяброўак гаспадыня.

Яна праводзіць дзяцей да залы, а сама ідзе займацца прыгатаваннем гарбаты. Як толькі гатовы кіпень, яна асцярожна пералівае яго з чайніка ў велізарны самавар, каб гэтага не заўважылі дзеці, бо ўвесь час яна завярала, што гарбата гатуецца толькі ў самавары.

– Ідзіце да стала, – запрашае яна дзяўчынак, а сама ў гэты час насоўвае халяву ялавага бота з верху самавара і старанна імітуе накачванне пару. Дзеці адразу тут як тут, іх доўга запрашаць не трэба. Яны рассаджваюцца вакол стала і з цікаўнасцю назіраюць за тым, што робіць бабуля. Цярплівасць ужо даўно пакінула дзяўчынак, і іх рукі самі цягнуцца да самапечаных аладак.

– А, во-о-сь і гарбата падаспела, – кажа бабуля, разліваючы кіпень па кубках. Дзеці з нейкай зайздрасцю неадрыўна сочаць за тым, як напаўняюцца кубачкі.

– Усь-сь, усь-сь, ах, – уцягваюць гарбату з паветрам дзяўчынкі.

– Смачна? – дапытываецца гаспадыня.

– Ага, так-так, – адказваюць тыя.

Дзяўчынкі з вялікай ахвотай ужываюць усё тое, што прыгатавала для іх бабуля Настасся. Праз некаторы час старэйшая з сябровак просіць яшчэ гарбаты і цягнецца да кошыка з цукеркамі.

Яе абедзве сяброўкі хуценька спраўляюцца з першым кубачкам гарбаты і спяшаюцца таксама пачаставацца цукеркамі.

– Ну, што, насёрбаліся? Мо, хопіць? – пытаецца бабуля.

– Яшчэ, яшчэ! – просяць дзяўчынкі.

У зацягнуўшымся застоллі дзеці перашэптваюцца, а потым звяртаюцца да бабулі:

– А чаму вы боцікам падкачваеце самавар?

– А гэта, каб смачней было, – важна папярэджвае з адказам Святлана.

Спадарыня Настасся, сама сабе ўсміхаючыся, пытаецца ў дзяучынак:

– А вашы матулі не гатуюць такую гарбату?

– Не, не, – сумна адказваюць дзве пяцігадовыя сяброўкі, пазіраючы адна на адну, а потым на бабулю.

– У нас не так смачна, – разважае далей адна з дзяўчынак.

– Мо, цукара мала? – спраўяецца бабуля.

– Не, і з цукарам не так.

– А мо, таму, што без цукерак?

– Не, не ад гэтага.

– А чаму?

– Таму што не з самавару, а на пліце з чайніка.

У іх гаворку ўмешваецца яшчэ адна з дзяўчынак, трэцяя сяброўка:

– Гэта ад таго, што заўсёды патрэбна ботам падкачваць.





– Вось бачыце, якая цудоўная гарбата з самавару пад боцікам. Вы ў сябе таксама пакачайце чайнік ботам, калі ў вас дома няма такога самавару, – з усмешкай падказвае ім бабуля.

Ужо ў сябе дома кожная з дзяўчынак спрабавала гарбату па-рознаму прыгатаваную, але ўсё гэта было не тое і не так смачна, як у бабулі Настассі. Дык што ж гэта за цуд, якім валодала гэтая мудрая жанчына?..

**3.**

Прайшоў час, прайшлі гады, і тры сяброўкі сталі таўстазадымі жанчынамі, да якіх і сёння прыходзіць асалодлівы ўспамін, пра тое, як яны чаявалі ў дзяцінстве са старога бабулінага самавару...

## ВЯЧЕСЛАВ ДАНИЛОВ

*Родился 31 августа 1970 года в г. Торез Донецкой области Украины. По образованию – бухгалтер. Пишет стихи с шестнадцати лет. Участвовал в 14-ти коллективных сборниках, в том числе в «Антологии современной русской поэзии Беларуси». Состоял в редколлегии альманаха «Панядзелак». Печатался во многих республиканских газетах и журналах, среди которых «Неман», «Немига Литературная» и др. Автор книги стихов «На ладонях тишины» (2008 год).*

***

Полустанки и перроны.
Сцеплены в состав вагоны –
Пролетят они по рельсам
С неподдельным интересом.

Мимо озера, речушки
И села, где три избушки,
Пролетят, чтоб очутиться
Там, где белый конь резвится.

Мимо дождика слепого,
Неразумного такого.
Обретут друг друга люди –
Пусть у них разлук не будет!

**Новогоднее**

Душа настроена на праздник,
Гитара – на мажорный лад.
Так хочется сюрпризов разных,
Увидеть, как огни горят





На лапах у зеленой елки,
Как дождь блестит из серебра,
Потрогать мягкие иголки.
Пусть фейерверки до утра
Цветными брызгами взлетают
И освещают небосвод!
Пусть грусть на лицах исчезает, –
В квартиры входит Новый год!

***

Февраль плаксив. Почти весна.
Ожили в сердце сентименты.
Люблю такие вот моменты,
Когда я вижу из окна
Луну. И ночь без фонарей.
Меня согреет жар от свечки,
Огонь, горящий в чреве печки,
И... фотографии друзей.

***

Месяц ежится над лесом,
В небесах ему несладко.
Смотрит в море с интересом
И теряется в догадках,

Сколько рыбы там и гротов,
Укрывающих от ветра?
Сколько тайн в них спрятал кто-то
В глубине воды в сто метров?

Одеялом из туманов
Укрывался к ночи город.
Выну руки из карманов,
Подниму повыше ворот

И пойду в пальто из кожи
Через слякоть и ухабы...
Мне не встретится прохожий, –
Угляжу луч света слабый.

На крестах он тихо замер
Очень маленькой церквушки...
С золотыми куполами
Выглядит она игрушкой.

***

Дожди сменяются снегами.
Рябина клонится к земле.
Стихи ложатся на пергамент
И остаются на столе.

А на лице лежат морщины.
Лег на бумагу мертвый стих.
Найдутся, чтоб молчать, причины,
А молвить слово – никаких.

***

Вот к этим минутам однажды вернемся,
Не раз еще будем на звезды смотреть,
Ведь мы ненадолго с тобой расстаемся...
Пусть эти слова нас сумеют согреть.





Мы вместе сейчас загрустили немного.
Я еду неблизко. Нелегок мой путь.
Пусть сердце твое не охватит тревога,
И ночью ты сможешь спокойно уснуть.

Я просто хочу, чтобы строчки на память
Уменьшили тяжесть разлук на плечах,
И чтоб их не ело безжалостно пламя,
Как ест фитили на оплывших свечах.

***

А ветер с востока
Коснулся плеча.
В руке одиноко
Трепещет свеча.

В своих габаритах
Изменится воск.
И веки закрыты,
И выключен мозг.

***

Вот губы твои изогнулись в усмешке,
И я вдруг увидел сияние глаз.
Мне жаль лишь того, что в обыденной спешке
Я это заметил лишь только сейчас.

Глаза засверкали, как будто сапфиры,
И смотрят в меня, как никто не смотрел.
Мне кажется, ты не из этого мира...
Последний фонарь этой ночи сгорел.

***

«С каждым днем я всё больше грубею,» –
Я так думал, надеялся, ждал,
Что я стану однажды сильнее,
Чем гранит вековечный у скал.

Стать хотелось надежней гранита
И прочней, чем булатная сталь,
Потревожить рукой сталактиты,
На высокий взойти пьедестал.

Но, не сделав великих свершений,
Я вошел в этот дом, будто в храм,
Чтобы стать пред тобой на колени
И приникнуть к любимым рукам.

Я не стал ни прочней, ни сильнее.
От разлуки я сталью не стал.
На дорогах лишь холодом веет –
Оказался чужим пьедестал.

***

Шевеля суставами-дверями
И стряхнув с чела остатки снов,
Дом на пустыре, почти что в яме,
Как дитя расплакаться готов.

Самое плохое – еще будет.
Самое хорошее – прошло.
В дождь осенний шли, сутулясь, люди –
У рассвета сломано крыло.





***

Слушать дожди надоело.
Сотнями топятся мысли
В красном вине или белом...
И не рождается истин.

Сдвину послушные шторы.
Тлеет неяркая люстра.
В щели кривого забора
Ветер веселый и шустрый,

Словно в губную гармошку,
Дует. Волнуются лужи.
Жарю на масле картошку –
Мой незатейливый ужин...

**Детское**

Наконец-то свиристели
К нам на хутор прилетели.
Радостный журавль летит,
Детвора «Ура!» кричит.

Стало весело, тепло,
Вдохновенье снизошло.
Этим всем весна приметна...
Долгим будет, ярким лето!

***

Тоскливо мне, я одинок.
Не слышно шелеста дубравы.

Роса не падает на травы.
Я на Олимпе из тревог.

Любовь, как трепетная лань,
Умчалась прочь. Грустят березы.
Стекает сок. Их сладки слезы.
Судьба вновь собирает дань

Сердец, разбитых от разлук,
Познавших боль от расставаний,
И в безысходности скитаний,
Прошедших сквозь горнило мук.

***

Пригорюнившись и опечалясь,
Дни свои дуб считал вековой,
А над ним Луна с Солнцем вращались,
То прохладу даруя, то зной.

На душе не становится легче.
Строит замок тоски ночь-прораб.
Городок зажимается в клещи
Темноты, что ползет, словно краб.

***

Смиряйся, с чем смириться можно,
А с чем нельзя, с тем не мирись.
Иди по жизни осторожно...
Под горку, а быть может, ввысь.





Не зарывай своих талантов,
Ищи сюжеты для картин,
Будь сильным, словно сто Атлантов...
Или, хотя бы, как один.

Умойся снегом на Эльбрусе,
Услышь в ущелье ветра вой.
Узнай, как хлеб туриста вкусен,
И у костра, как Визбор, спой.

***

Выжал Бог из тучи воду,
Выплеснул дожди на землю,
Одарил людей погодой,
При которой души дремлют.

В серой дали небосвода
Звезды спрятаны, планеты.
Ждут мечтатели восхода,
Что блуждает в скалах где-то,

На немыслимых отрогах...
И не спустится в долину.
Валуны на всех дорогах
В грунт вросли наполовину.

***

Проникает свет в зрачок.
Что сегодня я увижу?
Кто подставит мне плечо,
Если, как лимон, я выжат?

Не могу уже идти.
Покидают тело силы.
Выстроились на пути
Свежие друзей могилы.

Стали вдруг мои слова
Неразборчивы, невнятны.
А злорадная молва
Ищет на поступках пятна.

А я просто жить хочу
И бросать на звезды вгляды,
Жизни зажигать свечу,
А не скорбную лампаду.

***

Душа уставшая молчит.
Я счастлив, потому что
Оврагами бегут ручьи
И шепчет ветер в ушко

Березке нежные слова...
В любви ей признается.
Вот-вот проклюнется трава,
Когда пригреет солнце.

**Маме**

Десятилетним пацаном,
Носившим серые штанишки,
Еще не знающим одышки,
Который всем дождям знаком,





Перемахну через забор...
Здесь ветви яблонь по соседству
С крыжовником. Он пахнет детством...
Остудит ветер этот двор,

Где мама молодой была,
Романсы и частушки пела,
Гордиться мной всегда хотела...
В ладошку теплый хлеб дала.

***

В августе согреты летним
Мы с тобой теплом последним.

На второй денек – Илья,
И водица у ручья.

Из прохладной и журчащей
Стала жгучей, леденящей.

Рожью поле колосится,
Не видна его граница.

И по милости природы
Нам собрать бы эти всходы

Для страны и для людей –
Только б не было дождей!

***ТЭРЭЗА КАВАЛЬЧУК***

*Нарадзілася 17 красавіка 1962 года ў Свіслацкім раёне, у вёсцы Студзенікі, каля маляўнічай Белавежскай пушчы. Працуе загадчыкам бібліятэкі ГУА «Гімназія № 2 г. Ваўкавыска». Стаж працы 34 гады.*

*Яшчэ вучаніцай у часопісе «Бярозка» друкавала дзіцячыя вершы. Напісала і выдала ў выдавецтве «Экаперспектыва» тры метадычных дапаможніка для бібліятэкараў і настаўнікаў: «Уроки информационной культуры» (2009), «Сценарии массовых мероприятий для школьных библиотек» (2010), «Данесці цудоўны скарб…» (2013). Друкуе артыкулы ў часопісах: «Бібліятэка прапануе», «Здаровы лад жыцця», «Экалогія», «Роднае слова», «Народная асвета», «Качели», раней друкавалася ў часопісах: «Читаем. Учимся. Играем», «Берегиня дома твоего».*

**«Нашы лясы – гэта наша скарбонка», альбо Выратуйце Белавежскую пушчу!**

Толькі цяпер, калі маю за плячыма трыццаць чатыры гады працоўнага стажу, і хутка ўжо мне на пенсію, зразумела, у якім цудоўным месцы я нарадзілася, як прыемна сюды прыязджаць. Менавіта тут, у вёсачцы Студзенікі, якая знаходзіцца каля самай Белавежскай пушчы прайшло маё дзяцінства.

Цэлы год я чакала адпачынку, каб прыехаць у свой любімы куточак на зямлі. Муж, ведаючы маё хобі збіраць грыбы, і не якія-небудзь, а баравічкі і лісічкі, мяне адразу завёз у мой любімы лес. Яшчэ не пад’ехаўшы нават да лесу, я ўбачыла змены: не было шлагбаўма і нават стаўбы кудысь зніклі. Там, дзе нельга было заязджаць на машынах, былі сляды ад нейкіх бульдозераў. Падазрона мы глядзелі на вялізныя купы бярвенняў каля дарогі.

Прыпаркавалі мы машыну там, дзе заўжды яе ставілі. Штосьці было не так з гэтым лесам. Лес маўчаў, не было чуваць ніводнай





птушкі. Далей пайшлі пешшу, але ісці было цяжка: лясная дарога ўся была перавёрнута трактарамі і экскаватарамі.

Раней толькі ступіўшы ў любімы лес Белавежскай пушчы, у мяне міжволі на твары з’яўлялася ўсмешка, я адчувала асалоду, душэўнае задавальненне. Але ў гэты дзень, закрочыўшы ў лес я адразу адчула крыўду, адчай, падман і жах, і ўсё гэта адначасова. Адразу, у адзін момант мая ўсмешка змянілася грымасай адчаю і страху, нібыта я сустрэлася з прывідамі. Увесь лес быў пераломлены, выразаныя самыя магутныя і прыгожыя дрэвы, вывернуты з коранем маладняк: бярозкі і дубкі, – зрэзаныя кусты лекавага ядлаўцу. Кусцікі чарніц, з вялізнымі невыбранымі ягадамі, выдраныя з каранямі, ляжалі ў гразі.

Гэтую карціну можна параўнаць з самым страшным кашмарам. Усюды валялася кучамі галлё, кара і зваленыя бярвенні. Іх было вельмі многа, і яны адрозніваліся ад тых, якія мы бачылі пры дарозе. Калі там сустракаліся яшчэ некалькі засохлых, то гэтыя былі чысценькімі, роўненькімі, тоўстымі і здаровымі. Ніякага караеда тут не было, я нават разглядвала іх спіленыя пні, кавыралася ў кары, нідзе не было ніякіх слядоў, паточаных караедам. Спіленыя дрэвы ляжалі даўно, і назравала пытанне, чаму ж іх не вывозілі: ад іх жукі-караеды маглі перакінуцца на другія, жывыя яшчэ дрэвы. Наспявала думка, што некаму трэба было як мага больш дрэваў зрубіць. У галаву лезлі непрыгожыя словы, і хацелася крычаць іх на ўвесь лес: «Варвары, нелюдзі, фашысты!»

А на маёй любімай паляне, з якой звязана маё дзяцінства, было суцэльнае «балота»: гразь перамешана з мохам, ягаднікам, ігліцай і паломанымі на кавалкі бярозкамі. Было відаць, што гэтыя вялізныя машыны, якія валілі лес пасля працяглых дажджоў, загразлі і стварылі гэтае месіва. Я глядзела на гэтае месіва і ўспаміналa, які тут быў цудоўны роўненькі мох, як мы ў дзяцінстве на гэтым моху, як на дыване, гулялі, ляжалі, адпачываючы, пазбіраўшы трохі ягад, і чакалі бацькоў, якія побач збіралі грыбы і ягады. Па гэтым дыване можна было хадзіць басанож, такі ён быў прыгожы, сатканы самой матухнай прыродай.

Слёзы засцілалі мне вочы, і я не бачыла ні ягад, ні грыбоў. Усё сваё жыццё я не магла абыходзіцца без гэтага цудоўнага леса, мяне цягнула да яго як магнітам, а што цяпер… Як з гэтым можна жыць? Чаму ў нашай краіне так варварскі абыходзяцца з народнай уласнасцю? Каму трэба загрузіць якаснаю драўнінаю і работаю пілярамы?

Я думаю, што найбольшая пагроза і небяспека ад «караеда двуногага», які ненасытны, і пад гэтую марку хоча разбагацець, якому непатрэбныя ніякія законы аховы прыроды. Створаны прыватныя ІП, дзе для іх пілярамаў патрэбны жывы прыгожы наш лес. І ім усё роўна, а можа, яны нават не ведаюць, што наша Белавежская пушча ўнесена ў спіс «Всемирного наследия ЮНЕСКО». Можа, трэба было ўсё ж прыслухацца да меркавання эколагаў, якія сцвярджалі, што шматвекавы лес сам справіцца з жуком-караедам?

Пасля наведвання Белавежскай пушчы не магла спаць, ноччу ўспаміналa тую пушчу, якую я ведала, якую я любіла, аб якой марыла. Вырашыла выкарыстаць  камп’ютар, і з Інтэрнэта даведалася, што ў гісторыі  Белавежскай пушчы ўжо былі такія падзеі, яны адбыліся ў 2001 годзе, калі адміністрацыя нацыянальнага парка «Белавежская пушча» знаходзілася пад кіраўніцтвам генеральнага дырэктара М. Бамбізы, які адразу паказаў сябе кіраўніком, якога не турбуе экалогія і ахова ўнікальнага леса. Пад відам барацьбы з караедам было знішчана пятнаццаць жывых, непашкоджаных дрэў.

Чытаючы, я падумала, што гэта такі мізар у параўнанні з тым, колькі я бачыла дрэў, высечаных у лесе цяпер. Хаця між тым, галоўны ляснічы Белавежскай пушчы В. Філімонаў аб’явіў усім, што робіцца толькі выбарачная высечка леса. Калі тое, што я бачыла, гэта толькі выбарачная высечка леса, то не хочацца нават думаць аб тым, у колькіх унікальных мясцінах Белавежскай пушчы вядзецца гэтая выбарачная высечка леса. Ніколі не аднавіцца гэтаму, калісь унікальнаму, куточку Белавежскай пушчы, – яго сцёрлі з твару зямлі...





**Цімураўцы XXI века**

...Пошукі не прыносілі вынікаў. Цімураўцы нават пачалі шукаць сяброў бацькі Юлі, які ваяваў і загінуў у Афганістане. Гэта таксама нічым не дапамагло, а фотаздымак, які даў Уладзіку Пётр Іванавіч, не мела сэнсу нават паказваць людзям: на ім дзяўчынка была зусім яшчэ малой, а цяпер яна ўжо скончыла школу і паступіла ў ВНУ, таму цімураўцы наведвалі вучэбныя ўстановы.

– Можа, скончым шукаць іголку ў стозе сена? Мы ўжо стаміліся, на нас усе суседзі ўжо падазрона паглядаюць. Зараз пападзем у міліцыю за гэтыя раскопкі.

– Мы тут не ўсе групы праверылі, – прымушаў Уладзік правяраць спісы студэнтаў, якія ім дала сакратарка.

– Можа, яна перадумала быць настаўніцай і падалася паступаць у іншую навучальную ўстанову і жыве недзе ў сталіцы?

– Усё можа быць, але ж давай ужо давядзем справу да канца. Ты нават не можаш сабе ўявіць, як дзядуля хоча апошні раз пачуць голас сваёй унучкі.

– Ну, добра, цімураўцы, наперад штурмаваць вучылішчы, каледжы і ВНУ.

Самы галоўны ў цімураўскім класе – Уладзік  шпацыраваў па вуліцы і ўспамінаў, як у яго з’явілася ідэя арганізаваць цімураўскі клас, як гэта ўсё пачыналася.

Уладзік спяшаўся ў касцёл, але яго позірк затрымаўся на старым чалавеку, які быў з палачкай і ніяк не мог залезці на бардзюр. Адну нагу яму неяк удалося паставіць на бардзюр, а другая не паднімалася. Ён доўга таптаўся на адным месцы.

Уладзік, узяўшыся за поручні, шпарка ўжо падняўся на высокія прыступкі касцёлу, але потым зноў азірнуўся на старога чалавека і пачаў спускацца назад. Не мог ён больш глядзець, як пакутуе гэты дзядуля. Узяўшы яго за абедзве рукі, Уладзік дапамог яму залезці на тратуар і адчуў, як трасецца і лякаціць яго цела.

– Вы сябе дрэнна адчуваеце, не трэба было ісці аднаму да касцёлу, – пажурыў Уладзік дзядулю.

– Я цяпер так сябе заўжды адчуваю, жыву адзін, а сёння вырашыў сабе на юбілей зрабіць падарунак, схадзіць да споведзі, таму што доўга ўжо не быў у касцёле, – цяжка дыхаючы, адказаў дзядуля на пытанне хлопчыка.

– У Вас сёння юбілей, я Вас сардэчна віншую і жадаю здароў'я і доўгіх гадоў жыцця, – Уладзік умеў віншаваць пажылых людзей, так ён і сваю бабулю віншаваў.

– Дзякуй табе, добры хлопчык, а як цябе называць? – запытаў Уладзіка дзядуля.

– Мяне – Уладзік, а Вас? – спытаў у сваю чаргу хлопец дзядулю.

– А мяне – Пётр Іванавіч, вось і пазнаёміліся, – дзядуля зноў са страхам аглядаў прыступкі.

– Не турбуйцеся, Пётр Іванавіч, я Вам дапамагу, і я хацеў спытаць, дык чаму Вы не святкуеце свой юбілей? – зацікавіўся Уладзік.

– Мілы мой хлопчык, няма з кім, усе мае сябры і сваякі паўміралі, а год назад памерла і мая жонка, вось я застаўся адзін на ўсім свеце, нікому не патрэбны. Вось вырашыў паспавядацца, і буду рыхтавацца да смерці, – сумна прагаварыў Пётр Іванавіч.

– А колькі вам споўнілася гадоў? – запытаўся Уладзік.

– Многа, ужо восемьдзесят, пара збірацца ў вечную дарогу.

– Ну, што Вы такое гаворыце, Вам трэба падлячыць ногі і сэрца, і Вы яшчэ зможаце пражыць гадоў пятнаццаць. Мой сусед дзевяноста шэсць пражыў, – супакоіў старога чалавека хлопчык.

– Ты мне занадта многа адмерыў, мне столькі не трэба, мне б некалькі месяцаў, – загадкава прашаптаў стары.

– А чаму толькі некалькі? – не зразумеў Уладзік.

– Каб знайсці сваю ўнучку Юлечку, – і стомлены дарогай твар старога чалавека засвяціўся ўсмешкай.





– А куды яна прапала? – распытваў хлопчык.

– Вось узяла і прапала. Мой сын, яе бацька, загінуў у Афганістане, а яго жонка Тамара выйшла другі раз замуж, і вось ужо пяць гадоў ад іх ніякага слыху. На тэлефон званю, а там другая сям'я жыве: яны купілі ў маёй нявесткі кватэру і не ведаюць, куды з'ехалі былыя гаспадары, – вось, як яно бывае.

– Можа, яны перасяліліся за мяжу? Цяпер модна з'язджаць за мяжу: з нашага дома сям'я таксама пераехала ў Германію.

– Божа мой, што ж гэта атрымоўваецца? Модна пакідаць сваю краіну? Гэта проста жудасна – пакідаць бацькоў, радню і ехаць на край света за лёгкім рублём, я думаю гэта не модна, гэта грэшна, – прыйшоў да высновы стары.

– Я з вамі згодны, і ніколі не захацеў бы пакідаць сваю краіну, – катэгарычна заявіў Уладзік.

Гаворачы гэта, яны ўжо ўваходзілі ў касцёл. На іх усе звярталі ўвагу, і хлопчык зразумеў чаму: дзядуля быў надта непрыгожа апрануты, а штаны наогул былі брудныя. Уладзіку ў якісь момант зрабілася сорамна, і ён апусціў вочы, і вырашыў пакінуць старога пасярод касцёла. Але, прайшоўшы некалькі крокаў, Уладзік убачыў свабоднае месца на адной з лавак, тады ён забыў пра сорам, вярнуўся, узяў дзядулю пад руку і павёў да лаўкі.

«Няхай глядзяць. Можа, нявестка ці ўнучка, а можа, хто іншы пазнаюць старога, і няхай ім стане сорамна, што яны яго кінулі, як непатрэбнага хатняга ката,» – думаў Уладзік. Потым, калі з'явіўся ў спавядальніцы ксёндз, Уладзік, заняўшы дзядулі месца, палажыўшы яго шапку, павёў яго спавядацца. Пасля гэтага дзядуля нібы ажыў, пасвятлеў, павесялеў, уважліва слухаў імшу.

Уладзік пачакаў дзядулю пасля службы і дапамог яму дабрацца дадому. Па дарозе яны размаўлялі на розныя тэмы, разумелі адзін аднаго з паўслова. У сваёй кватэры дзядуля прапанаваў хлопцу папіць гарбаты, і Уладзік паставіў чайнік, зрабіў бутэрброды і дапамог накрыць на стол. Аказалася, што Пётр Іванавіч раней, да траўмы нагі, працаваў у школе настаўнікам гісторыі, пагэтаму Уладзіку так лёгка было з ім весці размову.

У кватэры Пятра Іванавіча было многа кніг, а Уладзік, які адрозніваўся ад сваіх сяброў тым, што любіў чытаць цікавыя кнігі, адразу пачаў разглядаць кніжныя шафы. Калі яго позірк затрымаўся на кнізе П. Місько «Грот Афаліны», дзядуля сказаў:

– Бяры, чытай: і цікава, і карысна. Папоўніш свае веды і па геаграфіі, і па біялогіі.

Уладзік узяў гэтую кнігу і яшчэ кнігу «Пятнаццацігадовы капітан» Жуля Верна. Так завязалася сяброўства паміж шасцікласнікам і дзядуляй. Хлопчык стаў часта яго наведваць, хадзіў у краму, прыбіраў  і гатаваў ежу на кухні, чытаў яму газеты і кнігі, таму што Пётр Іванавіч быў амаль зусім сляпы, не дапамагалі і акуляры. А потым разам распрацавалі план, які дапаможа знайсці дзядулі ўнучку.

Уладзік у думках сваіх яе пастаянна асуджаў, як яна магла так паступіць – кінуць свайго састарэлага дзядулю. Уладзік падключыў сваіх сяброў, і яны пачалі пошукі. А потым, з дапамогай класнай кіраўніцы, яны стварылі цімураўскі клас.

Наступныя дні былі для Уладзіка цяжкімі і турботнымі. Да яго паваліілі вучні, выстраіліся нават у чаргу і прасілі запісаць іх даследчыя звесткі. Аказалася, што такіх адзінокіх старых было вельмі многа. У некаторых былі дзеці, але яны ім не маглі дапамагчы: дзеці іх жылі далёка, некаторыя нават за мяжой. А некаторыя нават усё жыццё пражылі адны, а ў дом састарэлых не хацелі з'язджаць са сваіх утульных кватэраў. Атрымаўся вялікі спіс, складзены з трыццаці шасці прозвішчаў і імёнаў з іх адрасамі.

Уладзік клас падзяліў на атрады, а потым даў каманду выконваць першае заданне. Трэба было распытаць, што гэтым нямоглым пажылым людзям трэба, якая дапамога, якія праблемы, якія беды, і гэтак далей. На выкананне гэтага задання цімураўцы вызначылі тры дні. Прыйшлося некаторым забыць пра камп'ютэрныя гульні, бо трэба было бегаць па горадзе і шукаць гэтых пажылых жыхароў, а потым доўга весці з імі размову.

Аказалася, што да некаторых з іх прыходзяць сацыяльныя працаўнікі, якіх да іх накіравалі з гарвыканкама, але тыя жанчыны самі пенсійнага ўзросту і хворыя на сэрца, пагэтаму тыя пажылыя людзі, якім яны павінны былі дапамагаць, баяцца ім узвальваць на іх кволыя плечы свае праблемы і працу. І, пагаварыўшы душэўна і сардэчна, сацыяльныя працаўнікі адпраўляюцца па сваім справам.

Праз тры дні вучні ўсяго класа разам з класным кіраўніком абмяркоўвалі працу ўсіх цімураўскіх атрадаў. Некаторыя вучні змучыліся, вечарам прыходзілася рабіць урокі, але бацькам гэтая іх цімураўская праца спадабалася: па іх разуменню, іх дзеці адарваліся ад камп'ютэраў. Яны нават ганарыліся, што іх дзеці займаюцца добрымі справамі. Вучні бегалі ў крамы купляць прадукты, пісалі лісты ўнукам і дзецям, якія былі далёка, чыталі старым кнігі і дпамагалі па гаспадарцы.

А былі выпадкі, калі трэба было вырашаць праблемы розныя: каму звязаныя са спадчынай, каму з агародам, каму з дровамі. Тады на дапамогу прыходзілі мабільныя тэлефоны. Вучні званілі Ніне Іванаўне, класнай кіраўніцы, і яна ім раіла, як паступіць у дадзенай сітуацыі. Некаторыя  вучні з задавальненнем расказвалі, як іх бабулькі частавалі смачнымі блінцамі і дранічкамі – старыя людзі стараліся хоць нечым аддзячыць моладзь.

А пасля таго, як цімураўцы адшукалі былому настаўніку Пятру Іванавічу яго ўнучку, ён напісаў пра іх у газету, і пра справы цімураўцаў даведаліся ўсе ў горадзе. Юля аказалася не зусім прапаўшай дзяўчынай, проста яна не ведала, што яе дзядуля жывы. Яе маці падманула, што ён даўно памёр, таму што не хацела, каб яе дачка адрывалася ад вучобы і бегала да старога. Потым яна ўжо перажывала за сваё махлярства, але ёй сорамна было прызнацца ў гэтым дрэнным учынку сваёй дачцэ.

Юля цяпер кожны дзень наведвала свайго дзядулю, і яны абодва былі вельмі шчаслівымі. Здароўе Пятр Іванавіча паправілася, і ён шпацыраваў са сваёй унучкай па парку. Жыццё яго цяпер займела сэнс: яму захацелася пражыць столькі, колькі некалі яму пажадаў добры хлопец Уладзік, у якога ў сэрцы было столькі кахання, што ён вырашыў падзяліцца ім з тымі, каму яго не хапае.

Ніна Іванаўна запэўніла сваіх вучняў, што іх яшчэ пакажуць па тэлевізары. Але Уладзіку гэта не спадабалася: якія ж яны пасля гэтага будуць цімураўцы? У кнізе Аркадзя Гайдара «Цімур і яго каманда» цімураўцы хавалі свае добрыя справы і нікому пра іх не расказвалі.

А яшчэ з нагоды ўсіх гэтых цімураўскіх спраў Уладзік неяк успомніў, як яго бабуля гаварыла: «Добрыя справы ходзяць як цень за добрым чалавекам». Так яно і адбывалася ў жыцці гэтага добрага хлопца Уладзіка.

**Отомстила и влюбилась**

Увлечённо делала уроки, когда услышала, как старшая сестра бросилась на диван и стала жутко реветь. Её пальто и портфель валялись в прихожей. Я постаралась её успокоить, но у меня ничего не получилось, она плакала и ничего не хотела рассказывать. Но я обо всём сама догадалась. Она дружила с одноклассником, который был очень красивым и к тому же ещё обладал прекрасным голосом. Сестра с ним пела дуэтом на всех концертах и школьных вечерах. В него, кроме сестры, были влюблены все девочки в школе. Недавно он поступил в колледж, и сестра узнала, что там он встречается с другой. Мне стало жалко сестру, ведь она так переживала и страдала. Она была так предана своему Игорю, что ни с кем больше и не думала дружить.

Я начала разрабатывать план, как ему отомстить. Записалась на танцевальный кружок, в спортивную секцию, и это дало хорошие результаты: я похудела и стала классно танцевать, и поэтому я решила действовать. Юбку покороче, ресницы накрасила подлиннее, и – на дискотеку. Я была девочкой начитанной, с 6 класса читала зарубежную классику, и начала вспоминать, что там было написано об обольщении парней. Я хлопала ресницами, вздыхала томно и не сводила с него взгляд. Вдруг увидела, что он всё-таки меня заметил и идёт меня приглашать на медленный танец. Мой план начал осуществляться, мы весело поболтали. На него обращали внимание все девушки на дискотеке, но он пошёл провожать меня. По плану я должна была несколько раз с ним встретиться, чтобы он в меня влюбился, а потом его бросить, чтобы он страдал так, как страдала моя сестра. Но я поняла, что я просто не смогу с ним ещё встречаться, я ведь его так ненавидела. Для большего эффекта своей мести я даже вспомнила стихотворение «Ты себя счастливчиком считаешь» и, немного его переделав, начала ему это стихотворение читать.





Закончить стихотворение у меня не получилось: Игорь меня перебил и начал уговаривать завтра ещё встретиться. Мне было обидно, ведь всё главное в этом стихотворении было именно в его концовке. Что если он на самом деле влюбится, ему эта девочка просто не поверит и пошлёт его подальше.

– Когда мы ещё встретимся? – не унимался Игорь.

– На баррикадах, – ответила я, вспомнив книгу, которую недавно прочитала о французской революции.

– Ты на меня так смотрела, что я подумал, что я тебе не безразличен, – ухмылялся довольный Игорь.

– А я так на всех смотрю, а на тебе проверяла, сработает ли, – соврала я.

– Ну, и как, проверила? – спросил Игорь.

– Конечно, и даже отомстила за свою сестру.

– Значит, ты мне просто мстила, а если я тебе тоже отомщу? – парень начал ко мне приближаться и схватил меня за руку. Я поняла, что он собирается меня поцеловать.

– Ты не посмеешь! – закричала я, потому что я не собиралась целоваться без любви, а ещё и с тем, кого ненавижу.

А ещё я всегда помнила строчки, написанные братом в его записной книжке: «С девушкой, которая разрешила себя поцеловать в первый вечер, я никогда не останусь». Я понимала, что из-за этого поцелуя может провалиться весь мой план.

– А кто мне может помешать? – сказав это, он схватил меня и начал целовать.

Я ужасно разозлилась и ударила его, обозвав «подонком», и ещё много обидных слов ему наговорила, что ненавижу его, что

никогда больше с ним не буду встречаться. Я вырвалась и убежала, даже не простившись с ним.

Дома неприятности продолжались: заплаканная сестра встретила меня в прихожей, и сквозь зубы прошипела: «Я тебе этого никогда не прощу». Оказывается, из-за осуществления своих планов я не заметила, что она тоже была на дискотеке и всё видела. Я долго ей объясняла, что я это сделала ради неё, чтобы отомстить, но она ничего не хотела понимать и разговаривать со мной тоже не хотела.

Но дальше случилось такое, о чём я даже не могла предположить. Я постоянно начала о нём думать, мои уши постоянно слышали его ангельское пение. Я поклялась себе, что с этим справлюсь, что это не может быть любовью, я ведь его ещё недавно так ненавидела. Но это было непросто. Этот первый в жизни поцелуй я никак не могла выбросить из головы, я постоянно трогала руками свои губы и об этом думала.

А Игоря, оказывается, очень обидело и задело то, что впервые его так унизили и впервые его бросили – всегда он первым бросал девочек. Он на всех дискотеках и вечерах искал меня и предлагал встречаться. И я, вопреки своей ненависти, почему-то согласилась. Мы начали встречаться, и от совсем невинных поцелуев у меня подкашивались ноги, и я мысленно улетала на небеса. Он мне признался в любви. Оказывается, что такой смелой девчонки, как я, он никогда не встречал.

Я ему простила других, и, вопреки здравому смыслу, я ему верила. Забыла про историю сестры и тоже, как она, «потеряла из-за него голову». При виде него у меня сердце замирало, и своему сердцу я не могла приказать ненавидеть этого красивого и талантливого парня.

Мы поклялись быть вместе вечно, мы строили планы. Решили, что как только я закончу школу, поженимся. Да, мы должны были пожениться, но вышло всё совсем по-другому. Мы предполагаем, а Бог располагает. Судьба сыграла с нами злую шутку. Игорь учился и одновременно подрабатывал на стройке, а зимой простудился, заболел гриппом и в свои неполные 19 лет умер.





Я долго горевала и плакала, думала, что никогда больше никого не полюблю. Но оказывается, я ошибалась: в нашем классе появился новенький, мы с подружками на него поспорили, в кого он влюбится, и этой девушкой оказалась я, но это уже совсем другая история...

**Дом, с которым трудно расставаться**

Именно ей, Ирине, нужно было собирать вещи в родительском доме – так распорядилась судьба. Сестра была больна, дочь с сыном – на работе. Она предчувствовала, что это будет нелегко, но до какой степени, она даже не могла себе представить. Дом продали, и хозяева, купившие его, поставили условие убрать все вещи, потому что у них и своих хватает – двое школьников подрастают.

Ирина собирала вещи и уговаривала себя, что ничего страшного не произошло: если бы этот дом разбирали по брёвнам и увозили, как соседский, это было бы для неё ещё больнее. Теперь, если приедешь в посёлок, можно будет полюбоваться на свой дом, а сосед рассказывал, как он бродит во дворе, и смотрит на заросли, и представляет, где чьи были комнаты. Нужно было всё собирать в коробки, при этом всё сортировать: что отнести соседям, что сжечь, а что забрать себе в квартиру.

В родительском доме когда-то было так уютно, каждые выходные все сюда съезжались, а потом, когда не стало родителей, стали приезжать всё реже и реже. А теперь, когда дочь захотела купить квартиру побольше, нужно было доплачивать большую сумму денег, решили избавиться от этого дома.

Ирина теперь только поняла, как это будет трудно сделать. Она всё тянула время, а в голову лезли разные воспоминания, отвлекали и мешали работать. Она смотрела на книги, альбомы, картины, и её душа страдала, сердце начало реагировать на эти страдания, она выпила нитроглицирин и прилегла на старый диван. Смотрела на книжные полки, увидела книгу Марка Твена «Принц и нищий» и вспомнила, как её подарили ей в 6 классе, когда она

написала на конкурс сочинение о своём любимом посёлке и заняла первое место.

Ирина взяла альбом и стала его листать, увидела фотографии маленькой Марты и начала вспоминать, как дочь начала делать робкие первые шаги, как у неё тяжело резались зубы, была очень высокая температура. Почему-то она не забрала эти фотографии к себе в квартиру, наверное, их любила смотреть её мама, бабушка Марты. Она души не чаяла в своей внучке, любовалась ей, когда они приезжали к ней в гости.

Все вещи и старая мебель были такими дорогими и любимыми. Ирина любила сюда приезжать, она отдыхала душой, этот дом вдохновлял её, давал ей силы, терпение, вселял надежду, возвращал ей мудрые мамины изречения и выражения. А её квартира, забитая до краёв модной мебелью и модным дорогим хламом, не давала этого успокоения и вдохновения.

Глядя на книги и фотографии, Ирина стала плакать. Она поняла, что не может эти вещи забрать домой, потому что дочь будет против, и не сможет эти вещи сжечь: рука не подниметься в один миг сжечь всё прошлое, всей семьи, счастливой их семьи. Это же память их рода, память о дедушках и бабушках. Каждая безделушка хранила свою историю, свои воспоминания.

Ирина открыла шкаф, вот пальто её, она тогда на него долго копила деньги, оно раньше было модным, дорогим и красивым, а теперь такое не носят.

Женщина посмотрела на портреты родителей, они смотрели на неё с тоской, они будто бы понимали, как сейчас тяжело их дочери. Непонятные чувства начали переполнять всю душу Ирины, она даже испытывала перед этими портретами свою вину. Если бы люди не испытывали чувства вины, они погрязли бы в грехах, они не замечали бы несправедливость. Ты за что-то себя коришь, и даже если тебе доказывают другие, что в этом на самом деле нет твоей вины, это ничего не изменит.

Ирина наперёд знала, что всю оставшуюся жизнь будет винить себя за этот родительский дом. Зря она послушала детей, сестру, нужно было слушать своё сердце, которое каждые выходные рвётся сюда и мучается, если эта поездка срывается. В городской квартире всё чаще стал у женщины ночью появляться страх: страшно было Ирине, когда ночью зазвонит телефон, кажется, что этим звонком извещают, что кто-то из родни умер.





Тяжело хоронить дорогих тебе людей, и память о них остаётся навсегда в сердце. Она всё время возвращается, чтобы мучить и так уже больное и измученное сердце.

Ирина подошла к старинной этажерке, которую сделал её отец, взяла в руки красивую иконку и начала вспоминать, как она к ней попала. В памяти всплыла учёба в университете, стройотряд в красивом посёлке с красивым названием Любимчицы. Оказалось, что судьба специально забросила её в это чудесное место, чтобы она там встретила свою любовь на всю жизнь. Высокий, кучерявый, энергичный парень влюбился именно в неё. До сих пор Ирина не могла понять, что он в ней нашёл, ведь были такие красивые, модно одетые и деловые девочки в стройотряде, но он выбрал её.

А началось всё с того, что на кирпичном заводе, куда они попали работать, была поломка, полетели какие-то станки, и их отправили в этот день к горисполкому полоть клумбы. Трава не вырывалась, тогда Ирина схватила лопату, которой никто не хотел работать, и начала выкапывать траву с корнями. Кто-то её остановил и вытащил из её рук лопату и со словами: «Не женское это дело,» – после чего начал сам копать. Ирина, увидев что парень аккуратно одет, что он в красивом костюме, сразу поняла, что он занимает высокую должность, и боялась даже на него взглянуть. Копал он глубоко и даже как-то красиво, видно было, что не раз делал эту работу.

Она присела и начала выбирать траву из земли, и ногти расцарапала о какой-то предмет. Она его вытащила из земли, руками очистила от песка и даже ахнула: она к руках держала позолоченную иконку, была она размером с записную книжку, и совсем не поржавела в земле. Ирина протянула её парню, сказав: «Вы же её выкопали, возьмите, она, наверное, очень ценная вещь». Но он отказался, и уверил её, что это она нашла эту вещь, а значит, и иконка Иринина. Они познакомились и долго говорили, а все

стройотрядовцы на них смотрели. Ирина долго упиралась, не хотела брать себе иконку, предлагала её сдать в музей, но он категорически отказался это делать.

Вячеслав (так звали красивого парня) работал начальником милиции, а в это время как раз был вызван в горисполком по важному делу: его кандидатуру выдвигали в депутаты. Их любовь развивалась стремительно и красиво. Он приглашал её в кафе, на дискотеки, в кинотеатр. А Ирине совершенно нечего было надеть, она вязяла с собой только рабочую одежду, и одно единственное платье, которое, увы, уже, как сказали девочки, вышло из моды, просто она не думала, что с ней такое случиться чудо. Выручила подружка, она была шустрой девочкой, перетрясла гардероб всех стройотрядовцев и притащила Ирине мерить красивые наряды.

Через месяц Вячеслав сделал Ирине предложение. Она не соглашалась выходить за него замуж, не хотела ломать его карьеру. Но от судьбы не убежишь, вот уже 32 года они вместе. Вячеслав с годами раскрыл в себе не только качества толкового начальника, но и талант художника. Всё своё свободное от работы время он рисует картины, особенно у него красиво получались пейзажи, его картины даже можно было перепутать с пейзажами самого Ивана Шишкина. Вячеслав даже хотел писать картины для продажи, но Ирина не разрешила, она была уверена, что когда-нибудь они будут бесценным достоянием страны, их поместят в самый престижный музей столицы.

Увидев вырезанного из дерева медведя, Ирина стала вспоминать, как отец делал для них сюрпризы, он за ночь мог вырезать красивые статуэтки, и утром дарил им с сестрой. Он был мастер на все руки, и тому подтверждение – резные окна, которые прекрасно сохранились, и помнят настойчивые, трудолюбивые и всегда тёплые руки отца. А все в доме покрывала, половики, рушники и салфетки сделаны мамиными руками. Она была талантливой мастерицей. Работала на дому, хотя считалась ткачихой Гродненской фабрики художественных изделий. Если где-нибудь увидит новый узор, она тут же его выткет на кроснах, которые всё время стояли в маленькой комнатке за кухней, теперь они хранятся в сарае. В





доме полно её вышитых гладью и крестиком картин, много покрывал, несколько лет назад сестра привезла их сюда на хранение. Они отслужили свою службу, а сейчас уже не в моде.

Ирина вспомнила, что в кладовке стоит сундук, а когда она его открыла, и увидела его содержимое, она тут же приняла решение. Ирина поняла, что она не сможет перечеркнуть память о своих предках. В этом сундуке хранились сделанные крючком скатерти бабушки Марии, вышитые гладью простыни, полотна белые и в клеточку, которые бабушка сама ткала. Этот дар передался и Ирине с сестрой: они умели ткать покрывала, ковры, вязать, вышивать.

«Эту всю красоту нужно выкидывать из дома, не бывать этому,» – подумала Ирина и, взяв сумку, куда утром положила доллары за дом, уверенной походкой пошла их обратно возвращать. Хорошо, что ещё бумаги о купле-продаже не были подписаны, значит, ещё не поздно.

«Этот родительский дом должен стать этнографическим музеем,» – решила Ирина. Женщина решила все свои силы приложить, чтобы осуществить свою мечту. Эти старинные ценности должны увидеть молодые люди, для которых теперь нет ничего дороже их мобильных телефонов, и которые не могут даже понять, как же раньше без них люди жили. А ведь хорошо жили, работали, творили такую красоту которой не подвластно время.

Ирина, как на крыльях, вернулась в родительский дом после возврата денег, и начала там быстро наводить порядок, всё расставлять на свои места. Теперь у неё не болело сердце, и душа её успокоилась, она теперь была на своём месте. Так и всем нужно жить – не для себя, а для других.

## ВЯЧАСЛАЎ КОРБУТ

*Нарадзіўся 2 ліпеня 1972 года ў Слуцку. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1994 годзе, юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта – у 2000 годзе. Паэт, празаік, публіцыст. Піша на беларускай мове. Вершы друкаваліся ў газетах «Чырвоная змена», «Наша Ніва», «Літаратура і мастацтва», «Сям'я», «Беларуская ніва», у часопісах «Маладосць», «Вожык», «Першацвет» і інш. Аўтар чатырох мастацкіх кніг: «Царалень» (1997 год: вершы), «Начны мастак» (2000 год: вершы і апавяданні), «Чаму ўсміхаецца сонца?» (2005 год: вершы і паэмы), «Байкі дзядзькі Лапатуна» (2010 год: сатырычная паэма, байкі, гумарыстычныя апавяданні). Друкаваў свае творы ў некалькіх калектыўных зборніках. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2000 года. Аўтар серыі кніг, прысвечаных прадпрыемствам Беларусі. У цяперашні час працуе на літаратурна-выдавецкай ніве. Кіраўнік літаратурнага клуба «Экватар». Жыве ў Мінску.*

### Памяці Валеры Скакуна

Ты любіў казаць – так наканавана,
Стойкі чалавек цяжкі пройдзе шлях,
Шлях ты свой прайшоў годна і старанна,
Ведае Гасподзь, мо крыху і я.

Ты туды пайшоў, дзе маркота траўня,
Працаўнік ва ўсім, чыннік дабрыні,
Светлы чалавек, паважаны, спраўны,
Песняю сваёй свет нам адчыніў.

У той край пайшоў, дзе святло і вера,
Голасам сваім душы акрыліў,
Твой акорд гучыць золатам шматмерным,
Не забыты твой бардаўскі матыў.





Светам лье святло творчае без меры
Голас зычны твой – нібы шум бароў.
І гучыць матыў у душы, Валера,
У якім спадзеў, вера і любоў!

*20.03.2016 г.*

### Песня героям

Сягоння на браму не ўзняцца нікому,
І не разгарнуцца, нібыта штандар,
Нам з Прыпяці лепей вады – супраць стомы,
А хлебам ды мёдам накорміць пчаляр.
Вось гронкі рабіны на снезе, бы сцягі,
Вось чорныя дзюры старых гародоў,
Гэй, касіянеры! Наперад, бадзягі,
Мы вызвалім Край ад ліхіх груганоў…
Ды коні не танкі, а стрэлы не чэргі,
І словы не тонуць у сотнях вачэй,
Дык хто мы – ліцьвіны ці белыя чэрці?
А можа, нябачныя воі начэй?
І нам дапаможа ліцьвінская сцюжа,
І рухі пустэльні на той небасхіл,
І вера так грэе – у сэрцах нас дужа...
Гэй, братка, змагайся! Нам, Божа, дай сіл!
А там, на пракосах, магілы герояў,
Бо хтосьці не выжыў, а нехта не жыў,
Вясновае сонца дрыжыць, а другое –
Так, тое, што паліць, – ужо на крыжы.
І хочаш, не вер мне, пануры старэча,
Я ведаю: вас падманулі – усіх,
Вас перакармілі магільнаю сечкай,
І той дуратой затлумілі ваш слых.

Ды толькі не трэба казаць аб няўдачы,
Бо разам ісці нам на браму – усім,
Каб там пераможна – узняцца над плачам
Тым гонарам справы, што ў сэрцы тваім.
Больш слота не будзіць вясковую цішу,
І коні гатовыя кінуцца ў бой,
Дык з кім ты, нябачны герой з нашым крыжам?
– Я з тымі, каго павяду за сабой!

***

Вярніце народу гандлёвыя рынкі –
Яму так патрэбна такое вось права,
Няхай прадае ён прылады і скрынкі,
Шампуні, штаны – ці то злева, ці справа.
Так, нам забароны заўсёды чынілі,
Фашысты ў хлявах нас палілі няшчадна,
Ад кожных прымусаў – пах багны і цвілі,
Мы – нацыя спраўная, смелая, ладная.
Будуем, гандлюем, свабодна смяемся,
І гэту віхуру як след пяратром,
І права свабоднымі жыць мы даб'емся,
І вернецца радасць і воля ў наш дом!
Хто досвед гандлярскі займеў дастатковы,
Хто жылу камерцыі мае ў грудзях,
Той скуру сваю падстаўляе на холад,
Той права займеў мець павагу на гмах.
Ды не, не павага нам засціла вочы,
Дзяржаўныя боты не мылі мы, не,
Сябе апраналі, салдатак, рабочых,
І кволую праўду цадзілі ў віне.
Халявы не будзе, праелі халяву,
Цяпер барацьба за кавалак жыцця
Зноў стала чарговай народнаю справай,





Каб шчасце знайшло ў нашай долі працяг.
Вярнуцца да справы гандлёвыя рынкі,
Свабодныя гандлі – свабоднай зямлі,
Наперад да справы, дачушкі і сынкі,
І хопіць аб лепшым чыноўных маліць…

**Зоры**

Ноч, дзе белая пляма на небе,
Там халодныя воблакі спяць,
Там пудовыя зоры не грэбуюць
У вазочку праехаць, іх з пяць…
Ды астатнія недзе прапалі,
Можа, холадна ім, на бяду?
Пакацілі яны ў свае свае далі,
Дзе імчаць метэоры з ільду.
А сягоння вясна наступіла,
Вам, каметы, яе не спужаць,
Заўтра птушкі з усмешкамі, міла
Будуць новыя гнёзды складаць.
Так і я, з іх гняздоўем нароўні,
Дом прыгожы пастаўлю такі,
Каб з яго неба бачыць апоўдні,
А з апоўначы зор пятакі.
І, губляючы светлыя плямы,
Тыя зоры далей мімаходзь
Усміхаліся шчыра і прама –
Каралевы, з іх вочак не зводзь…
Вы, як зоры, як светлыя згадкі,
Сталі тут на зямлі мітуснёй,
Мо так трэба, ці ў гэтым парадку
Ёсць парадак сусветны. Вясной
Пачынаецца новая эра,
Да гукання вясны першы крок –

Дзе вы, дзевы з удалай прем'еры,
Зоркі стужак жыццёвых дарог?

**Плаціна**

Ты стала наўпрост як рыдно,
Плаціна.
Халодна-сталёвы пагляд
Адзінай.
Ты кошт абыякавых мар,
Плаціна,
І неба вадою цябе
Плаціла.
Я ведаю, як абысці
Твой бераг,
Як кроў тваю вып'е сцяг,
Бы нерат,
І памяць вады напаіць
Тым кубкам,
Халоднай вады на тваіх
Прыступках.
Чакай не мяне, а таго,
Хто збочыў,
І хлебам наеўся ж ужо
Сірочым.
І іх не стрымаць, бо іх
Мільёны,
Іх рукі пад рэбры б'юць
Шалёна.
Ну, што, прарываюць, глядзі,
Прарвалі,
І глыбіны ў космас ляцяць,
У далі,
Не ўбачыць такога ніхто





Ніколі.
Плаціна-сцярвятнік сыйшла –
Вось воля,
Цяпер напісана на ўсіх
Штандарах,
Што крыгі паб'юцца зусім
У парах.
Вось нерат ды новы сцяг –
Іх ловяць.
І праўду час надыйшоў
Прамовіць.

*18.03.2016.*

***

*І.В.*

Ты – Жана Д'Арк майго пасьянса,
Дзе я згубіў свой першы ход,
Цяпер ніяк без дэкадансу,
Ідэй не аднавіць чарод.
Ты гараджанка і паненка,
Якіх не бачаць гарады,
Матляеш модную сукенкай,
Аб яе труцца ўсе каты,
Не бойся, я не кот халёны,
Адэкалон не модны мой.
Не ззяю гальштукам шалёным,
Хутчэй нязграбнаю хадой.
Ну, пачакай, не мітусіся –
Запалкі ў неба не шпурляй,
А хоч, маёй крыві напіся,
Пасля свой дэкаданс складай.

Няўжо і мне не трэба шчасця,
Табе яно не схлусіць, не.
Сягоння карта маёй масці
Глытае мары аб вайне.
Ты танчыш спраўнае фламенка
На даху – так бліжэй да зор,
А я, нібыта твой Айвенга, –
Запаліш зноў на ноч касцёр.

***

Зімою ты лепшая, зімою ты смешная,
Куды без цябе з намі знікне зіма?
Ты верыш у песні, што змешаны з вершамі,
Як сцюжа цудоўная, – верыш дарма,
Што збудзецца холадам казка спавітая,
Што іскры з трамплінаў сігаюць слязой.
Я веру: ты лепшая, годная, злітая,
З той марай Парыжа – патанчыць з Масквой.
Ды дзе там! Якія Парыжы і Вены!
Нам толькі здаецца, што скончыўся рай,
Што смешны Мадрыд стане, бач, Усяленнай,
І нават Венецыя – здань, выбачай…
Казалі, ты ведаеш тайны лясныя,
І музыку храмаў не выдаш нідзе,
Ды толькі інакш бачу рухі я тыя:
Ты снег растапіла ў зяленай вадзе.
Не ведаю чараў, якія ты маеш,
Увосень зіму падпіхнуць на спакой,
І хто ж гэту праўду раскажа, ды ў маі,
Калі ты смяешся, як птушкі вясной…
Зімою ты лепшая, зімою ты смешная,
Ды толькі навошта прыходзіць зіма?
Ты верыш у песні, што змешаны з вершамі,
Як попел з паперай, што болей няма...





**Чатыры пальцы на раялі**

Чатыры пальцы на раялі –
Бясспрэчна, вы мяне пазналі,
І не згулялі болей, не,
Эцюд пра сонца на вакне.
Чаму не мне тады ілгалі,
Чаму смяшліва дакаралі,
За першы пацалунак той,
Які расцёрлі вы слязой.
Было не крыўдна, таямніча,
Я іншых не знайшоў абліччаў,
Каб параўнаць вас раптам з сойкай,
А вы дапілі каву з слойкай,
І зніклі так, бы Бах паклікаў,
У свет музычны – свет вялікі!
А мне акорд адзін застаўся,
Які? Ці сам я здагадаўся,
Яго я ў вас даўно прасіў,
Так ён гучыць ласкава: «Сі!»
Я вас, як лета, пачакаю,
Бах ведае, як я кахаю!

**Шалі**

Там, на бронзавых дзіўных шалях,
Ладзіць суд свой здаўна цішыня,
Пані-цемра блукае па зале,
Нашы тайны спрабуе прыняць.

Мы з табой для яе не чужыя,
Хоць у промнях святла не жылі,
Бо змагаліся, рваліся жылы,
Нашы думкі да праўды вялі.

Колькі лёсаў прайшло нечаканых,
Па брукоўцы, вільготнай шашы,
Назапашана крыгаў капканных
І аскепкаў чыесьці душы.

Там на шалях, дзе праўда таемна
Свой прыносіць законны прысуд,
Мы спыняемся, час пераменаў,
Нам рыхтуе чарговы хамут.

Прэч нясуцца гарэзы-надзеі,
Толькі крокі няпраўды чутны.
І яна не падасца нам феяй,
І не зладзіць нам новай вайны.

**Невясёлая гісторыя**

Вялікі промень ты ў той зале,
І хараство і бажаство,
Каму ты праўды не сказала,
Не павядзе сваё брыво.

Каго атрутай напаіла,
Той белы стаў, але прыліп
Да шкла з анёлам аднакрылым,
Прасіў цябе яшчэ наліць.

Яна наліла цьмянай кавы,
Калі шампанскае ракой
У зале лілі злева, справа,
Спярша ту каву ўзяў рукой.

Прыснуў, прачнуўся толькі ўранку,
Калі кансьерж шукаў ключы,





Заеньчыў, паглядзеў на шклянку,
Ну, добра, што жывы, лячы!

Ён папрасіў сабе гарэлкі,
Ледзь мармытаў: «Яна ці я?..»
Пайшоў у сад, дзе дзве свірэлкі
Дзівілі ранкам салаўя.

Ён выжыў, акрамя міндалю
Ён ранкам з’еў тады зефір,
Атруту так перамагалі
Вада, арахіс і кефір.

Кансьерж трымаў сябе прыстойна,
Ён як мангуст шукаў вады,
Што ў залу пастаўляў спакойна
Міністр гандлю малады.

А што яна? Бы каралева,
У сваім замку ля ракі
Адпачывала, слівы ела
І загарала ад тугі.

Ён аклімаўся, і кансьержу,
Свой партсігар падараваў
І знік за замка доўгай вежай,
Як быццам нехта яго скраў.

У чым прычына гэткіх справаў,
Аб тым ніхто мне не сказаў,
Адно скажу: атруту спраўна
Міністр гандлю замаўляў.

Яе жадаў ён бачыць павай
Ля замку велькага свайго.

Ды сам дапіў ён тую каву,
Што спапяліла, бы агонь.

Казалі, акцыі міністра
Яна прыбрала апасля,
Жыла на шыі, як маніста,
Кампутарнага караля.

Яго ж яна і не ўзгадала,
З кім закаханаю была,
Чакала, снедала, бывала,
Даўгі плаціла і вяла

Тады жыццё свае без зніжак.
А ён, той бравы афіцэр,
Міністру праіграў на біржы
Яе канюшню, і цяпер

Астатняе вы зразумелі,
Ужо чыталі там, вышэй.
Мужчыны часам любяць цела
Жанчыны кончыкам вушэй.

А ён набыў аднойчы хутар,
Там дажываў свой ціхі век,
Жаніўся, стаў сам бацькам хутка,
І ладзіў час ля ціціх рэк.

А што была там за атрута,
Што выпіў з рук яе спярша,
Карыцу заглынуў ён з брутам,
Злагоднела яе душа,

А кава… там міністр сыпаў,
Ад рэўнасці аж пунсавеў,





І сам жа выпіў, пераблытаў…
Мо хтось падсунуць там паспеў?

І вінаватых не шукалі,
Грахі схавае хай зямля.
Суд Божы пакладзе на шалі
Усіх здабыткі апасля.

Вось так здараецца ў сусвеце,
Калі каханне на мяжы.
Параскідаў калматы вецер
З атрутай жарсці тры душы.

**Так бывае**

Так бывае, пакуты на сэрцы застылі,
І былое як воск паплыве па шчацэ,
Сум паэта падобны на рэшты стыхіі,
Што зрывае чаўны, іх нясе па рацэ.

Так бывае, мы трацім нямнога-нямала,
Мілы позірк, і ў сэрцы трывога ізноў
Праз касмічныя храмы, званы і цымбалы,
Мы шукаем сябе і таго, хто пайшоў…

Слотны вір лістапада і сум адзіноты...
Дзе багіня мая? Мы ж у розныях краях.
У вясковый  глушы мне не ўзяць тыя ноты,
Што ў рамансе тваім чуў аднойчы і я.

Так бывае, мы страчваем вольныя крылы,
Губім веру мы ў шчасце і веру ў сябе,
І аднойчы, калі цябе неба забыла,
Для каханай ты станеш чужым у журбе.

Але страціць усё, што жывіла каханне,
І забыць наш з табою любімы матыў,
Не магу... Як вяртаецца сонца на ранні,
Так аднойчы, каханая, вернешся й ты!

Так бывае...

***

Прастрацыя майго жыцця
На гэты свет, што шар магічны,
Дзе акрылёнасць ад зліцця
З сусветным рэхам таямнічным.

І побач столькі ваканіц,
Дарог і словаў суцяшэння.
Абудзім песні ўсіх крыніц
І станем сонечным праменнем.

Таму, народ, ідзем уверх
Па сцежках важкіх, не стаптаных.
Калі спытаюць:
– Хто ваш звер?
– Не звер у нас, анёл ад раю!

Ён крылам шлях намаляваў,
Каму нямілы, хай не рушыць,
У край пахучых спелых траў,
У край вялікай Беларусі!

Не стане шчасцем гімн тугі,
Як шлях пакінем спадкаемны,
Хай іскры, полымі-сцягі
Запаляць сэрцы патаемна.





І разарвем мы свой ланцуг,
Што так сціскаў гаротна шыі,
Нахлебнікаў далоў за круг,
І танец свой станцуем мы ім.

Зара асвеціць новы дзень,
І ноч пакіне нашы сцежкі,
Як трэба, пойдзем па вадзе,
І па паветры, можам бежма.

І верым, хто прыносіць мір,
Таму жыццё даруюць богі,
Таму наперад праз Памір,
Праз Анды данясуць нас ногі.

У край, далей за небакрай
Ідзем, стамляцца мы не ўмеем,
І неба нам поможа хай,
Як сейбітам, што зерне сеюць!

**Я галасую за мір**

Я – галасую за мір
Я – узнімаю руку,
Бомбу далоў, бы смугу.
Не, не вайны я кумір.

Я галасую за свет,
Дзе не страляюць у лоб,
Дзе не ляціць раптам дроб,
Бомбы са мноствам касет.

Я галасую за смех
Самых малых немаўлят,

Хлопцаў малых і дзяўчат,
Кроў іх не вытапіць снег.

Я галасую за ніць –
Кожны трымае яе.
Я за любоў, за цябе,
Слова трывалае – жыць!

**Сад**
*(Апавяданне)*

Вялікія розумы правяць сусветам,
але толькі вялікія сэрцы ратуюць сусвет…
*Эліза Ажэшка*

Яўхім Іванавіч Шпакоўскі зноў і зноў імкнуўся датэлефанавацца да аднаго абанента, з якім дамовіўся стрэцца за горадам апоўдні. Абонент быў недаступны. Харошы час, выходны дзень, добрае надвор'е, лета, і прадбачліва пекла сонца – усё спрыяла выдатнаму стану духу мужчыны. Побач з Яўхімам сядзела ў машыне ягоная спадарожніца, сяброўка і ладная дзяўчына Мар'яначка. Кемлівая і ўдумлівая кабета, за дваццаць пяць, па натуры сапраўдная прапальвальніца жыцця, але па ўсведамленню іншы раз і філосаф. У свае дваццаць сем год Мар'яначка ўжо два разы была замужам і двойчы да таго амаль ужо дайшла да ЗАГСу са сваімі ўхажорамі.

Вопыту ў такой свецкай гідры было нямала. Але з замужжам яна вырашыла завязаць, тым больш, што ад перашага мужа ёй засталася невялікая дзвюхпакаёвая кватэра, а ад другога – лагодная жаночая машынка маркі «Пежо», на якой яна не вельмі часта выязджала, бо лічыла сябе пасрэдным кіроўцам. Ад першага і другога засталося яшчэ шмат каштоўных залатых упрыгожванняў і, канешне, з цікавымі камянямі. Чысты і заўсёды свежы тварык, прыгожыя нагаткі, новыя сукенкі, і галоўнае – шыкоўныя прычоскі з густых русых валасоў яе рабілі пераможцай пры любых





паваротах лёсу. Ёй шэнціла ва ўсіх справах, калі яна таго хацела, яе з дзяцінства бэсцілі бацькі, родныя, пасля першы каханак, сын намесніка міністра, які і зрабіў ёй першы шыкоўны падарунак – новую машыну «Мазда». Гэтую машыну пасля яна аддала бацьку, які быў ёй неймаверна ўдзячны, бо сам за жыцце змог толькі набыць сабе пацёртую «Аўдзі» і невялікую дачу. На заробак інструктара па плаванню многа не набудзеш. Затое ён навучыў Мар'яначку няблага плаваць, асабліва брасам і кролем, а таксама трымацца на хвалях і доўга быць пад вадою. Але пра гэта дзяўчына нікому асабліва не казала, галоўнай яе зброяй была прыгажосць і вельмі пытлівы характар. Яна ва ўсім любіла даходзіць да дробязяў і рабіць правільныя высновы. Таму, калі ёй удалося ўладкавацца пасля інстытуту ў турыстычную фірму менеджэрам, праблем з кліентамі ў яе не было. Кожнага яна дасканала магла пасяліць у добры гатэль, адправіць на ладны і недарагі рэйс, дабіцца прыемных зніжак ад партнёраў-тураператараў.

Што тычыцца мужчын, то ў яе іх заўсёды хапала, і самага рознага кшталту. Ці трэба ўсё гэта ёй было, яна не ведала, але разумела, што ні з кім адносінаў глыбокіх мець не трэба, сапраўдны мужчына ў яе жыцці павінен быць адзін, і ён сам яе знойдзе. Так што яе кавалерамі былі людзі з адміністрацый розных устаноў, нейкія супрацоўнікі з невядомай нікому сакрэтнай, але багатай структуры, нават адзін стары залатаноша быў, які з Індыі і Пакістана золата пастаўляе на рынкі Амерыкі і Бразіліі. Немец па нацыянальнасці, але так добра па-беларуску шпарыў, лепей, чым па-руску, што вельмі дзівіла і непакоіла Мар'яначку, бо беларускую мову яна хоць трохі і ведала, але чамусьці яна выклікала ў яе душы нейкую напружанасць, калі не сказаць ступар. Але Мар'яначка з тым немцам, што быў родам з Беласточчыны, аднойчы на выставу лётала разам з літоўскім бізнесменам Томашам, дык з тым немцам пасля аднаго выпадку наогул перастала сустракацца, бо немец, напіўшыся літоўскага піва, нечакана прыспаў у бары і замачыўся. Па-чалавечы яго было шкада, але для мужчыны гэта было паказальна, штосьці не ўмееш рабіць, не бярыся. Канешне, той залатаноша на яе пакрыўдзіўся, адабраў кабрыялет, залатую

адвертку, як сімвал ключа ў ягоны пакой, спыніў яе рахунак ў еўра і папрасіў ніколі яму не тэлефанаваць на ягоны залаты хатні тэлефон, бо сотавага ягонага ніхто не ведаў, да таго ж ён запатрабаваў нікому не гаварыць, што ён патрапіў у такую сітуацыю.

Пасля гэтага выпадку вырашыла Мар'яначка, што шукаць мужчыну трэба папрасцей і патаўсцей, бо такія і больш добразычлівыя ў плане падарункаў, і лянотныя да нейкіх «забаўляльных» праектаў. Ім абы дзе на лецічшы ў гамаку пагойдацца і пасля лазні захрапець на пузе пасля добрага масажу. Так яна патэлефанавала свайму добраму знаёмаму Яўхіму Іванавічу, чалавеку добраму і рашучаму. Перад гэтай сустрэчай Мар'яначка ў адной рэстарацыі вячэрала з двума маладымі хлапцамі, сябрамі свайго стрыечнага дзядзі, якія займаліся кантрабандай спірта і цыгарэт на рынкі Кітая. Ды у той вечар тыя бандыты ласкава размаўлялі з Мар'яначкай пра тое, каб яна знайшла добрую перакладчыцу з кітайскай мовы для іх патаемных спраў. Пасля пад'ехаў Яўхім Іванавіч, які ўжо на адлегласці не зводзіў з яе вачэй у той вечар. Запрасіўшы на танец, ён адразу і шчыра называў яе сваёй марай і каралевай, пасля падараваў залаты бранзалецік, як сімвал даўгатэрміновага праекта пад назвай: «Давай я цябе буду любіць». Але паміж слоў яна адчула іншае: «Мне не трэба тваё каханне, я пакуль што хачу не быць адзінотным». Мар'яначка сцяміла, што чалавек знаходзіцца душэўна ў моцным крызісным стане, але яго фінансы наадварот, і шанец, як яна гэта рабіла заўсёды, не ўпусціла. Папрасіўшы прабачэння ў хлопцаў за нечаканы адскок, яна ў той жа вечар з'ехала да Яўхіма Іванавіча. Хлопцам назаўтра падкінула тэлефоны трох вяртлявых дзяўчат-перакладчыц, з якімі некалі лётала на Мальту адпачыць і якія ведалі ў сукупнасці пяць замежных моў, у тым ліку і кітайскую. Хлопцы былі ў такім захапленні, што на радасцях перадалі Мар'яначцы цэлы кошык цукерак і шакаладу, якія яна магла есці кілаграмамі без шкоды для сваёй вагі.

Тым не менш, заўзятары вясёлага жыцця, як вядома, маюць калі-нікалі і слёзы. Аднойчы Мар'яначкін «Пежо» скралі нейкія прайдзісветы, а можа, і сумленныя злодзеі, але, вяртаючыся аднойчы пасля гасцей каля палаца аднаго свайго сябра Эдзіка, што запрасіў на юбілей жонкі за горадам, дзяўчына ўсвядоміла, што яе машыну нехта пібікнуў у іншы ад яе накірунак. Крыху будучы пад шафэ, а пад шафэ яна любіла ездзіць, у гэты раз марыла разагнаць сваю кабылку пад 180 у гадзіну, але тутака адбыўся вялікі аблом. На яе крыкі: «Сволачы, вярніце машыну!» – збегліся амаль усе застаўшыяся госці. Хто з аголенымі плячамі ў легкіх сукенках сярод лістападаўскага надвор'я, хто з калодай карт і сігарай у роце з жаданнем выіграць невялікі куш, бо вялікіх гаспадар імкнуўся не разыгрываць, каб не згубіць назаўсёды надзейных сяброў і партнёраў па бізнесу, пра які добрыя людзі маўчаць. Тым не менш, людзі з заклапочанымі тварамі імкнуліся супакоіць Мар'яначку, некаторыя пабеглі да сваіх машын, каб агледзець, ці ўсё добра. Але яе машына знікла, і тут нічога не зробіш. «Можа, гэта чыйсьці жарт і зараз нехта з'явіцца, каб вярнуць,» – прадэкламіравала падпіўшая кабета гадоў пяцідзесяці, былая жонка Эдзіка. «А можа, ты яе ў карты прагуляла, ды вяртаць не хацела проігрыш, Мар'яначка?» – рэзюміраваў стрыечны брат Эдзіка Віктар, заўзяты карцёжнік і вельмі добры і шчыры чалавек, калі яму ішла гульня. У той вечар яму шанцвала. Але тая адмахвалася рукамі, круціла галавою, і слёзы ёй выцірала мама Эдзіка, паўнатварая Марына Сцяпанаўна, якая зазначыла, што даўно гаварыла Эдзіку, каб зрабіў каля дома агароджаную пляцоўку, бо за плот ў зачыненую прастору маглі заязджаць толькі чатыры машыны, а госці прыехалі на палутара дзесятках. Усё гэта не мела сэнсу, бо праблема ўжо намалявалася, і, як казаў адзін каментатар, трэба было тэрмінова рабіць рашучую контратаку.

– Відаць, кагосьці моцна пакрыўдзіла, – з аўтарытэтным выглядам прамовіў стары бацька юбіляршы, які за сваё жыццё шмат накраў, але машын не чапаў, усё больш вагонамі цукар і гарэлку пры савецкай уладзе, а пасля пры разладдзі ўлад добра нагрэў ручкі па локці. Гэта быў яшчэ той камерсант. Аднойчы ён сцягнуў са станцыі вагон з каньяком, што прызначаўся ў Маскву для крамлёўскіх піткоў. Вагон у часы «сухога закона» ніхто не знайшоў, ды і ніхто асабліва не шукаў, бо такі тавар маглі сцягну-

ць толькі свае, а сваіх, як правіла, не чапляюць. І бацька юбіляршы гэтай навуцы добра навучыў свайго выбітного зяця. Таму Мар'яначка адразу падумала на яго, ужо неяк вуглавата ён пазіраў у яе бок.

Але тут раптам да дзяўчыны падыйшоў адзін з гасцей, які некалькі разоў спрабаваў патаньчыць з ёй, але яна ўвесь вечар адмаўляла ўсім, спасылаючыся на стому і дрэнны настрой. Гэта быў той самы Яўхім Іванавіч, ён хоць і быў на добрым падпітку, але сцяміў, што машына не мужчынская, больш для жанчын падыйдзе, гэта не «Мэрсэдэс» ці «Аўдзі», альбо «Альфа Рамэа» піжонаў і мажораў, таму ласкава дакрануўся да рукі Мар'яначкі і адвёў яе ўбок.

– Знойдзем тваю машынку, пішы нумар і марку, а таксама колер і дзе яе набыла.

– Як дзе?

– Ну, салон, ці праз чалавека якога, давай пішы.

Яўхім Іванавіч нават крыху ўсміхнуўся і ў гэтай усмешцы Мар'яначка адчула надзею – пэўна, простых людзей на юбілеі жонкі Эдзіка не павінна было быць. Але хто так нахабна здзейсніў такую аперацыю са скраданнем машыны ў яе галаву ня лезла. Яўхім Іванавіч дастаў з кішэні піджака блакнот і ручку і падаў ёй. Яна хутка на паперы напісала патрэбную інфармацыю і перадала яму.

– Вы што, следчы ці міліцыянер?

– Хіба ў Эдзіка толькі людзі ў пагонах сябры, вы ж ведаеце, якія людзі тут?

Раптам пачуліся галасы вакол дзяўчыны, маўляў, ты ж ведаеш, што тут ракі дохлыя півам не лечацца. І сапраўды, з такім бамондам можна вырашаць любыя пытанні. Абураўся болей усіх Эдзік, які так і пырскаў атрутай, што пад ягоным домам такое магло адбыцца: у паважанай у тусойцы сяброўкі скралі машыну. Тое, што ў Мар'яначкі яе скралі, ведалі ўжо амаль ўсе яе сябры, акрамя міліцыі.

– А міліцыю будзем выклікаць, Яўхім Іванавіч? – запытала дрыжачым голасам Мар'яначка.





– Ды што ты, дзяўчына, «нашыя людзі» ужо працуюць, хутка твая машына будзе на месцы. Хадзем вып'ем па чарачцы каньяку, табе трэба нервы супакоіць. Заўтра твая машына будзе стаяць пад маім акном.

Хто такія «нашыя людзі», яна магла толькі здагадвацца, але вырашыла маўчаць. Тут справа і без яе дадумак падобна вырашыцца, але як яна будзе разлічвацца, відаць, дзядзю прыдзецца прасіць, каб той дапамог. Так Мар'яначка яшчэ бліжэй сышлася з Яўхімам Іванавічам, які аказаўся даволі галантным і сімпатычным чалавекам. Яна правяла ў яго доме два дні і на трэці машыну прыгналі трое бравурных хлапцоў вясокага спартыўнага целаскладу.

– Дзе вы яе знайшлі? – амаль са слязамі пыталася ў хлопцаў Мар'яначка.

– Іванавіч, гаварыць? – спытаў дазволу адзін з іх.

– Гавары, няма праблем.

– На мяжы Румыніі з Балгарыяй перахапілі, у яе былі іншыя нумары, фальшывыя, і хлопец дастаў тыя нумары. Вы нейкага Ігарка ведаеце? – спытаў хлопец у Мар'яначкі.

– Так, гэта мой былы жаніх, але мы з ім разбегліся два гады таму.

– Гэта ён? – і хлопец паказаў на смартфоне крыху пабіты твар яе былога знаёмага.

– Дык гэта ён, казёл?

– Гэта яго работа разам з сябрам, які сядзеў раней за машыны. Вось яны вырашылі паказальна вашу машыну сперці і прадаць аднаму цыганскаму барону ў Балгарыі для яго дачкі. Не давезлі яны да барона сто дваццаць кіламетраў.

– Хлопцы, колькі за дарожныя выдаткі вам трэба вярнуць? – спытаў Яўхім Іванавіч

– Паўтары тысячы. З мытняй і пагранцамі праблем не было, яны і так вам павінны.

– Добра, едзьце да Мікіты на офіс і атрымаеце з дабаўкай, я патэлефаную, адпачывайце.

– А што з гэтымі вараватымі рабіць?

– Здай іх Маліку, хай яны на рынку адпрацоўваюць год грузчыкамі. Пасля паглядзім на іх паводзіны, не ў турму ж ім ісці, зусім сапсуюцца.

Мар'яначка стаяла каля акна і ўсё паглядвала на сваю машыну, не верачы вачам. Калі хлопцы пайшлі, яна запытала ў Яўхіма Іванавіча.

– Яўхім Іванавіч, а вы хто на самой справе?

– Я, Мар'яначка, звычайны чалавек, які любіць добра паесці.

– А па спецыяльнасці вы хто, сышчык, адвакат, шулер?

– Не, Мар'янача, я кулінар...

Зараз удвох яны ехалі па шашы, гучала прыемная музыка, настрой у абодвух быў добры і не ганебны. Мерна шурпацелі гумавыя колы шыкоўнай машыны, і Яўхім Іванавіч адчуваў нейкае незразумелае для сябе хваляванне, быццам штосьці свярбіла ягоную галаву сумнай і цягучай думкай. Яшчэ б, ён едзе прадаваць дом, дзе вырас, дзе выгадаваліся яго брат Пецька і сястра Галіна, якія ўсе з сем'ямі жывуць у Італіі, і даволі добра. Пецька там мае пару станцый па рамонту «Фіятаў» і «Альфа Рамэа», а Галіна трымае на ўзбярэжжы Сіцыліі шыкоўны рэстаран. Канешне, грашыма для бізнеса ён ім дапамог, і родныя не правалілі бізнес, там ён заўсёды ў іх чаканы госць, калі не сказаць гаспадар, і як старэйшы брат, і як чалавек, які мае добрыя адносіны з мясцовымі «важнымі» людзьмі. Цяпер вось трэба прадаць драўляны дом бацькоў з садам і лазняй, добрай пуняй і шматлікімі соткамі дзедавай зямлі.

Дом дагладяае бабка Таня і яе сын Толя, што працуе заатэхнікам. «Харошы чалавек, – падумаў Яўхім Іванавіч, – можа, яго забраць на сваю канюшню, хай на мяне стараецца. Можа, хоць коні будуць меней хварэць і больш моцна для скачак будуць падрыхтаваныя». А коні Яўхіма Іванавіча знаходзіліся ў Літве, дзе яе набыў рэшткі мясцовага конезавода, і цяпер у яго маецца два дзесяткі разнамастых коней з розных краін свету. Для яго гэта быў добры і даволі бяспечны бізнес, бо пакатацца на ягоных конях прыязджалі шмат важных людзей. Але не коні яго цікавілі, а навошта на гэтую дробную здзелку ён прыхапіў гэтую дзяўчыну, якая ніякіх аносін да яго каранёў не мае. «Не паказваць жа яе вязу





бацькам, каб ажаніцца. Навошта? Нават, калі вырашыў ажаніцца са сваёй Тасяй, то і тады бацькоў паставіў перад фактам перад самім вяселлем за два тыдні,» – думаў ён. Даўно гэта было, амаль дваццаць дзевяць гадоў таму. Бацька Іван тады глянуў на Тасю сваім ваўчыным поглядам егера і, не сказаўшы ні слова, выйшаў з хаты. Ужо пасля, выпіўшы тры стаканы самагонкі, прамовіў: «Яна з цябе будзе, сынок, сок ціснуць, але ты не спяшайся, цярпі, жыві, потым сама адклеіцца… Сама сябе згнюсіць!»

Прароцкімі былі словы бацькі: нарадзіла Тася Яўхіму Іванавічу двух сыноў, Данілу і Рыгора, якія ў людзі не спяшаюцца выходзіць і працягваюць падарожнічаць па свеце з такімі ж рамантыкамі, як і самі. Яны адмовілся ад грошай і падтрымкі бацькі і спазнаюць свет па сваіх рокерскіх законах. А Тася пакінула два гады таму назад Яўхіма Іванавіча і з лёгкасцю сцалавалася з яго намеснікам па асноўнай фірме, імя якога ён забараніў пры ім узгадваць нават пры самым добрым настроі, таму і мы яго імя пісаць не станем, каб не наклікаць непрыемнасці з боку рагатага мужыка.

Яўхім Іванавіч, не сказаць, што вельмі шкадаваў, што так лёгка згубіў жонку, колькі зразумеў, што яму трэба нейк рэнамэ сур'ёзнага чалавека неяк падтрымаць, і для гэтага маладая палюбоўніца будзе самым добрым падмуркам. Таму Мар'яначка зараз тут, на яго малой Радзіме, у вёсцы, дзе ён рабіў свае першыя крокі жыцця, дзе пужаўся гусей, індыкаў, пасьвіў кароў і вучыўся з бацькавага ружжа трапна пуляць па кансервавым банкам ужо ў трынаццаць год. А праз два гады ён легка дасягнуў ўзроўня моцнага стралка, і гэта не раз потым вельмі яму спатрэбілася, калі ён паставіў сваімі ўпэўненымі рухамі зброяй не аднаго свайго канкурэнта і праціўніка на месца. Пра гэта пісаць не трэба, бо зараз Яўхім Іванавіч вельмі сыты кот, якому, па вялікім рахунку, ужо нічога не трэба, але прадаць бацькоўскую сядзібу трэба, каб не адцягвала ўвагу ад спраў і сваімі ўспамінамі не цягнула ягонае браніраванае сэрца ў туман сантыментаў, якія ён не любіў і не шкадаваў сілаў, каб заглушыць у сабе нешта звышчалавечае, што яму дасталося ад мамы Паліны

Адамаўны, якая была чалавекам па-вясковаму дасціпным і дабрадушным.

І, узгадваючы маці, мужчына задумаўся аб тым, аб чым ніколі не задумваўся: а ці быў ён за свае пяцьдзесят шэсць гадоў шчаслівым і дабрадушным, як была ягоная маці і, магчыма, бацька. Так, яны былі шчаслівыя, бо кожны дзень яна падавала яму, калі ён ішоў у кантору ці лес на працу, ягоны шынэль, які клапатліва чысціла і сушыла на печы. Тады вочы бацькі станавіліся вельмі вясёлымі і светлымі. Паміж бацькамі прабягала іскрынка радасці, што яны клапоцяцца адзін за адным. І цяпер Яўхім Іванавіч узгадваў, пры ўсіх сваіх дастатках і дасягнутай вяршыні жыцця, як даўно быў у яго момант, калі яму рабілася добра і радасна ад узаемных адносінаў, і ён нечакана спытаў у Мар'яначкі:

– Калі б, Мар'яна, я раптам збяднеў, ты б змагла мяне пакахаць?

Дзяўчына ад нечаканасці ажно перастала жвачку жаваць і нейк дзіўна паглядзела на таго. І тут сама нейк змянілася ў вачах, і Яўхім Іванавіч заўважыў, як знікае раптам з яе твара нейкая маска, да якой ён прывык, і вочы Мар'яначкі сталі сур'ёзнымі, і нават крыху пацямнелі. Так здалося, што Яўхім Іванавіч раптам руль з рук ледзь не выпусціў, каб выцерці раптам звільгатнеўшы лоб.

– Не ведаю, Яўхім, я бедных яшчэ не кахала, я наогул нікога яшчэ не кахала… можа быць, але гэта так нечакана…

– Зразумела, ты ведаеш куды мы едзем?.. Не, не ведаеш. Я дом хачу прадаць. Бацькоўскі, дзяцінства там прайшло. Дзяцінства было шыкоўным, багатым на ўспаміны, бацькі мае адзін аднаго кахалі ўсё жыццё… я зараз зразумеў, калі б я так мог пражыць, як яны, тады мне таго, што ў мне ёсць, не трэба было б… Таму я цябе аб гэтым і спытаў. Прабач, праехалі…

– Яўхім, ты лепей скажы, ты ж не хочаш прадаваць гэты дом, а навошта прадаеш, чаму сёння і зараз чаму я з табой туды еду? – у пытаннях Мар'яначкі было шмат сур'ёзнага, і Яўхім Іванавіч гэтага не чакаў. Ён спыніў машыну каля лесу, і яны вышлі падыхаць паветрам.





– Там сад ёсць, вялікі, яго бацька садзіў, калі працаваў ў ляснiцтве. Ён такіх яблыняў смачных насаджаў: антонаўку, штрэйфен, пепінку, белы наліў, і нават есць каштэлі. Ты спрабавала каштэлі? Не, не спрабавала. А ведаеш, чаму я дом прадаю? Ён нагадвае мне пра шчасце бацькоў, пра мае выдатнае і мядовае дзяцінства. У бацькі была добрая пасека. А мне навошта, у мяне ўсё ёсць, а шчасця ніколі не было… ніколі.

– Добра, Яўхім, – дадала Мар'яначка, – давай зробіш так: калі табе прапануюць лічбу грошай, якая дзеліцца на два, то ты не прадаеш, значыцца, будзеш шчаслівым з кімсьці, а калі суму пры гандлі на два не дзеліш, – прадавай… Гэта мая прапанова.

Яўхім задумаўся і паглядзеў на дзяўчыну ўжо па-іншаму, як быццам перад ім быў іншы чалавек. Ён узяў яе руку, пагладзіў па шчацэ, пацалаваў і запаліў. Мар'яна не разгубілася, але зрабіла крок назад і маўкліва пайшла ўздоўж дарогі, збіраючы кветкі і весела машучы імі, нібыта развітваючыся. Яўхім Іванавіч глядзеў на яе прыгожую фігуру і развіваўшыяся на вятры русыя валасы. І ў гэтую хвіліну ён пачаў разумець, што трэба спыніцца і пачаць жыць па-іншаму, як жылі яго продкі, цэнячы нешта іншае, чым мітусню і дасягненні цывілізацыі. І яму зрабілася трохі лягчэй, тады ізноў захацелася абняць і пацалаваць дзяўчыну, але ён гэтага не зрабіў. Праз дваццаць хвілін яны былі ўжо на месцы.

Каля вялікага старога драўлянага дома іх чакала сціплая машынка маркі «Опель», з якой выйшаў высокі малады хударлявы чалавек. Мар'яначка з цікавасцю паглядзела на гэтага дзівака, што вырашыў набыць у амаль лясной глушы гэтую драўляную сядзібу.

– Добры дзень, пан Шпакоўскі, я ўжо агледзеў ваколіцы, знутры дом таксама паказалі, мне падабаецца, – амаль не даючы таму адказаць, пачаў малады чалавек.

Але Шпакоўскі не спяшаўся ісці насустрач маладому чалавеку, ён павольна, з хадою гаспадара жыцця, агледзеў яго з ног да галавы, як нейкі міністр свайго падначаленага, і гэтак жа павольна прамовіў

– Тады, Ігар, дзейнічайце, купляйце і жывіце з радасцю. Мой кошт вы ведаеце, ну, дык як?

– У мяне няма столькі грошай, я магу даць на тры тысячы меней, давайце, згаджайцеся.

Яўхім Іванавіч глянуў на Мар'яначку, якая, нібы заварожаная, глядзела на хлопца.

– Што, спадабаўся? Ён піша музыку, добры хлопец, але небагаты, яшчэ на пачатку кар'еры. Я таксама такім бедным быў. Яго завуць Ігар Бадзевіч – музыка і кампазітар… Хі-хі, на альце грае і піяна. Няблага, я табе скажу.

– Дык прадай яму, хай даглядае твой дом, песні і кампазіцыі піша, – дадала Мар'яначка.

– Не, я яму не спушчу, цана 12 тысяч і не цэнта меней. Да таго ж ён на цябе неяк не так глядзіць.

– На мяне многія мужчыны не так глядзяць, – з нейкай прытоенай радасцю прамовіла Мар'яначка.

Тым часам Ігар маўкліва агледзеў будынак, пуню, лазню, а потым пайшоў у сад. Трава мерна казытала падэшвы ягоных чаравікоў, і хлопец прысеў каля старой дзічкі, нібыта ўслухваўся ў нешта, прышпіліўшыся літаральна вушамі да дрэва. Ён так праседзеў каля пяці хвілін у маўчанні, а потым рэзка ўзняўся і падыйшоў да гаспадара маёнтка.

– Слухайце, Яўхім Іванавіч, я куплю за ваш кошт, але тры тысячы я аддам пазней. Праз месяц у мяне канцэрт будзе ў Кракаве, сольны, аркестровы, я там праграму прадстаўляю сваю пад назвай «Дзіўныя гукі вясны». Я вас запрашаю…

Яўхім Іванавіч маўчаў, адчуваючы, што павінен прадаць дом са зніжкай, але чамусьці не хацеў саступаць гэтаму амаль шчасліваму чалавеку. І, крыху падумаўшы, вырашыў пайсці на яго прапанову, з умовай зрабіць патрэбныя дакументы з адтэрміноўкай аплаты вызначанай сумы. Ігар адчуваў сябе амаль шчаслівым.

Калі Шпакоўскі вяртаўся з Мар'яначкай назад у горад, то тая амаль усю дарогу маўчала, а потым спыталася ў сябра:





– Ты думаеш, ён набыў твой дом? Не, ён сад набыў, які яму яшчэ не адну сімфонію ці ўверцюцу падорыць, ён слухаць умее, а ты глухі, Яўхім – як да сябе, так і да мяне.

– Тады ідзі і слухай гэты горад, гэты шум, гэта тваё, – ён злосна глянуў убок дарогі і замаўчаў.

– Не, мой харошы, я паслухаю свае сэрца і сыду, паеду дамоў, мне хочацца плакаць, я таксама сад твой пачула, ён такія песні пяе, тваё бацькі, відаць, умелі сад слухаць, таму і былі шчаслівыя. Ты не выканаў маю просьбу, ты не павінен быў прадаваць за цотную лічбу, а ты ўсё забыў. А можа, ты наўмысна так зрабіў, Яўхім? Я дамоў паеду, завязі мяне, калі ласка.

– Добра, і да сувязі, Мар'яначка, – спустошана адказаў той, нібы нехта вырваў з яго душы апошні цвік, які трымаў яго на гэтай прасторы.

Яўхім апасля паехаў у рэстаран «заліваць» сваё сумленне, а Мар'яначка – адпачываць, каб адчуць у сваім сэрцы нешта новае, што зробіць, магчыма, яе шчаслівай.

Праз месяц яна паехала ў Кракаў на канцэрт Бадзевіча, і той быў вельмі прыемна здзіўлены, калі яе ўгледзеў у зале. Кажуць, што пасля гэтай сустрэчы яны ўжо не развітваліся і ўсё часцей і часцей адпачывалі ў сядзібе Яўхіма Іванавіча. Кажуць яшчэ, што грошы за маёнтак дадала Мар'яначка, як раз тыя тры тысячы даляраў. Яна тады прамовіла, што гэта будзе іх сад, дзе ўсе будуць шчаслівыя, хаця да гэтага і не ведала што гэта азначае. А Яўхім Іванавіч з'ехаў у Літву да сваіх коней, і кажуць, ён там добрага рысака набыў і рыхтаваў яго да новых перамог у ганаровых скачках. Як кажуць, кожнаму сваё.

Пачалася новая восень, і тым часам сад багата скідваў лістоту, быццам гатаваўся да новага канцэрту, шукаючы сабе новы нарад у складзе новага аркестра.

**_ЛЮДМІЛА ЛАЗУТА_**

*Нарадзілася 27 чэрвеня 1954 года ў вёсцы Едначы Гродзенскай вобласці. Сярэднюю школу скончыла ў Слоніме. Пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута працавала ўрачом-педыятрам у Гродне і Гродзенскай вобласці. З 1989 года жыве ў Мінску. Зараз займаецца педагагічнай дзейнасцю. Друкавалася ў часопісах «Здоровье и успех», «Домашний очаг», «Курносики», у газетах «Воскресение», «Царкоўнае слова», «Веснік БДМУ», «ЛіМ», альманаху «Літаратурны экватар». У 2014 годзе выдала кнігу прозы і паэзіі «Імгненні», у 2016 годзе – кнігу аповесцяў і апавяданняў «Вузкімі сцежкамі».*

## Драўлянае пячэнне

*(Апавяданне)*

Калі ты, паважаны чытач, мяркуеш, што драўлянага пячэння не бывае, то памыляешся. Праўда, зусім трошкі. Бо тады-сяды ў жыцці здараюцца смешныя выпадкі, калі звыклыя і простыя рэчы набываюць незвычайныя рысы. Хочаш даведацца пра адзін з іх? Калі ласка.

Кожнае лета Рыгорка і дзве яго сястры, двайняткі Ганначка і Надзейка, – усе вучні пачатковай школы – праводзілі ў бабулі, якая жыла ў невялікай вёсачцы. Яны ўсю зіму і вясну чакалі надыходу шчаслівага моманту, калі ўжо скончацца абавязкі па школе і бацькі збяруцца адвезці іх «на свежае паветра», як кажа бабуля. Ужо і парадак у кніжнай шафе навялі, і непатрэбныя паперкі ў мяшок з макулатурай злажылі, і цацкі адрамантавалі, некаторыя памылі нават, а пра ад’езд – цішыня. Сумна.

І вось у пятніцу тата, гледзячы на дзяцей з вясёлымі хітрыкамі ў вачах, кажа:

– Ну, што заўтра рабіць будзем? Лета квітнее, а мы ў кватэры засядзеліся.

Не дачакаўшыся адказу, паціснуў плячамі:

– Пойдзем, хіба, у парк, на атракцыёны.

У пакоі ізноў цішыня, маўчаць дзеці. Бацька прадоўжыў:





– Мне здаецца, гэтая справа вельмі цікавая: скачы сабе на батуце да ўпаду, альбо круціся на каруселі, пакуль у вачах не сцямнее, ды і ў лабірынце паблукаць таксама нядрэнна. А потым цукровай ватай паласуецеся, «Ледзяной гарбатай» зап’яце. Любата! Не жыццё, а казка.

Не ўбачыўшы на тварах дзяцей ніякага рэагавання, зусім здзівіўся, ціхім голасам дадаў:

– Праўда, бабуля таксама ўчора тэлефанавала, сумуе без вас, клікала ў госці. Ды я думаю, што вы ўжо за год выраслі, Рыгор вось трэці клас за спіной пакінуў, дзяўчаткі – другі. Што там у вёсцы сталічным школьнікам рабіць?

Дзеці зусім спасмурнелі, апусцілі галовы.

– Ды і кніг яшчэ за лета шмат прачытаць трэба. Мо, паедзем у жніўні, калі мы з мамай таксама ў адпачынку будзем? – прадоўжыў бацька.

Але лепш было б, каб ён гэтага не казаў. Бо ў пакоі пачаўся такі вэрхал, што мама спалохалася і прыбегла з кухні.

Было чаго спалохацца. Дзеці, намагаючыся перакрычаць адно аднаго, чапляліся за шыю бацькі, цалавалі яго ў шчокі.

– Татачка, навошта нам гэтыя атракцыёны? Мы ж восенню іх ужо паспрабавалі. Што там цікавага? Толькі галава ў Надзейкі потым круцілася, яна есці да вечара не хацела, – казаў Рыгорка.

– У бабулі маленькіх гусянятак на аселіцы пільнаваць ад коршака трэба, няма нам часу па лабірынтах блукаць, – жалобным голасам сцвярджала Ганначка.

Вочы Надзейкі сталі бліскучымі: хіба заплачуць?

– Не хочацца нам ніякай ваты, у бабулі трускаўкі спеюць, – жалобна шаптала яна.

Але тата не выказваў ніякіх меркаванняў, маўчаў, раз за разам паглядаючы на разгубленую маму, якая не чула, аб чым раней вялася гамонка, і таму не разумела, што тут зараз адбываецца.

Калі Надзейка давяла апошні аргумент, што кнігі на лета ўжо даўно атрыманы ў бібліятэцы і зложаны ў торбу, тата, глянуўшы ў бок маці, сказаў:

– Як ты, Алена, лічыш, мо сёння нам у вёску накіравацца? Дзеці, як бачыш, – за.

Мама здзівілася, быццам першы раз пра гэта чула, і з усмешкай адказала:

– Едзем. Я, як ведала, раніцай пірагі завяла. Зараз пасаджу ў духоўку. Збірайцеся, гадзіны праз дзве і я буду падрыхтавана да падарожжа.

Вялікую радасць шчаслівых дзяцей чулі суседзі зверху, знізу і з бакоў.

Ехаць па знаёмай дарозе было вельмі прыемна. Спачатку мама прапанавала гульню ў гарады. Праз якую гадзіну ўсе вядомыя гарады былі пералічаны. Пасля, седзячы ў цішыні на заднім сядзенні, дзеці марылі хутчэй убачыць бабулю, збегаць да дзядзькі Фёдара ў кузню. Там заўсёды было вельмі цікава ўсім дзецям, бо знакаміты кузнец меў невялічкі запас цукерак на выпадак неспадзяваных гасцей. А калі ўжо пачне цямнець, яны папросяць дарослых разам пасядзець на лаўцы каля хаты і паслухаць чарговую адмысловую казку бабулі, у якой усе героі нагадваюць знаёмых і часам здаецца, што жывуць яны ў бабулінай хаце.

Першай набліжэнне гасцей пачула аўчарка Рэта. Яна радасна брахала, ускоквала пярэднімі лапамі на веснічкі вальеру, нібы хацела іх адчыніць. Потым паварочвала галаву ў бок хаты і працягвала настойліва брахаць, гледзячы ў акно, што, мабыць, азначала: «Гаспадыня, пара страчаць гасцей, ужо блізка». Убачыўшы бабулю на парозе, на хвіліну змоўкла, а потым пачала зноў радавацца, папіскваць высокімі нотамі, выкідваючы выкрутасы ў паветры, бо ведала, што праз якую хвіліну-дзве да вальеру падыдзе тата Сямён і адчыніць веснічкі. Так здаралася часцей за ўсё. Здарылася і сёння.

Горача павіталіся, бабуля незаўважна няпрошаную слязу выцерла. Сямён аднёс рэчы ў хату. Разам з маленствам накіраваўся да Рэты, запытаўшыся ў маці, ці няма якой слабой жыўнасці ў двары.

– Няма, няма, сыночак, гусі яшчэ на лузе, а куранятак я ўжо зачыніла – курыны вечар кароткі.





Сямён адчыніў веснічкі. Аўчарка толькі гэтага і чакала. Яна скакала вакол Сямёна і дзяцей, мяркуючы лізнуць кожнага ў шчаку. Потым, нібы нешта ўспомніўшы, сігала ў бок, і, не раўнуючы, як ракета, некалькі разоў праносілася па ўсім двары. Мо, разміналася? Памятала, што летась у лес яе бралі. Рыхтавалася, каб быць фізічна гатовай.

Цямнела. Малады гаспадар паклікаў аўчарку, накіраваўшыся да вальеру. Колькі хвілінаў пастаяўшы побач з ім, нібы перадумаўшы заходзіць за веснічкі, Рэта раптам дала лататы, у адзін момант апынуўшыся на другім канцы надворку. Ледзь не знёсшы плот, вярнулася ў вальер. На развітанне заглядвала Сямёну ў вочы, віхляла хвастом, нібы просячы прабачэння за вясёлыя паводзіны.

Вячэралі смачнымі бульбянымі клёцкамі і мамінымі пірагамі. Бабуля паведаміла, што прыехала на цэлае лета да бацькоў яе хросная дачка са сваімі дзеткамі.

– Суседзі такія радыя, засмуткавалі было ўжо без дачкі і ўнукаў. Дзеці вашага ўзросту, будзе прыемная кампанія, – сказала яна, ласкава глянуўшы на дзятву.

– Навіна добрая, заўтра ўсё і абмяркуем, – за ўсіх адказаў тата.

Стаміліся дзеці, нават мульцікі не прасілі, паслухмяна пайшлі да ложкаў. Як прыемна было ступаць босымі нагамі на мяккія бабуліны палавікі! Яна іх сама наткала з рознакаляровых палосак тканіны, нарэзаных са старых рэчаў. Таму палавікі атрымаліся яркія, нібы вясёлка ў небе, ад гэтага пакоі ў хаце былі ўтульнымі і раднымі. Апусціўшы галовы на пуховыя падушкі з непараўнальна прыемна-супакойлівым пахам бабулінага дома, дзеці сцішыліся. Рыгорка чамусьці яшчэ падумаў, што так цікава чуць, як бабуля кліча тату сыночкам. «Хіба ж ён малы? А тату, відаць, гэта вельмі падабаецца. Дзіва, ды і толькі». Усе паснулі. У хату прыйшла тая начная шчаслівая цішыня, якой яна бывае, калі напаўняецца лёгкім сонным подыхам дзяцінства.

Прачнуліся ад шэпту бабулі:

– Хуценька ўставайце, мыйцеся – і да стала. Бліночкі ўжо чакаюць.

Снедалі на кухні, напоўненай пахам падсмажаных на дамашнім масле яек з зялёнай цыбулькай. Спачатку з'елі блінок з яйкам, потым палову блінка са смятанай, а з мёдам – ужо толькі кавалачак блінка. Гэтак – толькі дзеці. Бацькі паласаваліся смачнай вясковай ежай больш шчыльна.

Разам пайшлі ў двор. Дзятва ўсё выглядвала за веснічкі, надта ж хацелася пабачыць суседкіных унукаў. Але бабуля не дазваляла пакуль што да іх ісці.

– Можа, людзі даўжэй паспаць хочуць. Яны ўчора падлогу ў пакоі нанава фарбавалі, старая фарба вытапталася за столькі гадоў.

Пастаяла, як быццам прыслухваючыся, дадала:

– Бабуля Маня з Лідай, дачкой, усе палавікі з хаты на рэчцы мылі, так намагаліся, што адзін пранік трэснуў напалам і раскалоўся. Я ім свой пазычыла, рукамі ж тоўсты намокшы палавік адмыць не дасі рады, ніякі спрыт тут не дапаможа. Так ужо ж пачакайце трошкі. Паправіла хустку на галаве, ласкава паглядзела на дзяцей:

– Як з'явіцца хто ў двары, тады і пазнаёміцеся. Пакажаце рэчку, на шугалцы пагойдаецеся. Яны ж у вёсцы ўпершыню. Ажно з Ленінграду, ці як яго там зараз называць, не ведаю, прыехалі.

Нічога тут не зробіш, трэба чакаць. Бабуля, як заўсёды, мае рацыю. Цікавасць, канешне, не давала спакою, кірпацела ў галаве. Таму вочы штохвілінна паглядвалі праз шчыліны ў плоце на суседні двор, а вушы прыслухваліся да гукаў з другога боку гэтага самага плоту.

Бабуля паклікала ўсіх на ганак папіць чаю, заваранага мятай, смародзінавым лісцем, яшчэ нейкімі травамі. Канешне, пабеглі хутка ўсе, бо ведалі, што гэты чай у бабулі атрымліваецца проста адмысловы. А калі ведаеш, што да яго выдаецца яшчэ луста чорнага хлеба з тоўстым слоем мёду, то марудзіць тут зусім не разумна. Хлеб у бабулі надзвычай духмяны, выпечаны ў вялізнай печы, што ў летняй кухні.

За чаем і прыемнымі размовамі час ляцеў хутка. Сонейка прыпякала, набліжалася расслабляльная дзённая пара. Хораша





проста сядзець у прахалодзе і назіраць, як вецер гуляе з фіранкай расчыненага акна. Нават на сон пацягнула…

Пачуўся кароткі брэх сабакі, праз колькі хвілін хтосьці нясмела пастукаў у дзверы. Мама адчыніла. На ганку стаяла тоненькая прыгожая дзяўчынка з блакітнымі вачыма і русымі кучаравымі валасамі. Трохі разгубілася, убачыўшы столькі незнаёмых твараў. Але, заўважыўшы бабулю, пасмялела. «Здравствуйте. Бабушка Наташа, я вот Ваше деревянное печенье принесла. Мама велела сказать спасибо. Мы без него не справились бы,» – сказала яна і палажыла на табурэтку драўляны пранік*. Вось ужо смеху было! Дзяўчынка спачатку разгублена глядзела на ўсіх, не разумеючы, з чаго такая весялосць. Потым вырашыла не адрывацца ад калектыву і папоўніла вясёлы рогат сваім тоненькім, як сама, смехам.

Так і пазнаёміліся. Страчаліся з таго часу на летніх канікулах кожны год, пакуль не сталі студэнтамі. Купаліся, кніжкі чыталі, шчаўе збіралі. Спачатку з цікавасцю сачылі, як бабулі ў царкву нядзельнай раніцай рыхтуюцца, падраслі – і пайшлі разам. Вечарамі слухалі гукі засынаючага вясковага быцця і размаўлялі, размаўлялі, выгаворваючы тое, што трывожыла, было дзіўным альбо незразумелым. Так і шукалі разам свае сцежкі да годнага жыцця. Кожная новая сустрэча ні разу не абыходзілася без таго, каб не ўспомніць пра тое драўлянае пячэнне, з якога сяброўства пачалося. Праўду кажуць – на добрую справу выпадковасцяў не бывае.

---

**Драўляны пранік – прылада для прання льняных палотнаў і іншых вырабаў з тоўстых тканін, напрыклад, палавікоў ці радзюжак.*

## ЮРЫЙ МЕЛЬНІКАЎ

*Нарадзіўся ў Мінску 10 лістапада 1976 года. Закончыў сярэднюю школу № 69 у 1994 годзе. Працягваў навучанне ў сталічным Дзяржаўным педагагічным каледжы № 1, дзе атрымаў кваліфікацыю «настаўнік беларускай мовы і літаратуры» у 1997 годзе. Далей вучыўся на вячэрнім аддзяленні факультэта беларускай філалогіі і культуры ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка да 2001 года, дзе атрымаў кваліфікацыю «выкладчык беларускай мовы і літаратуры».*

*Працаваў педагогам-арганізатарам у мінскай сярэдняй школе № 86, настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, супрацоўнікам паштовага аддзялення, загадчыкам гаспадаркі на прыватным прадпрыемстве. На дадзены момант працуе ў камерцыйнай фірме.*

*Размяшчаў свае творы на старонках газет «Раніца», «Наша Слова», «Наша Ніва», «Настаўніцкая газета», «Беларуская Ніва», «Народная газета», «Минский курьер», часопісаў «Вясёлка», «Першацвет», «Роднае Слова», у альманаху «Панядзелак». Публікаваў навуковыя матэрыялы ў зборніку «Святое Евангелле. Праблемы перакладу на беларускую мову». Аўтар кнігі прозы «Калі сны здзяйсняюцца…»*

### Пакуты адзінокіх мужчын, альбо Перавага сямейных каштоўнасцяў

*(Імпрэсія)*

Жыццё чалавечае – дар Божы. Гэтая выснова не падлягае сумневу. Зразумела, ніхто не адмаўляе перамог і стратаў, радасці і гора, удач і няўдач, шчасця і расчаравання кім-небудзь ці чым-небудзь. Адным словам, немагчыма пералічыць усе наяўныя альбо схаваныя пачуцці асобнага індывідума. Лепш звярнуць увагу на пакуты адзінокіх мужчынаў, аб чым вельмі рэдка гаворыцца ўголас, больш выразна і маўкліва праяўляецца ўвачавідкі.





Калі Вам крыху болей за, няхай далей кожны назаве свой век, пры абсалютна роўных умовах жыццядзейнасці і набытай прафесіі заўсёды хочацца зведаць незабыўную асалоду самых трапяткіх пачуццяў ад прыгожай паловы чалавецтва, адчуць непаўторнасць пацалункаў, росквіт абдымкаў, чараўніцтва шчырасці, вернасць у стасунках, веру ў ласкавае і пяшчотнае каханне, надзею адносна будучыні, пераважна замацаваную пячаткай яе Вялікасцю Сям'ёй…

Сапраўды, згаданых вышэй чыннікаў, далёка не ўсіх, не хапае мужчынам, якія спатыкнуліся з не самай лепшай з'явай рэчаіснасці, адзіноцтвам. Ад чаго на сэрцах няма спакою, рэзкі і пякучы боль штовечар прыходзіць, не папярэдзіўшы, пастаянная задумлівасць пра вечнае і святое, дарагое – чаканая госця фізіка і лірыка, інжынера і філосафа, вайскоўца і вынаходніка… Нескладана ўявіць мроі, мары, жаданні такіх людзей, якія не супраць падзяліцца сваім досведам, практычным вопытам, платанічным і сапраўдным каханнем з той адзінай і любай жанчынай, маладзіцай, дзяўчынай, што абавязкова выслухае, падтрымае іхнія здольнасці і таленты, адкрые незлічоны скарб сямейнага жыцця.

Патрэбна не адно спатканне, не адна сустрэча блізкіх па інтарэсах, схільнасцях і ўзаемных абавязках мужчын і жанчын, каб загарэліся агеньчыкі спагады, неабыякавасці, сур'ёзных намераў і адказных, калі-некалі гераічных учынкаў, каб здзейсніліся самыя фантастычныя задумы тых, хто шукае каханне, кахае і не пакідае спадзявання быць каханым.

Каб менеи схіляцца і гарнуцца да адзіноты і звязаных з ёй праблемаў, безліччу пакутаў, мы, сапраўдныя рыцары, джэнтльмэны, людзі гонару, слова, справы, шмат часу аддаем любімай працы, навуковым даследаванням, творчым заняткам, дзейнасці на карысць Госпада Бога і беларускага грамадства, у якім жывем. Гэта дазваляе вытрываць цяжар нязручнасцяў, часткова спыніць сардэчны боль, перамагчы гора й страх…

Некаторыя занадта пыхлівыя скептыкі ладзяць кепікі і неразумныя свавольствы з працаголікаў, інтэлектуалаў і майстроў на ўсе рукі. Маўляў, далей уласнага носа, кашалька ці чаго-небудзь

яшчэ звышважкага не бачыце. Няма прычыны злавацца ці крыўдзіцца на крытычныя заўвагі, калі апошнія да месца ўжытыя. Ад сумленнай працы ніхто не збіраецца прад'яўляць недасканалыя прэтэнзіі і надуманыя скаргі. Хутчэй, наадварот, можа, зайздросцяць, імкнуцца дасягнуць пэўнага ўзроўню, кругагляду, пашырыць свае веды й навыкі. Займаючыся справай, выкарыстоўваючы фізічныя сілы і развіваючы інтэлектуальныя магчымасці, нясем вялікую духоўную і матэрыяльную адказнасць перад нашымі роднымі, блізкімі, сяброўкай, жонкай…

Канешне, гармонія мужчынскай душы пабудавана такім чынам, каб у неабходны момант і час адкрыцца праз устойлівыя пачуцці, эмоцыі, перажыванні, хваляванні, імкненні дабрыні, чысціні, праведнасці, раз і назаўсёды даверыцца будучай каханай, сяброўцы, жонцы, маці тваіх дзетак, каб памнажаць розныя здабыткі, абараняцца ад навалы непрыемнасцяў, каб ніколі не згасала святло сямейнага ачага…

Не жадаючы адчуваць скутымі вузельчыкамі жудаснай маркоты, адчайнай самоты, горкага суму,  нам, мужчынам, прыходзіцца бунтаваць супраць тупасці, глупства, фанабэрыі, лухты, дзікунства, малога ці вялікага, абмежаванасці розуму, бясконцай дурноты, хцівасці, шэрасці, баязлівасці, чыхсьці жахаў і пагрозаў, прымаючы выпрабаванні такімі, якія ўзнікаюць на шляхах, сцежках, дарогах, бальшаках да шчасця… Перамагаць названыя праявы настойлівасцю, цярпеннем, вытрымкай, бездакорным прафесіяналізмам. Дадзенае бунтарства выклікана звычайнай рэакцыяй дабра над злом, праўды над хлуснёй, святла над цемрай, толькі ўмацуе пазіцыі мужчынскага і жаночага пачаткаў існасці, іх судакранання і палепшыць пачуцці аптымізму, даверу, адмысловасці быцця, поўнага адлюстравання дадатных і адмоўных рысаў чалавечага характару.

Калі я адчуваю набліжэнне і небяспеку адзіноты, тады з вялікім захапленнем неаднаразова перачытваю Песню Песняў цара Саламона са Старога Запавету і шчыра, аддана малюся нашаму Збаўцу Ісусу Хрысту, каб пры ягонай руплівасці і дапамозе знайсці дзяўчыну маёй мары, што стане для мяне спадарожніцай





кручыністага жыцця, маёй Верай, Надзеяй, Любоўю, самым блізкім чалавекам пасля сваякоў у бязмежным Сусвеце.

А Вы як ставіцеся да напісаных вышэй радкоў?

## Сімфонія кахання

*(Імпрэсія)*

*В.К.*

Пачастункі каханай і для каханай жанчыны ў маёй мяцежнай душы застаюцца ласкавымі імгненнямі, шчаслівымі ўспамінамі, незабыўнай рамантыкай і чароўным натхненнем. Як прыемна бачыць шчырую і загадкавую ўсмешку, дзіўнай дабрыні позірк, адчуваць яе пяшчоту, спагаду, мелодыю клапатлівага сэрца, непарыўную гармонію і вялікую, вельмі вялікую адказнасць за нашу таямнічую будучыню.

Салодкія прысмакі дапамагаюць раскрыць багацце таленту жаночага, цудоўныя і Богам натхнёныя здольнасці прывабнай гаспадыні, разумнай і справядлівай кіраўніцы, цікавай суайчынніцы і добрай матулі, сумленнай патрыёткі Роднага Краю…

Спяваю серанады за незвычайна каларыйныя печывы, згатаваныя зграбнымі ручкамі маёй сяброўкі, так радасна, як гамоняць буслы ў паднябессі. Гэта найвышэйшы ўзор кулінарнага мастацтва і дзіўная асалода, што толькі збліжае, дапамагае асэнсаваць сімволіку шчасця, узаемнасці і мудрасці.

Спяваю оды за надзвычай выдатнае апельсінавае варэнне, водар і смак якога станоўча ўплывае на развіццё асобы аўтара гэтых радкоў, яго сціплую мужчынскую асобу.

Прыгадваю працягнутую вафельку падчас перапынку на абед, з асаблівым жаночым замілаваннем і сардэчнай цікавасцю, сакавітую халву,  дзе ўсмешка дарагой для мяне сімпатыі ззяе сонечнымі праменьчыкамі надзеі, адным словам, успамінаў столькі, як першых цюльпанаў на градках. Разумею, як ты, мая любая, падсілкавала салёнай саломкай падчас працы над справаздачай,

каб забяспечыць наш калектыў дзейнасцю без перабояў і аўралаў…

Незабыўныя ўражанні застаюцца, калі ты частуеш мяне шакаладнай цукеркай, ад чаго залечваюцца ўсялякія раны і надоўга забываецца дарога да дактароў…

Радасцю свецішся ты, калі прыношу табе пліткі белага шакаладу па прычыне пастаяннага даверу.

Свядома разважаю над тваёй падтрымкай у моманты вялікіх выпрабаванняў, якіх заўсёды вельмі багата. Восенню 2013 года спрабавалі мяне зацугліць для невядома якіх мэтаў людзі аднаго адстаўнога міліцэйскага генерала, быццам бы галоўнага літаратара на абсягах Беларусі. Пачуўшы ветлівую адмову ад мяне, пачалі ладзіць усялякае глупства. Белы сцяг не вывесіў, а працягнуў змаганне, добра разумеючы, якіх вынікаў магчыма чакаць у блізкай і далёкай будучыні.

У дэталях распавёў табе свае ўчынкі, верагодныя высновы і прыкладную хаду далейшых падзеяў, адчуўшы жаданне адолець гэткіх авантурнікаў і няўклюдаў раз і назаўсёды, каб болей неназалялі і не чапляліся.

Мілая Волечка, як выдатна, што ты прыняла мой бок у згаданым інцыдэнце, таму шляхам значных высілкаў разам перамаглі досыць уплывовых недабразычліўцаў. Як добра, калі ёсць каму даверыць радасці і няўдачы, поспехі і хібы, узлёты рамантычнай душы і хваляванні за сапраўдную, лепшую сяброўку, каханую і калегу…

Знаходжу таямніцы тваіх незгасальных чараў, жыццясцвярджальнага хараства, анёльскага характару, гатовы заўсёды цалаваць рукі, вусны, шчочкі, грудзі, ножкі маёй каханай жанчыны.

Кожны дзень разам з табой падобны да зіхацення добразычлівай вясёлкі, калі цяжар праблемаў паступова знікае ў нябыт, калі два сэрцы праходзяць праз рубяжы небяспек, недарэчнасцяў, выбрыкі занадта буйных асобаў…

Як лёгка трымаць цябе за руку, шаптаць прызнанні, асэнсоўваць багацце зносінаў і абараняць нашы агульныя інтарэсы ўсюды і заўсёды…





Два сэрцы пішуць сімфонію кахання, ад якой свет мяняецца да лепшага, адступаюць стыхіі і непрыемнасці, беды і нязручнасці, замест іх вяртаюцца ўзаемнасць, цеплыня стасункаў і вялікае захапленне адно адным…

### П’яны цэнзар

(*Апавяданне-фантасмагорыя)*

Чаму Уладзя Марнатраўцаў пачаў шукаць працу ў цэнзурным камітэце, для ўсіх нас – задачка са шматлікімі невядомымі. Зразумела, ніхто не прымушаў нашага героя спяшацца ў пекла, аднак яму закарцела апынуцца ў ролі душагуба вольнадумства, жандара над роднай літаратурай ды падпявалы палахлівых бюракратаў. Уладзя лічыў сябе звышактуальным творцам, меў за плячыма такі-сякі друкаваны скарб, пераважна складзены з од ды опусаў ухвалення чынавенства, дэтэктываў трэцяга гатунку. У розных канфліктах, не вартых з’едзенага яйка, спаталяў смагу натхнення яго задзірысты, яўна пазычаны ў байцоўскіх пеўняў, характар – аснова непаразумення з іншымі аўтарамі-сучаснікамі. Спадар Марнатраўцаў, верагодна, лічыў сябе ў чымсьці абрабаваным, калі не выпадала магчымасць пазлавацца на хлопцаў, дзяўчат, мужчын, жанчын, што актыўна працавалі на літаратурнай ніве. Відаць, баяўся даваць дарогу новым здольным людзям у друк, раптам яго жартам, усмешкамі ды іншымі сур’ёзнымі тэмамі абыйдуць, тады хоць кідайся ў сажалку ад ганьбы ды глупства...

Ягонай светлай задумай з’яўляўся абсалютны кантроль над усімі літаратарамі, каб без подпісу Уладзіслава не бачылі свету аніводная газета, аніводны часопіс, альманах, зборнік ці кніга. Авантурніка турбавала тое, што ў творчасці маладзейшых не бачылася аніякая ідэалогія, адсутнічала тэорыя бесканфліктнасці, на першы план выходзіла Праўда, Ісціна, а не казённы хваласпеў. Паплечнік Марнатраўцава, Хвалько Брахун, пакутаваў на ідэалагічнай службе пры змрочнай установе цемрашальства. Абодва дзялкі сутыкнуліся з тым, што іх крытыкавалі паўсюдна, лічылі

невукамі ды пустабрэхамі, якіх варта гнаць у шыю ў дзіцячы садок ці першы клас пачатковай школы на перападрыхтоўку, на перавыхаванне...

Вопытнага кантралёра над чужымі думкамі і лёсамі чужых твораў дапякалі: да апошняга ставіліся як да дзівака і п'янтоса ў адным флаконе. Калі першая бяда праяўлялася выпадкова, незаўважана і эпізадычна, то ад другой не схаваешся і ў мяху ад бульбы. На чырвоным твары Уладзі адразу высвятлялася пячатка любові да гульбы ў бутэлечку з вельмі моцным градусам. Беспрынцыповы цэнзар той яшчэ жлукт: яму толькі налі алкагольнай атруты, потым пашкадуеш, што мала, бяжы тады ў краму і не аднойчы, каб пагасіць пажар незадавальнення і звычайнай абмежаванасці. Якім чынам Марнатраўцаў чапляўся за прыемную пасаду, загадка, вельмі падобная на вірус траянскага каню ў камп'ютары. Уладзі падабалася яго напружаная «дзейнасць»: лётай з праверкамі па рэдакцыях, чытай неапублікаваныя рукапісы вершаў, паэм, санетаў, балад, апавяданняў, навэл, раманаў, п'ес, выклікай тады на сумна вядомае суразмоўе іх аўтараў ды закручвай гайкі на ўсю разьбу.

Больш складаны занятак у сябрука па няшчасці Брахуна, таму трэба паварочваць лапці ў майстэрні да мастакоў, калі яшчэ дазволяць прыцягнуцца, круціць носам па дзьмунню ветру, уважліва разглядаць карціны, пісаць справаздачы ў жанры даносаў, накіроўваць шэрае рэчыва ў бок магчымай крамолы і чухаць, чухаць патыліцу, каб не памыліцца. Даказвай у выпадку няўдачнага палявання, што ты не дыпламаваны баран з байкі Крапівы.

Незайдросная справа: на практыцы не даваць ходу іншадумству і любой ініцыятыве, тут рызыка больш за 100%, а карысці мала. Заўсёды творчая інтэлігенцыя выйсце адшукае, такое, мала не здасца ні цэрберу на ланцузе, ні пустадомку-ідыёту, які прысабечыў горшае найменне савецкай мінуўшчыны і цяпер ганарыцца, які ёсць «звышразумнік».

Неўзабаве адбылася вытворчая нарада, куды запрасілі і Уладзіслава Марнатраўцава, і Хвалька Брахуна. Раззлаванае кіраўніцтва сабрала падначаленых, каб акрэсліць новыя задачы, высветліць марудны стан цэнзурнага і ідэалагічнага камітэтаў, развітацца са старымі, заскарузлымі даўгамі. Сапраўды, можна хіба паспачуваць героям апавядання. Па каршэні атрымаць зараз вельмі лёгка, ад сораму нідзе не схаваешся. Яшчэ прэмію абрэжуць за невыкананы план па недапушчаных да друку творах.

– Нешта Вы павольна папярэдне аглядаеце матэрыялы, звязаныя з прозай, паэзіяй, публіцыстыкай. Чаму няма аптымізму ў досыць адмысловай справе? – кідаў іскры незадаволенасці Галоўны Цэнзар. – Так можна праспаць і карысныя факты, і патрэбную інфармацыю, – паспяхова лаяўся на Уладзіслава ягоны шэф.

– Даруйце. Крыху недарабіў. У фантастыцы чорт ногі зломіць, эпізодаў няшчаснага кахання столькі, што ў галаву не лезе. Дэтэктывы даволі смешныя, калі там галоўныя героі – дурні, валацугі і прапойцы. А вобразы бюракратаў такія рэальныя, хоць паратунку ў гарэліцы шукай. П'есы, што класічныя, што сучасныя – небяспека для глядача. Калі ж паставіць на сцэнах тэатраў – бяры шынель, шыбуй у адстаўку, – апраўдваўся Марнатраўцаў. – Людзей не стае, штат павялічвайце.

– Чым можа парадаваць выяўленчае мастацтва? Чые вобразы лунаюць на партрэтах? Хто заслужыў пазіравання ў спецыялістаў фарбы, пэндзліка і скульптуры? – наводзіў жах на Хвалька Галоўны Ідэолаг. – Калі ніякіх зрухаў не будзе, адправяць нас на біржу працы. Скароцяць памочнікаў Люцыпара. Падсмажаць на патэльні чарцюгі, дабавяць алею, каб смачней падпякліся.

– Толькі не мы, толькі не нашы. Гістарычныя дзеячы, калі ласка, жанчыны, дзеці, героі ўсіх войнаў і закалотаў, ахвяры чорных часоў мінуўшчыны, – неяк замольваў грахі Брахун.

– Зразумела. Выдаткі павялічым. Знойдзем памагатых. Варушыце звілінамі, якую падлюку варта зрабіць талентам і геніям, каб не высоўваліся, – хорам прагугнявілі кіраўнікі Уладзіслава і Хвалька.

– Ліцэнзію прымусім браць, вадкі падатак на колькасць напісанага. І іх пераможам, – упэўнена прашаптаў Марнатрўцаў.

– Забараніць, не пускаць, правяраць сумесна на адпаведнасць вольнадумства, – азіраючыся ваўчыным позіркам, параіў

Брахун. – Даць у каршэнь, каб сполаху нагнаць. Матляць велізарным кулаком...

Чым скончылася таямнічая нарада, сказаць цяжка. Але нашы героі крыху падбадзёрыліся і адначасна залілі няшмат азвярыну ў свае вечна неўтаймаваныя душы.

Неўзабаве адбыўся напад Уладзі Марнатраўцава на маладзёвую рэдакцыю штотыднёвіка. Стрэльнула ў галаву цэнзара-недавярка навязлівая ідэя псіхалагічнай атакі на тых, хто жыве сваім розумам, не схіляецца прад Бахусам і любіць Родны кут. Завітаў чыноўны ёлупень да юнакоў і дзяўчат і давай недалужнасцямі кіраваць:

– Малады чалавек. Два тыдні сядзеў над рукапісам Вашага рамана. Як ён завецца?

– Хто і што вас цікавіць? – не страціў ініцыятывы аўтар.

– Ваш твор?

– «Незабыўнае каханне». Тры гады пісаў, перапісваў неаднойчы, нарэшце ўсе чарнавікі давёў да ладу. І чаму мне спрыяе на вар’ятаў і цяжкадумаў?

– Маўчаць. Нясі пяцьдзесят бутэлек горкай вадзіцы, тады дам згоду.

– Алкаголік. Маразматык. А каб Вам у гарэлцы плаваць ды рукавом закусваць. Пайду да іншых выдаўцоў, з імі лягчэй дамовіцца.

– Файная ледзі, з якой нагоды вы назвалі паэму «Пятнаццаць сутак»? Яе нельга дасылаць у друк, інакш мяне здадуць у Навінкі.

– Пятнаццаць сутак думала, столькі ж працавала над тэкстам. Туды вам дарога, п’яная калода.

– Пачакайце, не спяшыце. Цыстэрна каньяку, і няма праблемы.

– Надакучылі. Не дазволіце Вы, суседзі маю паэму асобнай кніжкай выдадуць на зайздрасць тупіцам і закаранелым нягоднікам.

– Што тут робяць дзеці?

– Дурны дзядзя, я напісаў п’есу «Жахі». Чытайце, каб Вам пачвары лыч сплюжылі.





– З цябе, непаслухмянае дзіця, пяць літраў налівачцы «Восеньскі смутак». Пісакі, халера іх не возьме. Хто заплоціць за спаленыя нервы, бясконцы працадзень, сваркі з жонкай, цёшчыны папрокі, цыркуляры ад начальства...

Выканаўшы абдзіралаўку з моладзі, пакрочыў Уладзя на службу. Галоўны Цэнзар зіхацеў ад радасці. Разам з шайкай літдрабежнікаў адсвяткавалі яны па-царску. Столькі тостаў не чуецца каля віна-гарэлачнай крамы, як у палацы прафесійных паляўнічых за мастацкімі шэдэўрамі. Марнатраўцаў прызвычаіўся глушыць спіртовыя напоі штодзень. Часам прапускаў столькі вольнага Слова, хоць за галаву бярыся. Часам без усялякіх прычын тармазіў літаратурнае жыццё, каб у самвыдаце спакой аптымісты шукалі. Кропля за кропляй алкагольных вырабаў то павялічвалі шматкроць градус грамадскай думкі, то памяншалі колькасць прыхільнікаў несвабоды ў геаметрычнай прагрэсіі.

У горшым стане апынуўся Галоўны Ідэолаг. Чамусьці Хвалько Брахун паблытаў дарогі, замест мастакоў і іх Храма натхнення занесла яго на будоўлю. Маляры і тынкоўшчыкі не згубілі пільнасці. Кінулі неабачлівага агітірніка ў ёмістасць з чорнай і шэрай фарбамі. Пасля гэтага выпадку Хвалька з гонарам прызначылі асенізатарам...

Безліч лайдакоў гвалтуюць Родную мову, мастацтва беларусаў. Дамо запойшчыкам-захопнікам па брудных руках!

## СЕРЖ МІНСКЕВІЧ

*Нарадзіўся 12 лютага 1969 ў Мінску.*

*Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ (1995). Адзін з арганізатараў і ўдзельнікаў літаратурна-мастацкага руху «Бум-Бам-Літ». Літаратурны кансультант газеты «Пераходны ўзрост». Працуе ў Інстытуце літаратуры НАН Беларусі (цяпер Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры). Кандыдат філалагічных навук.*

*Займаўся бардаўскай песняй, выдаў альбом «Жах-хі-хі / Шля-хі-хі» (1997).*

*Разам з паэтам Алесем Туровічам напрыканцы XX ст. маніфеставаў «шлях мастацтвавання» – транслагізм. Удзельнічаў у літаратурна-мастацкая акцыі «Пасля сцяны» (Стакгольм 1999), «Пісьменнікі супраць глупства» (Лахты, Фінляндыя 2001).*

*Стыпендыят Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы «Gaude Polonia» (2007).*

*Аўтар кніг «Праз галеРэю» (паэзія, 1995), «Менскія санэты / Мінскія санэты» (2002), «Прыгоды Какоса Маракоса» (вершаваная казка, 2006), «Я з БУМ-БАМ-ЛІТа» (вершы, проза, крытычныя артыкулы, успаміны пра літаратурныя і мастацкія рухі канца XX – пач. XXI стагоддзя, 2008), «Сад замкнёных гор» (фантастычны раман, фантастычная аповесць і апавяданні, 2011), «Чароўная крыніца, ці як навучыць дракона чысціць зубы» (празаічная казка, беларускае фэнтэзі, 2012).*

*Зрабіў поўны пераклад паэмы А. Міцкевіча «Дзяды» (1999), пераклаў «Крымскія Санеты» (2004). Перакладаў з польскай Славацкага, Івашкевіча, Галчынскага, Маслоўскую, з англійскай Шэлі, Лангфэла.*

### Падступная Сьвіслач*

*(Апавяданьне)*

У дзяцінстве-маладосьці я жыў у Менску на плошчы Перамогі. І мы, мясцовыя падлеткі, вельмі любілі нашую «дваро-





вую» раку Сьвіслач – яе бераг падступаў амаль да межаў нашага двара. Зь яго мы закідвалі вуды і лавілі ў яе смарагдавых водах рыбу – так, праўда! І ня вельмі тая рыба была сьмярдзючай. Нават ліна я лавіў і вярховак. На нашым беразе мы кармілі кірляў і качак. Пагоднымі вечарамі мы часта «засядалі» на лаўцы пад плакучай вярбой, апавядалі страшныя гісторыі, гулялі ў «кіс-мяў», запрашалі на рамантычныя спатканьні дзяўчат. А ўлетку мы праз мост кіравалі на супрацьлежны бераг да пракатнай станцыі і, здаючы ў залог гадзіньнікі, бо пашпартоў мы яшчэ ня мелі, выбіралі сабе водныя ровары ці чаўны, адплывалі падалей ад вачэй «ратаўнікоў на вадзе» і гулялі ў «таран» ці «абардаж». Вярталіся на станцыю мокрыя, але вясёлыя.

Часам па набярэжнай нашага берага ў чорнай вайсковай форме прагульваліся «кадэты» – мы так называлі «сувораўцаў». Нашыя хлопцы праводзілі іх злоснымі позіркамі, бо дзяўчаты з суседніх двароў заглядаліся на «выпраўленых» мурштрой кадэтаў, на іх чырвоныя пагоны і залатыя гузікі. І што яны знаходзілі ў гэтай форме? А калі сувораўцы заглядаліся на дзяўчат у адказ – то іх фуражкі ляцелі ў Сьвіслач – самыя хуліганістыя з нас падбягалі да кадэта, зрывалі казённы галаўны ўбор і кідалі яго ў зялёныя хвалі ракі. Потым «кадэт» ледзь не са сьлязьмі на вачах рознымі палкамі-прыладамі вывуджваў фуражку, баючыся, што ў кожны момант яна пойдзе на дно.

Аднойчы па тых хвалях сплыў у бок Чорнага мора класны журнал мясцовай школы № 50. Дзьве дзяўчынкі з «А» класа нашай паралелі нахапалі дрэнных адзнак і, калі былі дзяжурныя, вырашылі не адносіць журнал у настаўніцкую. Вось і паплыў той журнал празь Сьвіслач, Беразіну і Днепр да чарнаморскіх афалінаў. Дзяўчат хутка вылічылі, яны прызналіся, і болей дзяжурным класны журнал не пакідалі, настаўнікі павінны былі забіраць яго з сабой.

На нашую раку мы хадзілі і ўзімку – глядзелі, як чырвонашчокія рыбакі выцягваюць рыбінак празь невялікія лункі. А з

* У творах Сержа Мінскевіча, змешчаных у альманаху, захаваны аўтарскі правапіс.

гары, схілы якой ішлі да самой Сьвіслачы, мы каталіся на лыжах і санках. Зімы бывалі настолькі сьнежнымі, што каменны борт набярэжнай хаваўся пад сумётам і пераўтвараўся ў трамплін. Здарава было скочыць зь яго на тоўсты лёд. Увесну, калі пачынаўся крыгаход, мы гулялі ў квача – вось вар'яты! – перараскоквалі з адной хісткай крыгі на іншую. І ніхто з нас не правальваўся, сама большае замочвалі ногі па калена.

А яшчэ ўвесну ў нас зьяўлялася хобі – выратоўваць «тапельцаў». Цягам зімы людзі пракладалі сьцежкі па Сьвіслачы ад нашай набярэжнай да парка Янкі Купалы. Увесну лёд падтаваў і праломваўся пад тымі, хто імі ішоў. Часьцей пасьпявалі адскочыць. А бывала – правальваліся.

Памятаю, як пад нагамі ў маладой маці, якая ішла з малалетняй дачкой, апусьцілася крыга. Яны заплёскалі ў вадзе, закрычалі. Мы кінуліся ратаваць, але нас спынілі дарослыя:

– Мальцы, куды! Самі праваліцеся!

Мужык, які праходзіў міма, зьняў зь сябе паліто, папоўз па лёдзе, кінуў яго той маці, яна адной рукой схапіла крысо паліто, а другой – сутаргава абняла дачку. Зь вялікімі намаганьнямі ён іх выцягнуў. Потым мая мама не пускала мяне ў наш пакой у камунальнай кватэры – расьцірала тую жанчыну і дачку гарэлкай.

Удзень «тапельцаў» ратавалі, а вось ноччу наўрад ці хто мог прыйсьці на дапамогу, і ў нашым двары на раніцу хадзілі страшныя чуткі – ноччу зноў нехта над рэчкай жахліва крычаў.

Аднойчы пад лёд праваліўся здаравяк. Побач – нікога з дарослых. Мы, хлопцы, папаўзьлі самі. Утраіх ледзьве справіліся. Пасьля разам з тым бамбізам адграваліся і сушыліся каля батарэі ў бліжэйшым пад'езьдзе. Здаравяк меў фірмовае адзеньне, што ў савецкія часы было рэдкасьцю.

– Я марак, – сказаў ён. – У Канаду хадзіў. Вось прыехаў на пабыўку... Акіяны прайшоў, кругасьветку… і на табе, ледзь не патануў у Сьвіслачы…

Значна пазьней пра гэтае здарэньне і нашую любоў да Сьвіслачы я напісаў у санеце:





**Да Сьвіслачы**

Рака дваровая, смарагдавая Сьвіслач!
На санках да цябе ляцелі мы ў сумёт,
Аднойчы тут марак ледзь не пайшоў пад лёд,
І ўратаваць змаглі дзіцячай моцай сьціслай.

Там, дзе над берагам каса вярбы навісла,
Яна любіла быць, сачыць стрыжоў палёт,
А я, кідаючы галыш у люстра вод,
Па хвалях ёй хацеў пачуцьцяў столькі выслаць!

Рака дваровая, ты крыўды не бяры,
Што скутая ў мурох твая сястра старая –
Выток жа твой бруіць, да мора парывае…

За мора ці за Буг сплылі яна, сябры,
Стагодзьдзе адышло, той не вярнуць пары.
А ты – усё жывеш, і я – не паміраю.

Аднак і тут праявілася ўся падступнасьць Сьвіслачы. На польскую мову радкі: А я, кідаючы галыш у люстра вод // Па хвалях ёй хацеў пачуцьцяў столькі выслаць! – пераклалі так, быццам я галышом па хвалях ракі плыў да дзяўчыны насустрач пачуцьцям. Рамантычна, але недакладна. Прызнаюся, я ніколі ў Сьвіслачы галышом не купаўся і на гэты гістарычны момант нікому ня раю.

**Жыў быў кот**

*(Апавяданьне)*

Ката мы назвалі Сёма. Ён сам прыйшоў да нас. Маленькім кацяняткам ён забег у пад'езд, падняўся на другі паверх і пачаў мяўкаць перад нашымі дзьвярыма. Чаму ён выбраў нашыя дзьверы? Гэта вядома толькі яго кацінаму розуму ці нейкаму сёмаму

пачуцьцю – Сёмінаму сёмаму пачуцьцю. Але ж нам хочацца верыць, што ён адчуў у нас добрыя душы і чулыя сэрцы.

Кацяня вырасла ў прыгожага ката – шэра-зялёнага ў паскі з шыкоўным хвастом – шырынёю зь яго самога – як быццам працяг яго ўласнай сьпіны. Суседзі дзівіліся, гледзячы на гэты хвост. Відавочна ў радаводзе ў ката былі крэўныя зь Сібіры.

Аднак кот быў найдабрэйшай натуры. У маленстве ён нават ня ўмеў як сьлед высоўваць кіпцюры. Таму ніколі нас ня драпаў. І на дрэва напачатку ня мог узлазіць. Ніколі мы ад яго ня чулі ані рыку, ані злоснага фырку.

Калі ён падрос – стаў прасіцца на вуліцу. Каб ён ня ўцёк, мы выгульвалі яго на павадку, як сабачку. І ён ахвотна хадзіў з намі – зноўку на подзіў суседзям. Але потым нам надакучыла за ім бегаць і сталі адпускаць. Сёма выдатна ведаў свой дом, пад’езд, заўсёды прыходзіў падмацавацца і паспаць. Яму суседзі адчынялі пад’ездныя дзьверы, ну, а далей, ён зь маленства ведаў каля якога парога сказаць: «Мяў».

У двары ён пасябраваў зь іншымі катамі. Адзін быў белы з шэрымі «падпалінамі» – на баку, сьпіне, на мысачцы. Ён атрымаў мянушку Друган. Бо ён першы падышоў да Сёмы, выгнуўшы сьпіну. Сёма прыветным поглядам зьбіў ваяўнічы запал Другана, і яны сталі хадзіць усюды ўдваіх. Не… Дакладней – утраіх. Як мы пазьней заўважылі, за Друганом усюды краўся чорны, зь белай манішкаю-каўнерчыкам кот. За гэтую манішку мы яго празвалі Клерк. Ён быў настолькі баязьлівым, што заўсёды хаваўся ў кустах, траве, за камянямі, але далёка ад Другана не адыходзіў. Яны былі такімі сябрамі, відаць, зь дзяцінства. Друган – сьмелы, вольна ішоў па адкрытай сьветлай прасторы двара, а Клерк таіўся ў цяню – толькі манішка і бліск вачэй выкрывалі, што ён тут, папобач. Такім чынам, можна сьмела сьцьвярджаць: характары ў катоў розныя, а рознасьць у характары – прыкмета асобы. Тры каты-прыяцелі цяпер усюды былі разам, і з коткамі разам фліртавалі. Першым падыходзіў да «паннаў» Друган, потым распушваў свой шыкоўны хвост Сёма, а Клерк, калі рытуал знаёмства быў амаль завершаны, ціхутка ўзьнікаў з-за бліжэйшага дрэва.





Гаспадарамі двара сябе лічылі два вялікія чорныя каты – магчыма блізьняты – гэтак падобныя адзін да аднаго, што не адрозьніш. Аднойчы яны ўсчынілі бітву супраць Другана, Сёмы і Клерка. Клерк адразу шмыгануў у адчыненае падвальнае акенца, Сёма паспрабаваў ужыць сваю дыпляматыю, але яна на чорных катоў не падзейнічала, і Сёме давялося сходу навучыцца лазіць па дрэвах – забраўся на вяршаліну агромністай таполі. Друган у гэты час мудра запоўз пад бліжэйшы аўтамабіль. Чорныя каты пачалі хадзіць вакол, але пад аўтамабіль разумна не палезьлі – інакш нарваліся б на кіпцюры Другана. Пачалася аблога. Але чорныя каты лічыліся гаспадарамі двара толькі сярод катоў. А вось сапраўдным гаспадаром двара была вялізная варона – яна за ўсім сачыла з галінаў дрэваў. Убачыўшы такі бязлад, што вытваралі чорныя каты, яна хутка зьляцела ўніз і хацела была дзюбнуць аднаго зь іх у патыліцу. Кот пасьпеў адскочыць і, не азіраючыся, пабег прэч. За ім уцёк і яго чорны, як начны цень, блізьнюк. Ня ведаю, можа Друган, Сёма і Клерк некалі пасьпелі пасябраваць і з той варонай? Так ці інакш, яна своечасова прыйшла ім на дапамогу.

А потым адбылася адна падзея, якая мяне пераканала ў тым, што ў катоў насамрэч ёсьць свая мова.

Як звычайна, Сёма прыйшоў дамоў – памяўкаў пад дзьвярыма, я адчыніў. Ён пачаў лашчыцца пад нагамі – прасіць паесьці. Я нарэзаў яму мяса, паклаў на талерку. Але, дзіўная рэч, Сёма ня стаў есьці. Падышоў да мяса, глянуў на мяне, адышоў і выпісаў кола вакол маіх ног.

– Што такое? – услых прамовіў я. – Яно ж сьвежае.

Сёма ўбачыў, што я зьвяртаюся да яго, адступіў, пайшоў па калідоры да выходных дзьвярэй. Але я не зразумеў яго манеўр.

– Кіс-кіс-кіс, – паклікаў я, – Сёма, на! На! – паказаў на талерку.

Кот вярнуўся зь вітальні, ткнуўся носам у мяса, потым у маю руку, зноў абышоў мае ногі і накіраваўся ў вітальню.

– Ты хочаш, каб я цябе пакарміў там, каля дзьвярэй? – услых пачаў разважаць я. – І што? Ужо на кухні ня хочаш есьці. Прыйдзеш, пад’ясі і зноў пойдзеш гуляць. Так?

Я ўзяў талерку, аднёс яе ў вітальню, паставіў на падлогу. Сёма ўсё роўна не прыняўся за ежу. Паўтарыў свае дзеяньні – ткнуўся у мяса, потым у маю руку, абышоў мяне і… пачаў скрасьціся ў дзьверы.

– Ты што? Хочаш, каб я цябе ўжо карміў на вуліцы? – зьдзівіўся я нахабству Сёмы. – Не – вось бяжы, пагуляй, прыходзь і паясі.

Я адчыніў дзьверы. Кот выйшаў, але ўбачыўшы, што я пачаў зачыняць іх, зноў шмыгануў у вітальню. Ткнуўся ў мяса, у мяне і падышоў да дзьвярэй.

– Але ж і свавольным катом ты становішся, – буркнуў я, але ўзяў мяса, выйшаў на лесьвічную пляцоўку, зачыніў дзьверы.

Сёма пабег па прыступках уніз, спыніўся, глянуў што я з талеркай іду за ім, пабег далей.

На першым паверсе я ўбачыў такую карціну: пад’езднрыя дзьверы былі шырока расчыненыя – пэўна нехта ўпусьціў Сёму і забыў іх зачыніць, а зь левага і правага краю прахону на мяне глядзелі мысы Другана і Клерка – яны высунулі галовы і зь відавочнай цікаўнасьцю, зыркаючы вачыма, чакалі, што ж адбудзецца.

– Нічога сабе!? – вырвалася ў мяне. – Ты выпрошваў мяса для іх?

Я выйшаў з пад’езда, паставіў талерку на асфальт. Сёма адышоў ад яе на прыстойную адлегласьць, а як толькі я адступіў, Друган, а затым Клерк пачалі зь яе есьці.

З тых пор мы пачалі падкормліваць дваравых катоў. Вядома, дваравым катам часта прыходзілася галадаць, у адрозьненьні ад заўсёды сытага Сёмы. Відавочна яны бавіліся ў свае гульні з розным настроем і markdownрознымі вагавымі катэгорыямі ў страўніку… Але як, хто зь іх прыдумаў гэтую схему «разводу» мяне? Як яны паміж сабой дамовіліся?

Адно зразумела – нічога чалавечае кату не чужое… Але ж, папраўдзе, каты – створэньні болей старажытныя за нас, людзей, таму правільней трэба сказаць – нічога кашэчае чалавеку не чужое…





***ГАЛИНА МИШНЁВА***

*Родилась 2 августа 1937 года на Гомельщине в семье сельского учителя. Окончила Белорусский лесотехнический институт в 1960 году. Биолог, преподаватель, научный работник, кандидат сельскохозяйственных наук.*

*Долгое время вместе с мужем жила в Армении и работала там в лесной отрасли. По возвращении в Беларусь работала в Минске в РПП «Беллесозащита», в БГУ и УП «НПО «Центр».*

*Пишет с детства (с 12 лет) стихи и прозу на русском и белорусском языках. Автор поэтических сборников: «Далёкое и близкое» (2013), «Духовное и земное» (2015), «Радость бытия» (2016). Живёт в Минске.*

## СЧАСТЛИВЫЙ СЛУЧАЙ

Сцены из современной жизни в 3-х действиях

Д Е Й С Т В У Ю Щ И Е  Л И Ц А:

В и к т о р  С е м ё н о в и ч, директор ресторана, 48 лет;
К о с т и к, официант, 20 лет;
Н а т а л ь я  П е т р о в н а, директор женского салона, 35 лет;
В а с я  Ж у к, молодой менеджер, её племянник, 25 лет;
К р и с т и н а, студентка, дочь Виктора Семёновича, 22 года.

Действие происходит в ресторане и аптеке областного города М.

ДЕЙСТВИЕ ПЕРВОЕ

Областной город М. Солнечный, яркий майский день. Цветут сады. Сквозь зелень видна вывеска «Ресторан «Весёлый приют». Внутри – красивый уютный зал со множеством репродукций на стенах. Входит молодая привлекательная женщина в небесно-го-

лубом платье и лёгкой шляпке. Это – Наталья Петровна. Она садится за столик у окна, к ней подходит официант – Костик с блокнотом в руке.

Официант (с лёгким поклоном). Добрый день! Вы – одна? Что хотите заказать? Вот наше меню, пожалуйста (протягивает ей).

Наталья Петровна. Да, я – одна, но обедать я не буду. Принесите мне, пожалуйста, чашечку кофе Millicano, рюмочку ликёра Amaretto и плитку горького шоколада «Идеал».

(Официант уходит, а дама некоторое время с интересом рассматривает репродукции картин известных художников на стенах).

Официант (подойдя к столу). Вот, пожалуйста, Ваш заказ. (Он ставит ликёр и кладёт шоколад перед дамой. А, снимая с подноса чашечку, он нечаянно наклоняет её и проливает кофе на голубое платье дамы).

Наталья Петровна (вздрагивает от прикосновения горячего кофе, мигом вскакивает с места и непроизвольно кричит). Ах, какой же вы неловкий! Вы испортили моё нарядное платье! Что же мне делать с ним?!

Официант (растерянно). Извините, Бога ради, это вышло нечаянно. Я и сам не знаю, как это случилось...

Наталья Петровна (всердцах и чуть не плача). И как же теперь мне быть?! Ведь пятна большие и видны на голубом. Как мне выйти отсюда?! В чём?! Я еду на важную для меня встречу.

Официант (сочувственно). Я Вас прошу не волноваться, а пройти со мной в кабинет и немножко подождать. Мы мигом почистим Ваш наряд.

(На шум выходит директор ресторана, моложавый элегантный мужчина в тёмном костюме с бабочкой).

Виктор Семёнович (весело, приветливо в сторону дамы). Здравствуйте! Что за шум в моём заведении? Какие проблемы и у кого?

Официант (с виноватым видом). Да вот…. Я как-то нечаянно пролил кофе на платье клиентки…





Наталья Петровна (всердцах, обращаясь к директору). Я прошу Вас возместить мне ущерб от порчи платья! И сейчас же!

Виктор Семёнович (с мягкой улыбкой пристально смотрит в сердитые глаза дамы и так вкрадчиво произносит). Меня зовут Виктор Семёнович, я – директор этого ресторана и прошу Вас не переживать так бурно, а пройти в мой кабинет и немного подождать. Мы быстро почистим Ваш костюм. (И он обворожительно улыбнулся клиентке).

Наталья Петровна (улыбаясь в ответ). А в чём же я останусь?

Виктор Семёнович (официанту). Костик, выдайте клиентке халатик и проводите в мой кабинет (уходит).

Костик (обращаясь к даме). Вот Вам халатик, пожалуйста, переоденьтесь там и подождите. (Вскоре он уходит с её платьем в руках. Спустя некоторое время он возвращается и передаёт ей платье. Через несколько минут в кабинет входит директор ресторана).

Виктор Семёнович (официально). Я должен извиниться перед Вами и возместить причинённый ущерб. Вы довольны чисткой?

Наталья Петровна (с улыбкой глядя на директора). Ладно уж, платье моё снова – как новенькое, пятен на нём совсем не осталось, поэтому ущерб возмещать мне не надо. И жалобу писать я не стану. Не ожидала я, что в таком небольшом ресторане – такой обходительный и приятный персонал!

Виктор Семёнович (любуясь лицом молодой привлекательной женщины, произносит). Ещё раз простите, что так вышло. Костик у нас молодой, ещё не опытный официант, но очень трудолюбивый и старательный. Милости просим, заходите к нам ещё. Вот Вам наша визитка (протягивает ей). А Ваш телефон вы тоже можете оставить. Когда у нас будет роскошное праздничное меню, мы пригласим Вас отобедать.

Наталья Петровна (совсем подобрев и даже с чувством в голосе, обращается к директору). У Вас так уютно и современно, так много картин и цветов в зале, что я с удовольствием

заеду как-нибудь к Вам пообедать, несмотря на то, что мой салон «Натали» не так уж и близко находится от Вас. Спасибо за приглашение. Приятно было познакомиться. До встречи! Звоните. (И она протянула ему свою визитку, мило улыбнулась и направилась к светлой иномарке. Конфликт был исчерпан. А директор ещё долго стоял у входа, смотрел ей вслед и о чём-то думал, приятно улыбаясь).

ДЕЙСТВИЕ ВТОРОЕ

Конец августа, субботний день. Аптека в том же областном городе М. У кассы встречаются в очереди двое молодых симпатичных людей – В а с я Ж у к и К р и с т и н а.

В а с я (обращаясь к стоящей впереди него красивой девушке – Кристине). А Вы, милая девушка, что забыли в этом древнем хранилище лекарств? Разве допустимо болеть в таком молодом и цветущем возрасте?

К р и с т и н а (сердито взглянув на говорившего). Как прикажете понимать Ваши слова? Вы что, пристаёте ко мне?

В а с я (весело). Нет, что Вы, я просто хотел сказать Вам комплимент.

К р и с т и н а (задиристо). Поберегите его для своей девушки.

В а с я (примирительно). Вот Вы и будете моей девушкой. Я хочу пригласить Вас с собой. Пойдёте?

К р и с т и н а (с интересом в голосе). И куда это Вы меня собираетесь пригласить? Думаете, что я пойду? Мы ведь совсем не знакомы с Вами.

В а с я. На свадьбу и прямо сейчас. Давайте знакомиться. Вас как зовут? Или у Вас нет имени?

К р и с т и н а. Есть, но зачем оно Вам? Вы сразу же и забудете его. Такова психология у мужчин.

В а с я (заинтересованно). А Вы что, психолог?

К р и с т и н а (с гордостью). Будущий, а пока только учусь на него.





В а с я (с надеждой в голосе). Тогда Вы выслушаете меня и поймёте. Видите ли, сегодня женится мой лучший друг. Он тоже менеджер, как и я, мы вместе работаем. И я обещал придти к нему на свадьбу с самой красивой девушкой в городе. Вы же очень подходите для этой роли. Неужели Вы не выручите меня? Нас ведь ждут там.

К р и с т и н а (с интересом). И где же это нас так ждут, если не секрет?

В а с я (убедительно). В ресторане «Весёлый приют». Мы должны там быть к семнадцати часам. Соглашайтесь. Скучно не будет – я обещаю развлекать Вас весь вечер. Надеюсь, Вы прекрасно танцуете?

К р и с т и н а (подумав). Нет, не смогу. И притом меня тоже ждут.

В а с я (с явным огорчением). Жаль, придётся пригласить другую девушку. Давайте хоть познакомимся – меня зовут Вася Жук. Передумаете – приходите в ресторан.

К р и с т и н а (загадочно улыбаясь). Да уж, знакомое нам заведение! Счастливо повеселиться! (Поворачивается и демонстративно уходит, а Вася долго смотрит ей вослед. Затем он снова подходит к кассе, покупает какие-то лекарства для своей бабушки и выходит на улицу).

В а с я (про себя говорит с удивлением). Боже, какую девушку я встретил, лицом – икона, а характер – с перчиком! Такие мне нравятся. И почему я отпустил её? Не спросил даже номера телефона? И где теперь я буду её искать? Но мне почему-то верится, что всё же мы встретимся с ней… «Я не знаю, где встретиться нам придётся с тобой. Глобус крутится-вертится, словно шар голубой!» (убегает, напевая).

ДЕЙСТВИЕ ТРЕТЬЕ

Тот же субботний день в конце августа. Ресторан «Весёлый приют». Гостевой зал празднично украшен для свадьбы молодого менеджера. Среди гостей проходят В а с я Ж у к и К р и с т и н а.

Рядом в маленьком зале за отдельным столиком сидят и беседуют В и к т о р С е м ё н о в и ч и его знакомая Н а т а л ь я П е т р о в н а. Проходя мимо, к ним подходят В а с я и К р и с т и н а и здороваются.

В и к т о р С е м ё н о в и ч. Ба, знакомые всё лица! Кристина, а как ты оказалась в числе гостей на свадьбе?

Н а т а л ь я П е т р о в н а. А ты, Вася, что здесь делаешь?

К р и с т и н а. Папа, познакомьтесь. Это мой новый приятель Вася Жук – менеджер. Это он пригласил меня на свадьбу своего друга.

Н а т а л ь я П е т р о в н а. Познакомьтесь, Вася – мой племянник, сын старшей сестры, занимается бизнесом.

В и к т о р С е м ё н о в и ч. А это – моя знакомая – Наталья Петровна – директор дамского салона «Натали».

К р и с т и н а (с интересом разглядывая гостью). Очень приятно было познакомиться. (Молодые люди удаляются в свадебный зал).

В и к т о р С е м ё н о в и ч (вспоминая о прошлом, рассказывает). Потеряв свою жену и мать, мы уже несколько лет живём вдвоём с дочерью Кристиной, студенткой, будущим психологом, заботясь друг о друге. Но с тех пор, как я увидел в мае в нашем ресторане Вас, такую красивую и нарядную, я снова влюбился, как мальчишка, и не перестаю думать о Вас. Наши же хоть и редкие встречи с Вами, долгие беседы, общие интересы, совпадащие во многих областях, утвердили меня в мысли, что гораздо радостнее, светлее и легче нам будет идти по этой жизни вместе, вдвоём. Я долго думал и решился сделать Вам предложение. Выходите-ка за меня замуж! Так хочется снова иметь рядом надёжную спутницу в жизни. Можете обдумать моё предложение на досуге. Я не стану торопить Вас, милая Наталья Петровна. Я буду ждать Вашего решения, сколько нужно.

Н а т л ь я П е т р о в н а. Ну что ж, дорогой Виктор Семёнович, и я буду откровенной с Вами. Признаться, в тот майский день в этом же ресторане и Вы сразили меня наповал своей заботой о





клиентах и персонале, своей элегантностью, обходительностью и умением идти на компромиссы.

И, глядя на Вас с восхищением, я напрочь забыла тогда о своём залитом кофе платье. С тех пор и я много думала о Вас. И я своё решение уже приняла. Я согласна идти по жизни вместе с Вами. И давайте мы выпьем за это наше обоюдное решение. (Виктор Семёнович разливает в бокалы шампанское, они чокаются и пьют на брудершафт).

В большом зале шумит-гудит весёлая свадьба. Гремит музыка, гости танцуют и, возбуждённые, оживлённо беседуют между собой. В процессе танца Вася глаз не сводит со своей партнёрши – Кристины. Устав танцевать, они присаживаются в уютном уголке на диван.

В а с я (наклоняясь к уху Кристины). Ты так хорошо танцуешь, Кристина, ты – такая красивая и умная и умеешь ценить юмор, ты – просто девушка моей мечты! Может быть, это какое-то чудо случилось со мной, но мне кажется, что я влюбился в тебя с первого же взгляда там, в аптеке, где мы встретились. И теперь я очень боюсь снова потерять тебя. Выходи за меня замуж, Кристина!

К р и с т и н а (доверительно говорит Васе). После потери мамы мы несколько лет жили вдвоём с отцом, заботясь друг о друге, поэтому мы с ним очень дружны. Но в последние месяцы он начал по вечерам уходить из дому куда-то. А сегодня я увидела, что у него появилась новая спутница, эта белокурая женщина, твоя тётя, и они счастливы вдвоём, судя по их лицам. Теперь я спокойна за него, так как будет кому заботиться о нём. Поэтому я предлагаю: давай мы объявим им сейчас о твоём предложении мне. Хочешь?

В а с я (воодушевлённо). Моя тётя Наташа – замечательный человек, сердечный, заботливый и красавица при этом. И бизнес свой имеет, умница. Думаю, что твой отец с ней не соскучится. Давай подойдём к ним!

(Вася с Кристиной, взявшись за руки, снова подходят к столику, где сидят и оживлённо беседуют за шампанским её отец и его тётя).

В а с я (немножко пафосно, с волнением). Уважаемый Виктор Семёнович! Вы тоже были молоды, как и я, и, наверное, поймёте меня, моё состояние. Мы не были знакомы с Кристиной прежде, но, лишь увидев её, я влюбился в неё с первого взгляда и боюсь снова потерять её. А потому я прошу у Вас руки Вашей дочери. Мы решили с Кристиной пожениться.

К р и с т и н а (задушевно). Папа, мы так долго жили вдвоём с тобой после потери мамы и так привязаны друг к другу. Но жизнь не стоит на месте, а всё время расширяет круг наших знакомых, друзей и близких. Теперь я вижу, что и о тебе будет кому позаботиться. И я очень рада за вас обоих. Поэтому с предложением Васи я согласна, поскольку и он мне очень понравился. Иначе я бы не пришла сегодня на эту свадьбу в твой ресторан.

В и к т о р  С е м ё н о в и ч (в раздумье). Надо же, и вправду ведь говорят, что «радость одна не приходит». Я тоже сегодня сделал такое же предложение Наталье Петровне, и она, к счастью, согласилась. Поэтому и я не против вашего с Кристиной решения, но на правах старшего и её отца советовал бы вам обоим проверить свои чувства временем. Вы так молоды ещё оба, и вся жизнь у вас впереди. А сейчас давайте выпьем за счастливый случай, который свёл нас всех и познакомил в этом ресторане. Быть добру и счастью у всех!

(Все четверо чокаются бокалами с шампанским и пьют. Затем обнимаются и целуются друг с другом и присоединяются к танцующим в зале гостям. Свадьба продолжается).

З а н а в е с





## ДМИТРИЙ МОРОЗОВ

*Родился 10 октября 1937 года в г. Новошахтинск Ростовской области. Его детство и юность прошли на соседнем хуторе Павловка, куда он мечтал вернуться после Армии в качестве агронома. Но голосистого ротного запевалу почти в приказном порядке заставили поступить в Минскую консерваторию, с 5-го курса которой он был приглашен в столичный театр оперы и балета в качестве солиста оперы. Обладая высоким басом ровного звучания, певец запомнился слушателям в партиях Пимена («Борис Годунов»), Собакина («Царская невеста»), Бартолло («Севильский цирюльник»), Мазетто («Дон Жуан») и др.*

*Тонкий и вдумчивый музыкант Дмитрий Морозов выступает с различными сольными концертами, имеет записи на радио и телевидении. Пишет стихи и прозу на русском и белорусском языках.*

### В редакции*

Стихи мои прорезались поздно
И не сразу пошли по рукам.
До последнего выдерживал в прозе,
В сорок лет пошёл к знатокам.
Для редакции гардеробы – в накладку,
Но и в пальто я дрожал не хуже мальчишки.
– Пожалуйста, давайте тетрадку,
Посмотрим Ваши мыслишки.
Через раз кидали листочки,
Обжигаясь, высекали огонь.
Сидел я напротив, как на пенечке.
«Может, отходит его вагон?»
Захлопнули папку. – Ну, что же...

*Стихи Дмитрия Морозова публикуются в альманахе в авторской редакции по просьбе автора.

Всё прямолинейно и жестко,
Это, не обижайтесь, похоже
На распиленные свежие доски.
О себе и о людях все Ваши толки,
А нам нужны зерна, понимаете, – злаки.
Возможно, мой судья не худший на свете,
Но кто-то же, в Пушкинском кабинете
Некрашеного дерева книжные полки
Припудрил морилкой и лаком.

**О пользе стиха**

В раздумье о пользе стиха
Забрел на сельхозпоселок.
Здесь, почти у метро, не боясь греха,
Еще держат кроликов, гусей
и даже рябеньких телок.
И под одним глухим забором,
Нахохлившись, как в стужу,
Сидели курочки с немым укором.
– Что ж нету петушка? –
Хозяину я весело заметил.
Тот мрачно мне ответил:
– Нам дармоед не нужен.
Почти до старости наивно думал,
Что петушок как тот стишок:
Трубит зарю пораньше всякой птички,
Чтоб курочки несли яички.
Выходит, что и без него,
Не клеванная в венчик
Наполнит кошик яйцами хохлатка.
Хозяину тут взятка.





Но только ни в одном из них
Не зародится жизнь, не вылупится птенчик.
Здесь, что ни яйцо, то жировик.
Линялое перо идет на сонный пуховик.
Скорей от мертвого двора
Ушел туда, где детвора
Бросала листья, как снежки,
А я направился домой
За бумагу с пером, за стишки.

**Встреча с поэтом**

Телевизор – зло,
Трата времени это.
Сегодня же мне повезло:
Транслируют вечер поэта.

Без предупреждения зал включают,
Народу – глазам больно.
Если смертных по одежке встречают,
Поэта – тем более.

Вот крупным планом
(И надо же так показать)
Из «Ювелирторга» дама,
Она здесь затем чтоб завтра сказать:
«И я, и я была тама».

В этой потерянной девушке
В черном закрытом свитере
(Дама всё виднеется танком)
Поэт своим сердцем, как Данко,
Должен дорогу высветить.

Виновник вчера еще за кулисами
Волнуется над блокнотами
Или у зеркала-лысины
Поправляет непослушные локоны.

Не нужно для дамы в брошах
Зализывать маслом височки.
Выходи, поэт, взъерошенным,
Помоги девушке в свитерочке.

**Чудеса**

Откуда ждать чуда,
Если с Луною всё ясно?
Теперь сушить сухари
И потихонечку двигаться к Марсу.
А пока для зарядки
Нужно пройтись по Земле
Утром солнечным в сентябре.
И вдруг – о, чудо!
На поляне – одуванчик в росе.
Но это еще не все
На старой земле чудеса.
Сосед годами отворачивался,
А сегодня улыбнулся и посмотрел в глаза,
О! Что после этого лунная пыль
Или в росе одуванчик?
Не больше, чем грунт в цветочном горшке
Или в серванте стаканчик.
Космический старт состоится,
Продолжатся поиски чуда,
Ведь прояснилось только с Луной,
И ясно, еще, что главное чудо – Люди.





**Годы кругами на пне**

Годы кругами на пне –
Сколько же было сосне?
Светло, сосчиталось сорок.
Остальное смешал осколок.
Помню, получил аттестат,
Безмерно был счастлив и рад.
Жизнь бы начать и познать сполна,
Но началась в сорок первом война…

**Белый квадрат**

В белом квадрате окна
Стаями кружатся птицы,
И все – черные вороны…
А на земле под окном –
Там, где прием стеклотары,
Тройками топчутся люди,
И все – горькие пьяницы...

**Дача**

Меня, уже старую клячу,
Хотят потуже запрячь.
Хотят предельно напрячь,
Хотят, чтоб я строил дачу.
Нарезали сотки
Из болота и глин,
В расчете на то,
Что я – крестьянин.

От подъезда
Верст сорок – далековато,
Но душой уже там,
И в углу ждет лопата...

***

На веранде нашей светло,
На столе полно еды.
Бабушка возьмет ведро,
Молча принесет воды.
Дедушка наколет дров,
Жарко натопит печь.
Что-то пропоет без слов,
Тяжело пойдет прилечь.
Милые мои старики,
Скоро вам станет невмочь.
Как же мы от вас далеки,
Надо вам хоть чем-то помочь.

***

Хорошо на даче летом
С дедушкой да с бабушкой.
Вкусно бабушка кормила,
Называла лапушкой.
Ну, а с дедушкой неважно, –
Ни минутки без труда:
То стихи читать протяжно,
То в сарай носить дрова.
Зато вечером прикольно:
Костер, песни под гармонь.
Все спокойны, все довольны,
К звездам тянется огонь.





Уходили баюшки
Дедушки и бабушки,
Доверяя нам гармонь
И догорающий огонь...

**Верую**

Што там сення на вуліцы?
Пад парасонамі людзі туляцца
А я верую: дзень распагодзіцца
рыфмаю смелаю,
Дзень расквітнеецца сонцам і птушкамі –
Дзень нараджэння Пушкіна.

## КАЦЯРЫНА МЯШКОВА

*Кацярына Мяшкова нарадзілася 13 сакавіка 1968 года ў сталіцы Алжыра г. Алжыр. У 1985 годзе паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У.І. Леніна. Пасля заканчэння працавала ў Інстытуце мовазнаўства НАН РБ у адзеле сучаснай беларускай мовы, у выдавецка-рэдакцыйным аддзеле Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у газеце «Биржи и банки Беларуси», у Дзяржаўнай службе медыцынскіх судовых экспертыз.*

*Супрацоўнічала з часопісамі «Першацвет», «Маладосць», «Мастацтва», «Зрок», «Неман», «Праваслаўе», «Alpha Woman»; з газетамі «Голас Радзімы», «Чырвоная змена», «Настаўніцкая газета», «Мінская праўда», «Кніжны мір», «Культура». Выйшлі зборнікі паэзіі: «Алея кахання», 1993, «Бібліятэчка часопіса «Маладосць»; «Кляновы цуд», 1996, «Мастацкая літаратура»; кніга паэзіі і прозы «Чароўная хваля вандровак», 2016, «Галіяфы». Вершы таксама ўвайшлі ў Анталогію беларускай хрысціянскай паэзіі «Насустрач часу», 2001; у Анталогію беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла», 2003.*

### Узрушаючая магія Веткі

Ветка… Я даўно марыла патрапіць у намоленую вернікамі Ветку і пабачыць знакаміты рэлікварый старавераў – Веткаўскі музей народнай творчасці. Музей, які быў створаны на базе калекцыі яго першага дырэктара, даследчыка і прапагандыста мясцовай культуры, народнага ўмельца Шклярава Фёдара Рыгоравіча.

Упаўшы «на хвост» кампаніі такіх жа, як я, летуценніц з Супрацоўніцтва дзелавых і творчых жанчын на чале з Наталляй Пятроўнай, я пачала рыхтавацца ў новую вандроўку. Хутка, у адзін са жнівеньскіх выходных дзён кагорта авантурыстак-інтэлектуалак з пакункамі хатніх прысмакаў апынулася ў цягніку Мінск-Гомель, каб пасля пазнаёміцца з унікальнай калекцыяй стараверскага іканапісу XVII-XX ст. ст., старадрукаў і рукапісных





кніг XVI – пач. XX ст. ст., а таксама некаторымі экспанатамі народнага касцюма і побыту.

Дырэктар музея Галіна Рыгораўна Нячаева, якая «збірае» музей з 1972 года, была на лецішчы. Аб гэтым і аб тым, што будынак музея знаходзіцца на рамонце, экспанаты часова размяшчаюцца ў адміністрацыйным будынку і не падлягаюць шырокаму агляду нам сур'ёзна паведаміў вартаўнік. Узброіўшыся нумарам тэлефону спадарыні Нячаевай, Наталля Пятроўна пачала з ёй доўгія перамовы, якія у рэшце рэшт скончыліся шчаслівай падзеяй. Гаспадыня «дома муз», прыгожая як амазонка, у джынсах і сіняй сарочцы, недзе праз паўгадзіны падкаціла да нас на ровары. Любоў да людзей і мастацтва перамагла прыемную адзіноту на градах.

Першымі разам з гаспадыняй Галінай Нячаевай у адміністрацыйным будынку нас сустрэлі абразы. Прынесеныя з музею, адны з іх, прыгожа паблiскваючы залатымі кіvotамі, прытуліліся да сцен нак метадычнага кабінету, другія ляжалі маляўніча-хвалюючай мазаікай у цэнтры, на падлозе. На парозе Галіна папрасіла нас зняць абутак, увайсці у пакой, перахрысціцца і прачытаць «Ойча наш». Калі мы крыху агледзеліся і пачалася экскурсія, кожны з нас адчуў на сабе магутную энергетыку, якую выпраменьвалі вочы і лікі святых, нібы рай адамкнуўся. Аповед нашай абагатворанай дырэктаркі быў незвычайна змястоўным і яркім, без яго наўрад ці раскрылася для нас глыбіня і багацце культуры старавераў, і мне захацелася перанесці яго на паперу.

Абразы з'яўляліся вельмі значным ахоўным заслонам ад унутраных і знешніх ворагаў, яны набліжалі чалавека да іх духоўных ахоўнікаў і заступнікаў, неслі боскае святло ў душу і сэрца.

Адно з адрозненняў Веткаўскай школы іканапісу – гэта выяўленне на іконах народнай правінцыйнай шчырасці тканін. Любоў да таго, чым гараджане самі карысталіся: да іх ручнікоў, тканін з абавязковымі залатымі кветачкамі, што ўваходзіла ў штодзённы лад іх жыцця. Калі ў іншых школах існавалі нейкія свае формы тканкавых малюнкаў, то ў веткаўскай – гэта звычайна букецікі руж. Вось гэты прынцып іканапісу мы бачым на абразе «Маці Божай Знаменне» 1840 года. А вось яркі абраз «Благавешчанне»

1880 года, дзе на вопратцы Арханёла Гаўрыіла зялёная тканіна з дробнымі залатымі кветачкамі.

Далей можна заўважыць яшчэ адну рысу, якая акумулюе тое, што назапасілася за гэтыя стагоддзі. Веткаўская школа – гэта стараверскае пісьмо, гэта існаванне візантыйскага канона на працягу некалькіх пакаленняў у фальклёрнай творчасці. Гэта значыць, што майстра жыў у той жа вёсцы, слабадзе, дзе і яго заказчыкі. Большая частка прадстаўленых абразоў – сямейныя, толькі некаторыя былі ўзятыя з Пакроўскага храма Веткаўскага. Там быў чатырохярусны іканастас, зроблены ў больш кананічным, маскоўскім стылі, бо Ветка была заснавана масквічамі, і яе іканапіс грунтаваўся на базе маскоўскай школы. Таму яна супрацьпастаўляла сябе як месца са старажытным іканапісам, мясцінам з храмамі, упрыгожанымі па-новаму.

Абраз «Благавешчанне» быў напісаны, калі яшчэ не быў адкрыты сакрэт зняцця старых лакаў. Абразы чарнелі ад часу, запісваліся ў зусім іншых густах і, калі пісалася ікона, амаль ніхто не бачыў ні сапраўднага Рублёва, ні ўсе тыя шэдэўры старажытнарускага жывапісу, якія мы ведаем. Ветка была адным з самых цікавых цэнтраў стараверства, пакуль не была далучана да Расіі паводле другога падзелу Польшчы, а цэнтры старавераў перамясціліся ў Белую Крыніцу на мяжы з Аўстра-Венгрыяй, Маскву, Паволжа, і разам з імі ўся тая гісторыя купецтва і мецэнацтва, якая часткова звязана са стараверскіх рухам.

Пасля дэ-факта ў прамысловасць прыйшлі нашчадкі гэтай культуры – прамыслоўцы. І зноўназіраўся нацыянальны ўздым і цікавасць да ўласных каранёў. Шмат якія кнігі XIX стагоддзя пра абразы нейкага выбачлівага толку, маўляў, нашы нічога не ўмелі, у іх скажоныя прапорцыі, малюнак нібы закасцянеў, толькі Еўропа зрабіла велізарны скок. І старажытнарускі іканапіс на Беларусі быў адкрыты таму, што паўстала цікавасць да мясцовай духоўнай культуры, па-першае, і, па-другое, – здзіўленне, чаму старaверы пішуць свае абразы гэтак ярка, святочна і светла. Зараз я паспрабую адкрыць яго для вас. Я адчуваю, што ў вас захапіла дух ад сустрэчы з вялікім духоўным скарбам.





Абразы, якія ляжалі вакол нас, практычна не былі ў рэстаўрацыі, гэта быў іх сапраўдны колер, не вычышчаны. Адзінае, што спрабавалі зрабіць рэстаўратары, дык гэта заладзіць трэснутыя швы, але яны паспяхова лопнулі ізноў на тым жа месцы, а іканапіс застаўся некранутым. І гэта цуд! Усе іконы запар, асабліва вясковыя, пышныя, на іх час адклаў свой адбітак, але зусім інакш, самастойна, па-за межамі афіцыйнымі каналаў, па якіх мастацтва развівалася. Узнікае пытанне: чаму такія яркія абразы ў старавераў? Калі хімікі саспелі для таго, каб растварaць гэтыя старыя лакі, старыя пакосты, дык выявілася, што пад старой, спечанай, смуглай плёнкай сапраўды знаходзіцца яркі, святочны жывапіс.

А яшчэ на абразах заварожвае архітэктура. У старых кананічных спісах XV-XVI стагоддзяў мы бачым архітэктуру, як картачны домік, як суму знакаў, як невялікія нейкія будынкі, якія маюць сімвалічнае значэнне, большае, чым маштабы. Гэта, вядома, ужо Еўропа з засваеннем новага разумення маштабнасці архітэктуры і чалавека. У веткаўскім абразе чалавек знаходзіцца дзесьці ўнутры архітэктуры або побач, але адпаведна маштабу, як быццам сапраўдны, хоць яшчэ і бачны кампраміс паміж постаццю і калонай. У архітэктуры адбіліся ўсе стылі, у якіх веткаўчане непасрэдна ўдзельнічалі, таму што з гэтых месцаў выходзілі арцелі маляроў, падрадчыкаў, якія ажыццяўлялі задумы вялікіх дойлідаў XVIII-XIX стагоддзяў. І, вядома, калі абраз заказваў цясляр або маляр, які прыйшоў з Пецярбурга, Мінска, Масквы, Кіева, Прусіі і іншых месцаў, ён, вядома, не мог зразумець, навошта архітэктуру адлюстроўваць у выглядзе маленькіх домікаў. Таму веткаўская школа атрымала ў спадчыну архітэктуру ад XVII стагоддзя, якая ўжо тады задумвалася аб маштабе, але дадала і свае думкі. Гэты цясляр або муляр патрабаваў абавязкова, каб усе дэталі архітэктуры былі намаляваныя дакладна. Напрыклад, калону, па гэтым малюнку можна вырабіць, яе можна дакладна прайграць. Так, дзед Галіны Нячаевай, цясляр, маляваў дамы, абавязкова карыстаючыся лінейкай, выконваючы амаль чарцёж. Усе каменьчыкі і на іконе былі дакладна пакладзены, як яны і павінны быць, у той самай звязцы, падмурак таксама быў уладкаваны, вуглавыя слупы

ца канцэнтрацыйны лагер, які ахоўвалі нямецкія салдаты і цэлая зграя аўчарак. У лагеры ўтрымоўваліся ваеннапалонныя і працаздольнае мужчынскае насельніцтва, сагнанае з навакольных паселішчаў. Вязняў выкарыстоўвалі на будоўлі абарончых збудаванняў, дзеля чаго на ўвесь светлавы дзень іх зганялі на працу пад узмоцненай аховай, а на ноч прыганялі назад у лагер, дзе ім прыходзілася спаць прама ў багне, на купінах, засланых галінкамі дрэваў і кустоў.

У адзін з дзён групу вязняў вялі на працоўны палігон. Па збочыне склону пралягала вузкая сцяжына, па якой гналі вязняў. Атрад расцягнуўся на вялікую адлегласць, і ахоўнікам то прыходзілася забягаць наперад, то спыняцца. Аўчаркі вялі сябе гэтак жа. Унізе ад сцяжыны, за дробкалессем і кустоўем, працягнулася вялізная верхавая багна. Над яе паверхней віліся хмары машкары, часамі ўздымаліся і булькалі пузыры.

Адзін з вязняў ненаўмысна спатыкнуўся, і рух прыпыніўся. Некалькі ахоўнікаў адцягнулі ўвагу ад сваіх абавязкаў і адышлі ад звыклых месцаў у калоне. «Уцякай!» – шапнуў у гэты час сусед маладому хлопцу, і той шмыгануў за кустоўе, напрамкі ў багну.

Зляснога гушчара даносілася вухканне пабуджанай савы, кукавала зязюля. Раптоўна ўвесь гэты жывы сусвет быў растрывожаны стрэламі і лаем аўчаркі. Немец дабег да ўскрайку багны, стрэліў наўздагон уцекачу, але той ужо быў далёка, а ў хуткім часе і зусім знік з поля зроку. Немец паслаў за ім аўчара па мянушцы Ганс. Ён бачыў, як Ганс ля самага супрацьлеглага берагу стаў патанаць у бездані. Канвойны вырашыў, што сабаку, як і хлопца, што ўцёк, засасала багна, і вярнуўся назад.

Тым часам хлопец, пераступаючы з адной купкі на іншую, чапляючыся за карчы і галіны, што дзе-нідзе тырчэлі, паспяхова выкарабкаўся і быў ужо на сухім высокім беразе. «Здаецца, я жывы і небяспека мінавала,» – падумаў ён. Але раптам пачуў, што недзе недалёка скуголіць сабака. Хлопец азірнуўся і ўбачыў, як у палутара метрах ад краю багны тоне Ганс, праследаваўшы яго. Сабака жалобна павізгваў, ягоныя вочы, што ўмалялі аб дапамозе, глядзелі прама на хлопца. Ён узяў вялікую тоўстую карчагу і





пачаў ратаваць Ганса, якога ўжо амаль што па галаву засмактала багна. Сабаку ўдалося выцягнуць. Так хлопец адратаваў жыццё свайму праследвальніку.

Удваіх Ганс і хлопец паглыбіліся ў лясны гушчар, прытрымліваючыся ўсходняга напрамку. Багна засталася далёка ззаду. Цяпер яны знаходзіліся ў сухім сасновым бары. Набліжалася ноч. Пачулася ледзь улоўнае бурчэнне. Яны спусціліся ўніз па склоне і ўбачылі вузенькі мелкі ручай. Хлопец нацягаў сухога галля і доўга намагаўся яго распаліць пры дапамозе двух крамяністых камянёў. Сабака і чалавек грэліся, сушыліся і былі бясконца шчаслівымі, таму што засталіся жывымі. Ганс не праяўляў і ценю агрэсіі. Наадварот, ён круціўся вакол хлопца, віляў хвастом, задаволена павізгваў, употайкі спрабаваў лізнуць яму руку, як бы ў знак удзячнасці за сваё адратаванне.

Хутка хлопца пачало непакоіць пачуццё голаду, але ён адганяў ад сябе думкі аб ежы. Цяпер хлопец аддаваўся мары аб тым, што выбярэцца з лесу, а там, на ўсходзе, – ужо вольная тэрыторыя, немцаў выкінулі, там ужо свае. Аб гэтым ён даведаўся ў лагеры ад старэйшых таварышаў.

Ганс быццам здагадаўся аб жаданні хлопца паснедаць. Праз некалькі хвілін ён прыцягнуў у зубах рыбку, потым другую, трэцюю... Як ён злаўчыўся рыбачыць, папросту цуд. Здабыча запяклася на кастры і супакоіла голад у іх абодвух.

Прайшлі суткі пасля ўцёку, потым пачаліся другія, а лес усё не заканчваўся. Стомленыя бясконцым блуканнем па лесе, халодныя і галодныя, чалавек і сабака зноў зрабілі прывал. Разадраная паласатая роба ледзь прыкрывала цела хлопца і нікольк не саграбала. Ён адчуў моцны холад, які сыходзіў у яго знутры. Потым хлопца адолеў азноб такой моцы, што яго пачало падкідваць і біць аб зямлю. Хлопец чапляўся за карэнні сасны, пад якой ляжаў. Зубы ў яго стучалі. «Усё. Гэта малярыя. Яна дабралася ўсё-такі і да мяне...» – мільганула ў яго ўсведамленні. Затым пачалася гарачыня, галава расколвалася ад жудаснага болю, перасохлыя губы шапталі: «Піць, піць...» Потым хлопец страціў прытомнасць.

Ганс не мог дапусціць пагібелі хлопца, які быў для сабакі не варожым аб'ектам, што даверылі яму, каб сцерагчы, а сябрам, адратаваўшым жыццё. Метр за метрам Ганс цягнуў хлопца па лесе, часта прыпыняючыся і саграваючы яго сваім подыхам і цяплом цела. Хлопец усё не прыходзіў у прытомнасць. Ішлі ўжо трэція суткі. Ганс следаваў выключна па сваім, яму аднаму вядомым маршруце, які яму падказваў нюх. Ганс не перасякаў лес, а рухаўся ўздоўж яго, трымаючыся паралельна той агромністай багне. Такім чынам, ён агібаў багну, каб былы і цяперашні ягоныя маршруты самкнуліся ля зыходнай кропкі.

Наперадзе паказаўся прасвет. Лес заканчваўся. Група людзей у паласатых робах арудавала рыдлёўкамі, каля вязняў стаялі ахоўнікі і грозна прыкрыквалі на іх: «Schnele, schnele!» (Хутчэй, хутчэй!) Ганс адразу пазнаў сваіх працадаўцаў і падцягнуў ім пад ногі сваю каштоўную ношу. Ён задаволена павізгіваў, мяркуючы, што адратаваў хлопца, і ў той жа час ён быў упэўнены, што з гонарам выканаў свой службовы абавязак. Ахоўнікі весела зарагаталі: «О-о-о! Ганс! Sehr gut!» (Вельмі добра!)

*Пераклад на беларускую мову*
*Інгі Вінарскай.*

**Акупацыя**
*(Аповесць)*

**1.**

Раптоўна нехта пастукаў у дзверы. Стук быў настойлівым. Ён указваў на тое, што гэта не суседка і ніхто іншы са знаёмых. Усё зразумела: гэта паліцай альбо нямецкі салдат. Бабка Галіна рыўком здзёрнула дзверцы падлогі і адправіла ўнутр сваю сямнаццацігадовую ўнучку Анютку. На стале аказалася міска з недаедзенай бульбай. На месца дзверцы бабка насунула анучны палавік. Усё гэта заняла не больш пяці сякундаў. А стук у дзверы паўтарыўся з больш грознай сілай. Бабка Галіна скінула кручок з дзвярэй, і ў





хату ўвайшоў салдат у нямецкім мундзіры. «Mutter! Was ist das?» (Маці, што гэта азначае?) – вымавіў ён абурана. Бабка, нічога не адказваючы, імгненна паставіла на стол чыгунок з бульбай і збан з малаком. «Bitte, pan, ешце!» – стала яна запрашаць фрыца да стала, каб задобрыць яго. Ён ахвотна пад сеў да стала і прагна ўзяўся за ежу. Бабка тапталася на палавіку, прыкрываючым дзверцы.

Гэты варожы салдат кепска разбіраўся ў абсталяванні вясковых хацін, ён не падазраваў, што ў кожнай з іх маецца пад падлогай падвал, у які засыпаюць на захоўванне бульбу. Акрамя ўсяго, ён не быў падобны на даўгавязых шустрых фрыцаў. Ён быў італьянцам, і звалі яго Энрыке. Аказаўшыся па абавязку службы на ўсходнім фронце, ён часцей усяго рабіў выгляд, што змагаецца, і спачуваў мірнаму насельніцтву. Зведаўшы бабкін пачастунак, ён спытаў, дзе ж яе ўнучка. «Пайшла на хутар да цёткі Ганны,» – старалася растлумачыць бабка Галя. Энрыке мала чаго зразумеў са сказанага, аднак матлянуў галавой і пачаў тлумачыць словамі і знакамі аб тым, што ўся моладзь паселішча заўтра павінна сабрацца на плошчы ля канторы дзеля адпраўкі ў Германію, а хто не прыйдзе, таго «Пуф! Пуф!», і ён прыставіў палец да скроні, затым прыкрыў свой рот далонню ў знак маўчання. Бабцы Галі ўсё стала зразумела. Пасля адыходу Энрыке яна выпусціла з-пад падлогі Анюту і распавяла ёй гэтую страшэнную навіну.

**2.**

У другой палове жніўня 1941 года фашысты акупіравалі Гарпасёлак. Як і паўсюль, на акупаванай тэрыторыі пачало арганізоўвацца патрыятычнае падполле. Яго арганізатарамі былі пакінутыя дзеля падпольнай работы давераныя таварышы з мясцовых партыйных і камсамольскіх арганізацый.

Пра існаванне падпольнай арганізацыі бабка Галя не ведала, але здагадвалася. Анютка перыядычна збягала кудысьці ў лес, потым зноў з'яўлялася дома, нібыта нічога не адбылося. У гэты раз, пасля прыходу Энрыке, трэба было прымаць тэрміновае рашэнне.

«Пайдзі, мая донька, да бабкі Мар'і. Яна табе падкажа, як быць,» – зрабіла першы крок бабка Галя.

Пасля гэтых словаў Анютка накіравалася да вялікага драўлянага маёнтку ў цэнтры пасёлка, дзе размяшчаліся нямецкія афіцэры, у якім адзін пакойчык з асобным уваходам, падобны на каморку, займалі баба Мар'я і дзед Іван. Баба Мар'я працавала прыбіральшчыцай, і яе заўсёды можна было бачыць з вядром і анучай у руках. Грузная і непаваротлівая, з абыякавым выразам твару, яна не выклікала і ценю падазрэння ў немцаў. Аднак многае разумела з іх размоваў. Калі нямецкія афіцэры мітусіліся і бегалі, значыцца, задумвалася нейкая карніцкая акцыя. Пра ўсё яна інфарміравала свайго Івана, а ён – перадаваў падпольшчыкам. Гэты ланцужок працаваў зладжана.

**3.**

Анютка застала бабу Мар'ю ў яе пакойччыку. Быў яшчэ толькі поўдзень. Паліцай разносіў па дамах павесткі: раніцай наступнага дня ўсім жыхарам з'явіцца на плошчу разам з дзецьмі. У выпадку няяўкі альбо ўцёка ім пагражаў расстрэл. З'явіўся Іван. Ён ужо ведаў пра злачынства, што рыхтавалася. «Табе нельга тут заставацца. З наступленнем прыцемак пойдзеш праз лес у атрад і перадаш камандзіру вось гэтую запіску,» – і ён працягнуў Анютцы кавалак старонкі сшытка, у якім былі адзначаны час і станцыя адпраўкі моладзі. Так Анютка атрымала чарговае заданне падпольнага камітэта.

Удзельнікі падпольнага камітэта ўсталявалі сувязь з Чарнігаўскім партызанскім атрадам імя Шчорса. Для партызанаў яны збіралі медыкаменты і зброю, харчы, адзенне, перадавалі інфармацыю пра варожыя гарнізоны і аб тэрмінах правядзення карных аперацый. Аднак на гэты раз прадстаяла самая адказная задача: прадухіліць угон моладзі ў Германію, ды так, каб вагон з хлопцамі і дзяўчатамі не падарваць.

**4.**

Стаяў канец лета 1943 года. Пад націскам савецкіх войскаў немцы адступалі ў паўднёва-заходнім напрамку, такім чынам паўднёва-усходняя частка Беларусі паступова вызвалялася. Пры





адступленні немцы знішчалі мірнае насельніцтва, палілі вёскі і пасёлкі, а працаздольную моладзь увазілі ў Германію, каб пераўтварыць у рабоў. Вялікую дапамогу нашай арміі ў вызваленні насельніцтва і тэрыторый аказвалі партызанскія атрады, што базіраваліся ў густых забалочаных лясах Палесся.

Вось і цяпер... Часу на роздумы не было. Да світанку Анютка павінна была пераадолець дваццацікіламетровы шлях праз лясны гушчар і багну і ўручыць камандзіру запіску ад Івана. Ад Анюткі залежалі цяпер жыцці яе аднасяльчан, аднакласнікаў. Як толькі пачало цямнець, лёгкая і хуткая Анютка шмыгнула за гароды. Там забалочаны віхлясты ручай, за ім кустоўнік і лясны гушчар. Немцы панічна баяцца гэтых мясцін. Тэхніка не праходзіць па забалоццю, ды і самім патануць можна.

Лес, такі родны, утульны, знаёмы з малога дзяцінства, расчыніў перад Анюткай свае абдымкі. Вунь ледзь прыкметная сцяжынка, якую ведае толькі яна адна, указвае ёй патрэбны напрамак, дваццаць кіламетраў шляху наперадзе. Сцяжынка вывядзе яе да балота, і гэта будзе самы цяжкі кавалак шляху. Але за ёю жыцці – сяброўкі, хлопцы і нават падлеткі, дзеці амаль. Змрок пачаў гусцець. Начная птушка гучна, амаль над вухам, крычала: «У-у-у-ух! У-у-у-х!» Анютка адчула стому. Але не час рабіць перадых. «Наперад! Наперад!» – камандуе яна сабе самой. І вось нарэшце перад ёй разгарнулася шырокае балота. Можна яго абыйсці, але на гэта пойдзе лішняя гадзіна, якую страчваць нельга. Яна адшукала ля берага длінную карчагу і з яе дапамогай пагрузілася ў балотную бездань. На шчасце, багна была неглыбокая. На паверхні тырчэлі купкі, шчодра паросшыя імхом і альховым кустоўнікам. Часамі яна саскальзвала з купкі і пагружалася да самага пояса ў сэльву, але выручала карчага, якую яна не выпускала з рук. І вось, апошні кідок, і яна на супрацьлеглым баку балота. Тут сухадолле. Высокія сосны выстраіліся радамі, а паміж імі – парасткі папараці і сухавецце. Ногі Анюткі гулі ад стомы, а ад краватачывых драпін моцна зудзелі. Насоўвалася ноч...

**5.**

Улетку ночы надта кароткія. Пройдзена толькі палова шляху. Сабраўшы рэшткі сіл, Анютка накіравалася наперад. Раптоўна лес расступіўся. Паказалася каляіна, раз'езджаная вазамі. Хутка Анютка ўбачыла надламаны ствол бярозы і пакрочыла ўлева ад яго ў лясны гушчар. Астатні шлях быў ужо нядоўгім. «Стой, хто ідзе?!» – раздаўся вокліч з глыбіні. «Сарока, прыляцела здалёку,» – сказала пароль Анютка. Праз нейкі час яна ўвайшла ў зямлянку і працягнула заспанаму камандзіру запіску ад Івана.

Усім байцам быў аб'яўлены «пад'ём», і ў тэрміновым парадку яны са зброяй і боезапасам накіраваліся да той часткі чыгуначнай дарогі, дзе, як адзначана было ў запісцы, павінен быў праходзіць састаў з пяці вагонаў з жывой сілай і тэхнікай. Задача партызанаў была вельмі складанай: аддзяліць вагон з жывой сілай і выпусціць вязняў, а астатнія вагоны падарваць.

Густыя зараснікі лесу абступалі чыгуначнае палатно з ободвух бакоў. Вагон з моладдзю павінны знаходзіцца, як звычайна, у канцы састава. І вось паказаўся састаў. На адным з вагонаў ва ўсю даўжыню па дыяганалі бачна была шырокая паласа, адзначаная чырвонай фарбай. Валодзя, малады партызан і аднакласнік Анюткі, якому была даручана аперацыя па вызваленню, рвануў следам на сваім арлоўскім скакуне. Ён зрабіў адчайны скачок з каня і ўчапіўся за тамбур апошняга вагона. Зняў вартавога, па даху прабраўся да наступнага вагона і разлучыў шчапленне. Два вагоны збавілі ходу і прыпыніліся. «Свабодныя!» – шырока расчыніўшы дзверы, абвясцілі партызаны вязням. У другім вагоне везлі скаціну, і яе таксама вызвалілі партызаны. Так партызанскі атрад папоўніўся жывой сілай.

На наступны дзень акупанты сабралі ўсё астатняе насельніцтва пасёлка і навакольных вёсак, за выключэннем абслугі і паліцаяў, і пагналі ў канцэнтрацыйны лагер. Пры адступленні яны спалілі ўсё, што толькі заставалася. На месцы дамоў і хат па-сірочаму тырчэлі астовы абвугленых печаў і засталіся толькі тлеючыя руіны...





**6.**

24 верасня 1943 года партызанскі атрад імя Шчорса аб'яднаўся з перадавымі часткамі Чырвонай арміі.

12 кастрычніка 1943 года Добрушскі раён быў цалкам вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Застаўшыяся ў жывых мужчыны прызыўнога ўзросту ўліліся ў рады Чырвонай арміі, а ўвесь цяжар па аднаўленню народнай гаспадаркі лёг на плечы жанчын, падлеткаў і старых.

Што ж стала з героямі гэтай аповесці?

Галоўная гераіня Анютка вярнулася з партызанскага атраду да сваёй бабкі Галіны і выхаджвала яе ад хваробаў пасля знаходжання ў канцэнтрацыйным лагеры.

Затым яна скончыла сярэднюю школу і выйшла замуж за стрэчанага афіцэра. Але перад гэтым ёй прыйшлося ўгаворваць сваю бабку, каб тая прадала іх карову-карміцельку, што дасталася ад бабы Мар'і. На вырučаныя грошы Анютка хацела згуляць вяселле, але замест гэтага бабка Галіна адлупцавала ўнучку вяроўкай, прыгаворваючы: «Вось табе, «прадай карову», вось табе, я пакажу, «прадай карову»!» Усё ж вяселле адбылося на жаніховы грошы.

Аднакласнік Валодзя пайшоў на службу ў Чырвоную армію разам з нешматлікімі сваімі равеснікамі.

Баба Мар'я і яе Іван, што служылі ў немцаў, змаглі захаваць ад фашыстаў у таямніцы сваё партызанскае амплуа. Яны не пацярпелі ад дэспатызму фашыстаў і, на здзіўленне жыхароў, вярнуўшыхся з эвакуацыі, не былі арыштаваныя, як здраднікі, а працягвалі працаваць, як і раней. Толькі па прашэсці некалькіх гадоў высветлілася, што яны ўваходзілі ў групу падпольшчыкаў, і, дзякуючы ім, многія жыхары засталіся ў жывых.

Так, дзякуючы мужнасці і згуртаванасці людзей аднаго паселішча і навакольных вёсак, былі пераадолены неймаверныя ўмовы цяжкай акупацыі.

*Пераклад на беларускую мову*
*Інгі Вінарскай.*

**Кот**

*(Апавяданне)*

Альберт і Хрысціна перашагнулі сямідзесяцігадовы рубеж у сваім жыцці, і цяпер, кульгавыя і замучаныя хваробамі, дажывалі свой век у аднапакаёвай кватэры, суткамі гледзячы адзін на аднаго вачыма, поўнымі лютай нянавісці да «суседа» ці «суседкі» па памяшкані і да саміх сябе таксама.

Пакой ў іх кватэры меў форму доўгага прамавугольніка, а дзверы ў яго, што знаходзіліся пасярэдзіне аднаго з доўгіх бакоў, як бы падзялялі памяшканне на дзве часткі. Каля тарцавой сценкі адной часткі стаяў ложак Хрысціны, а насупраць – у другой палове, дзе пражываў Альберт, стаяла канапа і каля яе – тумбачка.

Кожны з варожых бакоў арганічна не пераносіў іншы бок. Яны нават не размаўлялі паміж сабой, а пры неабходнасці выражалі ўсё ў запісках, якія адпраўлялі ударам пстрычкі адзін адна- му, папярэдне туга скруціўшы іх у шарык.

Надышла пара прымаць ежу, а ў доме не было хлеба. Хрысціна адарвала лісток з блакнота і напісала: «Хрыч, стары і смярдзючы! Схадзі ў гастраном за прадуктамі». І пстрычкай адправіла пасланне. Туга скручаны шарык патрапіў Альберту прама ў лоб. Незадаволена паквохтваючы, ён узяў сваю масіўную кульбу і паплёўся з хаты. Па дарозе ў гастраном Альберт у думках размаўляў з супругай: «Я лічыў цябе жанчынай мягкай, добразычлівай, клапатлівай, здольнай па-добраму ставіцца да блізкага чалавека. Але я жорстка памыліўся ў цябе, Хрысціна. Ты толькі хацела падавацца такой у маіх вачах. На самой справе ты – палач. І толькі цяпер я нарэшце раскрыў тваю сутнасць: суцэльныя раздраі, жорсткасць і вераломнасць. Дзякуючы майму мастацтву і цыркавой акрабытыцы, ты мела вялікі поспех у публікі роўна са мною. Я не мяняў цябе, як партнёршу, таму што вельмі любіў цябе. А цяпер, калі цябе, як і мяне, спасціглі старасць і нямоглась, ты намагаешся адгуляцца на мне. У чым я вінаваты, скажы? Няўдзячная!»





Вяртаючыся з гастранома, Альберт прама перад сабой убачыў кацяня дымчатай афарбоўкі, якое сядзела на тратуары. Кацяня ўпрошваючы паглядзела на Альберта, яно не збегла ў бок, а наадварот, даверліва пайшло ўслед за старым, даганяючы яго і забягаючы наперад. Паблізу знесілі стары будынак і, па ўсёй імавернасці, кацяня засталося бяздомным. Альберт узяў яго на рукі і прынёс дадому. Цяпер уся гаркота раздораў адышла на задні план. Стары клапаціўся аб гэтым цудоўным стварэнні і даглядаў яго. Калі Альберт вяртаўся дамоў, Дымок (так ён назваў кацяня) чакаў яго ля парога пад дзвярыма.

Ужо некалькі дзён запар Альберт прыходзіў дадому пазней звыклага часу. Разам з сабой ён прыносіў шлейф нейкай незнаёмай парфумы. Калі ў чарговы раз ён затрымаўся, Хрысціна вырашыла праверыць тумбачку мужа. У верхняй шуфлядзе ляжала ягоная запісная кніжка. Пераліствваючы яе, жанчына знайшла новы запіс: «Анастасія,» – і нумар насупраць імені. «Ах, дык вось дзе ён прападае па палове дня. Хто яна? Так, Альберт... Ты – нягоднік! Як я памылілася ў цябе, калі, насуперак парадам маіх бацькоў, выйшла за цябе замуж. Ты прыдбаў мяне як выдатную партнёршу для акрабатычных цыркавых выступленняў. Ва ўсёй цыркавой трупе не было ніводнай персоны, якая была б мне роўнай. Ты, стары цюфяк, я не дарую табе нічога!» І Хрысціна ў бурным парыве схапіла ляжаўшы ў глыбіні той жа тумбачкі браўнінг і выстраліла ў Дымка, што мірна ляжаў на канапе яе мужа.

Анастасія пражывала ў суседнім квартале, і купляла яна прадукты ў той жа краме, што і Альберт. Яна была свабодная і незалежная, і не магла не звярнуць увагі на пажылога мужчыну інтэлігентнай знешнасці, які штодзень прыходзіў у гастраном, купляў тыя ж прадукты, што купляюць жанчыны – хатнія гаспадыні. «Напэўна, гэты мужчына адзінокі,» – са спагадай думала яна, гледзячы, як ён, не спяшаючыся, выходзіць з крамы з авоськай у адной руцэ і кульбай – у другой. Аднойчы адбылося яе знаёмства з гэтым загадкавым мужчынай. Яна запрасіла Альберта на кубак гарбаты да сябе дамоў, не ўбачыўшы ў гэтым нічога

заганнага. Мужчына аказаўся вельмі ветлівым, да таго ж ён быў прыемным суразмоўцам.

У чарговы раз Альберт вяртаўся дадому ў вельмі радушным настроі. Ён затрымаўся ў Анастасіі на некаторы час. Па дарозе зазірнуў у магазін «Заамаркет» і купіў для Дымка пакецік «Віскаса». Аднак Дымок не сустрэў яго каля дзвярэй. «Кіс-кіс!» – паклікаў Альберт. Але коцік не з'яўляўся. Гаспадар увайшоў у пакой і глянуў у вугалок канапы, дзе любіў песціцца Дымок. Там, выцягнуўшыся ва ўсю даўжыню, на баку ляжаў ягоны коцік, і пад верхняй лапкай, над яе пачаткам, ззяла глыбокая рана. Альберт вынуў з тумбачкі свой браўнінг, праверыў магазін. У ім не хапала аднаго патрона. Альберт кінуў поўны абурэння погляд на Хрысціну, якая с пераможным выглядам сядзела ў сваёй палове пакою. «Ну, што ж...» – падумаў Альберт. Ён моўчкі ўзяў Дымка на рукі і выйшаў з дому. Там, ззаду будынкаў, пад высокай сеткавай агароджай, на пустцы ён пахаваў гэтую бязвінную істоту, на якім адгулялася Хрысціна.

Больш Альберт не заходзіў на гарбату да Анастасіі. Ён зразумеў прычыну пагібелі Дымка. Вярнуўшыся дадому, Альберт напісаў запіску і, скруціўшы яе ў плотны шарык, пстрычкай адправіў жонцы. Хрысціна прачытала: «Твае жорсткасць і вераломнасць выйшлі за ўсе рамкі. Галоўная твая асалода – прыносіць боль другому. Вось і цяпер... Застраліла Дымка, і тым самым прынесла мне сардэчны боль на ўсю рэшту майго жыцця...»

Хрысціна адказала Альберту: «Ты дакараеш мяне ў жорсткасці, бессардэчнасці... А сам швэндаешся, невядома дзе... Знайшоў нейкую сяброўку Анастасію... Стары маразматык! Адпраўляйся туды назаўсёды! Усё роўна я з твайго боку ніколі ў сваім жыцці не адчувала ні павагі, ні ўвагі, ні пяшчоты ў адносінах да сябе... Ненавіджу!!!»

На наступны дзень, як звычайна, Альберт пайшоў у гастраном. Калі ён вяртаўся назад, то ўбачыў, што ад іх будынку ад'язджае машына хуткай дапамогі. Ён паспяшаўся насустрач, махнуў рукой вадзіцелю, каб той прытармазіў. «Хто захварэў і што здарылася?» – спытаў Альберт. «Пажылая жанчына, кульгавая.





Сардэчны прыступ,» – адказалі з кабіны. Альберт хутчэй адчуў, чым удакладніўся ў тым, што хуткая дапамога павезла ягоную Хрысціну.

У пакоі стаяла звінячая цішыня. Усёй сваёй істотай Альберт адчуў безвыходнасць і нікчэмнасць быцця... О! Зараз ён аддаў бы ўсё, толькі б вярнулася дадому ягоная супруга, нават калі яна будзе маўчаць і глядзець на яго поглядам, у якім не будзе нічога, акрамя нянавісці. Але Хрысціна так і не вярнулася дамоў з бальніцы.

Альберт застаўся адзін. Шчымлівая туга, пастаянныя хваробы і адзінота выматалі яму і душу, і цела.

Месяцам пазней ад таго ж будынка ад'язджала машына хуткай дапамогі. Яна ўвозіла з сабой Альберта, і, як аказалася, назаўсёды...

Вось такая гісторыя. Як кажуць у народзе, ад любві да нянавісці – адзін крок. Але, нажаль, можа і жыцця не хапіць, каб зрабіць зваротны крок – ад нянавісці да любві...

*Пераклад на беларускую мову*
*Інгі Вінарскай.*

## ВАЛЕРЫ СКАКУН

*Нарадзіўся 17 мая 1961 года ў вёсцы Асавы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Мінскі энергетычны тэхнікум ў 1981 годзе. Працаваў па кантрактах на Поўначы, у Якуціі, у Казахстане на Байкануры, ва Узбекістане. З 2005 года працаваў у Беларусі. Паэт, празаік, бард. Пісаў на беларускай і рускай мовах. Аўтар кніг: «Мяне вецер шукае» (2000 год: вершы), «Набытак» (2006 год: вершы), «На виражах судьбы» (2009 год: вершы), «Паўночны варыянт» (2012 год: проза), «За зацяненнем Поўначы» (2015 год: проза). Памёр у Мінску 20 сакавіка 2016 года.*

**Трыялет**

Не сцірае час сляды
Там, дзе вера і сумленне,
Дзе адданасць і натхненне,
Не сцірае час сляды.

Дзе ніколі праз гады
Не шукаецца збавенне,
Не сцірае час сляды
Там, дзе вера і сумленне.

***

Згадзіцца праз гады,
Адметнае – заўжды,
Казаў сабе – бяры,
Прыхоўваў да пары.

Нявольна – зразумець,
Адрозніць срэбра, медзь,





Ды хутка прыйдзе час
Успомніць пра прыпас.

***

Адразу дый не змог
Блакітнасцю дарог,

Мінуласцю гады
Пракладваюць сляды.

На сцёрты напамін,
Падзей тых успамін,

Ізноў ты быццам там,
Дзе вырашаеш сам.

Шукаючы брады,
Далей ісці куды?

Там выказаў давер,
А тут ішоў цяпер.

Шлях выбраў сам такі,
Што толькі медзякі.

Набыў што? Срэбра звон.
І з тым застаўся ён.

***

Утрыманне раўнавагі
Падраўноўвае бакі,

Развражанне – хто такі –
Вылучае сэнс «які»
Неспатоленасцю смагі,
Не спазнаны шчэ нікім.

Там сябе хавае існасць,
Дзе, здаецца, быў абсяг,
Там, за шэрагам трывог,
Для стамлёных, збітых ног
Набываецца карыснасць
Сэнсам пройдзеных дарог.

Станам самаадчування
Успрымаеш знешні свет
І ствараеш запавет.
Распрацоўваеш сюжэт,
Нібы з даўніны паданні,
Каб пакінуць нейкі след.

Дзея мае свой адбітак,
Адпаведны рэзананс,
І раскладвае пасьянс,
Падсумуючы баланс,
Ты змяняеш свой набытак
І спадзеў на дэкаданс.

Дзе та кропка сутыкнення?
Так заўсёды скрозь гады –
Зацікаўленасць заўжды.
Шматстаронняе тады
Накіроўваць вырашэнне
Дзеля згоды грамады.

Уяўляеш сэнс намеру
С цягам пражытых гадоў,





Параўноўваеш ізноў
З адпаведнасцю умоў,
Зберагаеш сваю веру –
З боку гледжання высноў.

***

Вабіла мэта дарогі,
Ды прыпыняюць гады,
Не прытаміліся ногі,
Толькі  шукаць дзе сляды?

І парытэты мне ўзросту
Свой выдаюць тут намер.
Быццам, не  ўсё  гэтак проста,
Сэнс не змяняе давер.

Іншай фармацыі існасць
Стан, пераходны заўжды,
Ёсць і свая ў тым карыснасць,
Каб не марнець ад нуды.

Шляхам свайго адчування
Зноўку ісці наўздагад –
Дзе ёсць спадзеў і адхланне,
Думкі – вяртанне назад.

***

Той дарогай прыкметнай,
Праз бары ды аблогі,
Праз рачулкі масткамі,
Праз дубровы, лясы,

Быццам шляхам адметным,
Зноў нясуць мяне ногі,
Хлапчуком дзе з сябрамі
Бачыў веліч красы.

Той жа ў Віцебск дарогай,
Захвалюецца сэрца,
Да вытокаў вяртанне –
Нібы мройныя сны,
Спадзяваннем, трывогай
Прыадчынена дзверца,
Сэнс майго існавання
Надалі мне яны.

Асаўскія прасторы,
Безупынны кліч продкаў,
І не выказаць думку –
Слоў не знойдзеш такіх...

**Араты**

Настрой, ад пачуццяў узняты,
І мроі імкнуцца да неба,
Свой шлях набывае араты,
І пераўтвараецца глеба.

Малюе баразнамі ў полі,
Бы пэндзалем, плугам рупліва,
Араты існуе на волі –
На ніве сваёй урадлівай.

А ворыва пахам адметным
Ім дыхае, множацца сілы,





У краі яго запаветным
Буслы распраўляюць зноў крылы.

З той марай – узлёт і натхненне,
Бурліць ураджайна прастора,
Аратым кіруе сумленне,
Душы той парыў – быццам мора.

І лад свой жыцця роднай хаты –
Спрадвеку праз сэнс і сталенне –
Нашчадкам пакіне араты
Набытак, руплівасць, цярпенне.

***

Кладуцца радочкамі словы,
Слупок за слупком вершаваным.
Зноў сціплага быту замовы –
Ды думкамі ты апантаны.

Збіраюцца рычы ў малюнак,
Вярлібры, харэі, санеты,
Як быццам на нейкі рахунак, –
Над чымсьці працуюць паэты.

Імкнецца – у зорнае неба
Тых думак зямных прыцяжэнне.
А там, дзе ўрадлівая глеба,
Свой сэнс набывае натхненне.

Трымціць заклапочана сэрца,
І мройнасці вабіць дарога,
Паэты, зямлі аднаверцы,
Вы – пацалаваныя Богам.

***

А дзе тое, што нідзе,
Не згубіўшы свайго плёну,
Не як вілы па вадзе,
Намалюе сэнс да схону.

А дзе тое, што заўжды,
Табе будзе абярогам,
Тое, што і праз гады
Паспрыяе на дарогах.

А дзе тое, што цяпер
Выстаўляе крылы мары,
І выказвае давер
Да табе дасланых чараў.

***

Так адносна ўсё ў жыцці,
Подых шчасця –  гэта сон,
Які мкнемся мы знайсці
У вандроўцы нашых дзён.

Ёсць я – быццам бы няма
Ды на гэтым берагу,
Далей штосьці тут дарма,
Далей я кудысь бягу,

Дзе заўжды  губляў сябе
У віры пражытых дзён.
На зямлі шукаў цябе,
Каб знайсці, там я – быў ён.





***

Дождж, грымоты, ноч сляпая
Бляск маланак, пяруны,
Свішча вечер па-над гаем,
Непакоіць мае сны.

Прачынаюся раптоўна
І стаю каля вакна,
Разумею, безумоўна:
Навальніца – не вайна.

Праз вакно гляджу на неба,
Дождж, маланкі не суняць,
І душы маёй патрэбна
Адчуванні – успрыняць.

Асвятляе, бы дамоўна,
Бляск маланак краявід,
Вось аб’явіцца раптоўна
І знікае, як прывід.

Дождж суцішыцца паволі,
Непакоіць мае сны,
Па-над лесам водар, полем
Бляск маланак, перуны.

***

Вечар сумна-адзінокі
Углядаецца ў вакно,
Паступова робіць крокі
Ноч, разлітае віно.

Як у келіху з той ружай,
Выглядае і намер.
Галаву маю закружыць,
Зменіць хай жыцця памер.

Перакульваючы стопку,
Я віна адчую смак.
Быццам ставіць буду кропку –
Не для сэнсу, проста так.

Не ад суму, адзіноты,
Я наліў сабе віна,
Не, няма нідзе турботы –
Проста вып'ю я да дна.

***

Чакаю адчайна спрыяльных умоваў,
І віламі мары пішу на вадзе,
На што спадзяюся, не выказаць словам,
Бо так невядома, куды лёс вядзе.

Магчымасці дзеяння сэнс разнастайны
Натхняе, хвалюе, трывожыць спакой.
У дробных пытаннях і тых актуальных
Жыццё нечакана мяняе настрой.

Я віламі словы выводжу наперад,
І мне не згадаць на здзяйсненне іх час,
І тое, што будзе пасля на паперы, –
Усё перамелецца раптам ураз.





***

Маю пэўныя падставы
Для чакання ў сэнсе з'явы,
Адпаведны накірунак –
Для каханай падарунак.

Мой намер невыпадковы –
Есць спрыяльныя ж умовы,
Дамагаюся даверу,
Атрымаецца, я веру.

І такі настрой узнёслы,
Не лічу я зімы, вёсны.
Адчуваю: даў Бог крылы,
І я ўзняцца маю сілы.

**_ВЕРА ФЕОКТИСТОВА_**

*Родилась 5 декабря 1939 года в селе Новый Буян Куйбышевской области. Окончила школу, техникум, институт, причем последний – в 49 лет с отличием. Писать стихи начала в седьмом классе, когда впервые влюбилась, и до сих пор успевает только записывать, когда они льются сами. Любимые поэты – А.С. Пушкин, Сергей Есенин, Роберт Рождественский, Анна Ахматова, Эдуард Асадов, Инна Кашежева. Автор поэтического сборника «Бог, Земля и я». Активно пробует свои силы в прозе. Публиковала свои произведения в журнале «Тайны XX века» (Санкт-Петербург).*

## Минск – город, открывший мне духовный путь

Дорога, устланная белыми простынями, которые приснились мне во сне, привела меня в Беларусь, в Минск. Но ведь вначале была показана черная туча. Эта туча являла собой темные силы, что сгустились над моей головой по приезде. Сначала мы с мужем Виктором жили в частном доме, а потом дом попал под снос и нам дали трехкомнатную квартиру на улице Сурганова.

Когда мы въехали в эту квартиру, я обратила внимание на странные вещи, которые там находились, хотя дом был новый и прежде в ней никто не жил. Но я не придала этому значения. Но однажды утром я вышла из квартиры и увидела в коридоре, он у нас был общий на четыре квартиры, что от входной двери прямо ко входу в нашу квартиру вели следы, которые были похожи на копыта. Мы с дочкой Наташей пытались их отмыть, но они не исчезали, что бы мы ни делали. Виктор после этого стал вести себя очень странно: он всё время искал в квартире следы слежки за ним. Даже в вентиляционном канале он пытался обнаружить подслушивающую аппаратуру. Я его поведение связала с неприятностями на заводе, где он работал. Там он работал контролером и обнаружил приписки. У него там был друг, тоже военный, и они про эти приписки написали в газету. В результате выяснилось, что выполнялись посторонние работы по ремонту квартир или





дач членов правительства. Всё это привело к тому, что их стали преследовать, угрожать, и даже было покушение. Это особая история, и если об этом подробно всё написать, получился бы детективный роман. Я даже в Москву ездила тайком и сдала документы в Министерство юстиции.

А у меня после мытья этих полов со следами стали отниматься руки, я не могла даже самостоятельно надеть пальто. В результате, я попала в больницу, но и там лечение не помогало. И однажды во время обхода врача в палату вошла заместитель главврача и сказала, чтобы меня немедленно выписали. Мой лечащий врач отказался это делать. Я не знаю, что у них там произошло, но она взяла больничный, а меня выписали из больницы прямо на работу. В нашей больничной палате лежала молодая женщина. Она мне сказала: «Что-то подозрительно: Вы у нас в палате чувствуете себя хуже всех, а Вас выписывают. Она дала мне адрес бабушки, которая принимает людей и им хорошо помогает».

Я вышла на работу, это был предпраздничный день перед Днем Победы. У нас было по этому поводу собрание, я на этом собрании еле высидела и прямо с работы приехала к этой бабе Оле, Царство ей Небесное, её уже нет в живых, спасительницы моей.

Когда я к ней приехала, её дома не было, но меня впустили, и я прилегла у них на диване. А баба Оля, как вошла, сразу сказала: «Хорошо, что приехала, могла помереть в дороге». Она меня полечила своими методами, дала святой воды и с тех пор всегда мне помогала. Вот баба Оля рассказала, что в детстве на нашей улице жила колдунья, она отобрала у нас с сестрой Надей знание, а я рождена была, чтобы стать врачом и лечить людей. Хорошо еще, что меня покрестили бабушка с дедушкой тайком от родителей. А еще она сказала, что я вся в крестиках. Она добавила, что рядом со мной живет колдунья, и она придет и будет что-нибудь просить. Так и произошло: это была моя соседка, она просила дать ей соли, но баба Оля велела ничего ей не давать.

Но соседка меня в покое не оставляла: особенно перед православными праздниками что-нибудь вытворяла. Однажды я со-

биралась в магазин и была уже одета. Раздался звонок, я открываю дверь, а соседка, её звали Ядя, держит палец на звонке. Она увидела меня и стала кружиться и шипеть, как змея. Я в сердцах закричала: «Да чтоб ты сама сдохла». Господи, прости меня грешную. Это было впервые в моей жизни. Я поняла, что она опять что-то сотворила, и тут же поехала к бабе Оле.

Баба Оля никогда у меня не была, но она рассказала, что под моей дверью эта Ядя насыпала золу от покойника, и в этой золе лежит его ноготь. Она не велела ничего трогать до праздника, иначе мы все погибнем, и баба Оля тоже. Она дала мне святой воды, но до праздника было еще три дня. Это был ужас, у меня волосы вставали дыбом, когда приходилось выходить из квартиры. А когда я всё сделала на праздник – это было Благовещение, что сказала баба Оля, соседка сама попала в больницу. А ведь я к ней хорошо относилась, не могла даже подумать плохое. Всегда угощала её продуктами, которые нам давали в Столе заказов.

Слава Богу, впоследствии мы эту квартиру разменяли и переехали на улицу Матусевича. Но я всё-таки попала опять в больницу, и там у меня была клиническая смерть. После этого жуткого события мне не спалось ночью, я вышла в фойе и присела там на диванчике. В это время по коридору идет Наташа, больная, мы с ней сражались стихами, кто лучше придумает. Она еле шла, согнувшись крючком. Я её спрашиваю: «Наташка, что с тобой случилось?» А она отвечает: «Наверное, радикулит тяпнул». Я вдруг не своим голосом говорю ей: «Женщина, подойдите ко мне, я Вам помогу». У меня в голове проносится: «Что это я?» Она же посмотрела на меня и подошла. Я ей говорю: «Повернись ко мне спиной». Она поворачивается, и я провожу руками вдоль позвоночника три раза сверху вниз. Она стала крутиться во все стороны и кричать: «Чудо, чудо!» Я ей сказала: «Не кричи, людей разбудишь, иди спать». Я вернулась в палату, легла и тут же заснула. А утром про это ничего не помнила.

Прошло много времени. Я на Вербное воскресенье ходила в церковь, посвятила там вербочки. Возвращаясь, у нашего дома увидела мужчину с палочкой, и так мне захотелось постукать по





нему вербочкой. Я подошла к нему, бью вербочкой и приговариваю: «Верба хлест, бей до слез». Он рассмеялся. Мы разговорились. Он рассказал, что упал дома, когда шел к телефону, и с тех пор болят ноги и слепнут глаза. Я ему и говорю: «А давайте я вас полечу». Он согласился, и я ему сделала десять сеансов, и он забросил палочку и снял очки.

А я пошла в церковь на исповедь, где рассказала, что у меня открылся дар целительства. Батюшка сказал: «Лечи, но с молитвой,» – а с какой молитвой не сказал. Я попросила молитвослов, открыла его, а там была молитва об исцелении больного. Вот с этой молитвой я и стала лечить людей.

Впоследствии я могла определить больные органы с помощью рук, а потом открылся дар ясновидения, я даже могу предсказывать события, и они исполняются, но это я редко делаю, только когда очень надо помочь...

**Мои вещие сны**

В моей жизни так случалось, что сны предвещали события, которые коренным образом меняли всю мою жизнь.

Однажды я приехала из Волгограда, где работала на нефтеперерабатывающем заводе, к себе на родину в Сергиевск. И снится мне сон: сижу я на сеновале наверху сарайчика, где обитала наша корова Малинка. Ну, это совершенно необыкновенная корова, но об этом потом. А жили мы у подножия горы. Так вот, вижу я во сне, как над горой летит стая журавлей, а один журавль такой обессиленный, отделился от стаи и падает вниз. Я слезаю с сеновала, бегу туда, куда он упал, беру его на руки и несу к себе домой. Дома я его кормлю из рук и пою водичкой.

Утром я проснулась и рассказываю этот сон маме, а мама мне и говорит:

– Это ты скоро выйдешь замуж.

Я ей отвечаю:

– Не за кого мне выходить.

А я встречалась перед этим с парнем, но перед отъездом мы вдребезги разругались. Это было в июне. Однако именно за этого парня я в ноябре и вышла замуж. Ему врачи сказали, что у него язва желудка и надо срочно жениться, чтобы жена готовила ему здоровую пищу. Вот он мне и сделал предложение, потому что кроме меня никого не хотел видеть своей женой. Я сжалилась над ним и согласилась. Он и стал отцом моих детей. Жили мы хорошо и дружно. Но вот опять я вижу во сне, что у меня на руке на пальце золотое кольцо, оно вдруг треснуло и свалилось с моего пальца. Ровно через неделю произошла жуткая история, которая и привела к нашему разводу, но об этом не хочу говорить, слишком тяжело об этом вспоминать.

Прошло семь лет. Случилось так, что зимой в январе я поехала в санаторий в Сочи. Опять вижу сон: я иду к морю послушать шум прибоя и вижу стаю белоснежных лебедей, которые плывут по морю. Один лебедь отделяется от стаи и плывет ко мне, и я кормлю его из рук. А стая уже далеко уплыла. Он поплыл их догонять, но каждый раз возвращался назад ко мне.

Через два дня перед отъездом мы с подругой пошли на танцы, и я там познакомилась со своим будущим мужем; он в первый же вечер сделал мне предложение, несмотря на то, что я уже уезжала. Мы с ним обменялись адресами, и летом того же года я вышла за него замуж. Прожили мы 33 года, но его уже нет в живых.

Но самое интересное то, что мои сотрудницы, когда я уезжала в Сочи, пожелали мне, чтобы я оттуда приехала с мужем. А я им сказала: «Попадется генерал – выйду, а нет – не ждите». Язык мой – враг мой, ведь я терпеть не могла военных, а он и оказался именно военным в чине подполковника. Вот такая история: нарочно не придумаешь.

Когда я уже уезжала из Оренбурга в Минск, где жил мой муж, я опять видела сон, будто я иду из исполкома, оформив документы на выезд, а из окон исполкома вылетают белые простыни и ложатся на дорогу мне под ноги. А вдалеке на небе черная туча, она уплывает и светит яркое солнце, а небо голубое-голубое. А это мне было показано, что меня ждет в Минске.





**Мои клинические смерти**

По странному стечению обстоятельств причиной трех моих клинических смертей были наведенные порчи. Это я поняла только по прошествии многих лет.

Так случилось, что вышла я замуж на свою беду. Мать моего мужа оказалась злой колдуньей. Я об этом почти догадалась сама. Жили мы с мужем Гришей в Нефтегорске, у нас была маленькая дочка. Тогда, в 70-е годы мы должны были почти сразу после декрета (через два месяца) выходить на работу, поэтому Гриша и попросил посидеть с нашей дочкой свою мать. Она меня сразу невзлюбила только за то, что Гриша сильно любил меня и не скрывал этого. Когда она уехала, я стала сильно болеть. У меня вдруг ни с того ни с сего стали болеть почки, печень, ноги. Я еле передвигалась, а врачи мне не верили и даже больничный не давали.

Работала я на газоперерабатывающем заводе инженером-диспетчером, работа была по сменам. Вот в одну из вечерних смен, был уже конец рабочего дня, в 23.30 я заполняла вахтовый журнал и в это время вижу, что мои руки посинели и сильно заболело сердце. Я сразу набрала номер телефона медпункта, он у нас был один на два завода. Но сказать я ничего не успела, так как у меня начались сильные судороги, была дикая боль, и я просто стонала в трубку. Фельдшер был мужчина, звали его Николай, он прошел всю войну. Каким образом он догадался, откуда звонят, непонятно, но он успел прибежать именно в нашу диспетчерскую.

Я только помню, что в голове у меня проносилось одно и то же: что будет с доченькой, ей было тогда всего полтора года. Я смутно помню, что меня на носилках несли по лестнице и привезли в больницу. Фельдшер дядя Коля после рассказал мне, что у меня была клиническая смерть, и если бы я через минуту не вернулась, это был бы конец. Он сказал мне, что сделал всё, что мог, чтобы спасти меня. Спасибо ему большое, его-то уже давно нет в живых – Царство ему Небесное. А в больнице меня положили на кушетку в коридоре, и никто ко мне не подходил. Я звала на по-

мощь, но это было бесполезно. Не знаю, откуда я набралась сил, но я доползла до кабинета медсестры и сказала ей, что весь завод знает, что меня сюда привезли и если со мной что-то случится, ей не поздоровится. Тогда меня быстро поместили в отдельную палату и стали делать уколы. Но что странно, когда мне сделали кардиограмму, то она показала, что у меня абсолютно здоровое сердце. Ко мне вызвали даже профессора, и он мне сказал, что у меня были все признаки инфаркта, и у меня была остановка сердца, причиной которой мог быть только сильный стресс. Теперь-то я знаю, что когда сделана порча на смерть, то врачи ничего определить не могут. Слава Богу, у меня сильные Ангелы-хранители, это они руками дяди Коли вернули меня к жизни.

Но свекровь на этом не успокоилась. Мы уже переехали из Нефтегорска в Оренбург, но она опять заявилась к нам. Так случилось, что ее дочь заболела – у нее был рак поджелудочной железы. Но мать не хотела ехать к ней в Волгоград, а там остались одни трое мальчишек. Гриша сказал, что если она не поедет, то он спустит ее с лестницы. Мы купили ей билет и отправили на самолете в Волгоград. А я, когда мыла полы в комнате, где свекровь спала, нашла клубок из разных ниток и не знала, что с ними делать. После этого у меня начались спазмы в горле, и я ничего не могла есть.

Меня положили в стационар, но мой лечащий врач не могла понять, что со мной. Как-то во время обеда в столовой я просто сидела, ничего не ела, и вдруг меня как-будто ударили сильно сзади, меня словно разрезали пополам, и я потеряла сознание. Когда меня несли на носилках, я это видела как бы со стороны. Меня положили на кровать, возле меня стояли четверо врачей. Кто-то из них сказал: «Треугольник смерти на лице». А я в это время была наверху под потолком и всё видела и слышала. Мне стало интересно, что это за треугольник. Я подлетела и увидела себя, а на лице действительно был черный треугольник возле носа и губ. Мой врач, она была доцент, сказала: «Не знаю, что делать, боюсь навредить, ей поможет только Бог». Она это сказала, и они развернулись и ушли. Спасибо ей, что она вспомнила Бога, ведь тогда произносить такие вещи было нельзя. Это было в 1974 году,





у нас одного инженера уволили с работы только за то, что она стояла возле церкви. А я вдруг почувствовала, что меня неведомая сила тянет вернуться в свое тело. Я вернулась и открыла глаза. Мои соседки по палате как взвыли: «Что ты наделала, мы думали, что ты ушла навеки. Ты наше солнышко, как мы без тебя будем». А я им говорю: «Ну, что вы воете, я же живая, можете пощупать, если не верите». Когда меня выписали, я приходила в поликлинику на прием, и моя дурила врачиха говорила: «Ну вот, покойница пришла». Они так ничего и не поняли. А свекровь своего добилась, она меня не смогла победить, так Гришу уничтожила: он стал беспробудно пить, и мне пришлось с ним разойтись. Это стал совершенно другой человек – монстр какой-то.

Так случилось, что я уехала в Минск, так как снова вышла замуж. Но мне опять не повезло. Получили мы трехкомнатную квартиру, и надо же, снова беда. На нашей площадке рядом со мной дверь в дверь оказалась колдунья. Чего только она ни вытворяла, чтобы меня уничтожить. Снова я попала в больницу, и в стационаре во время одной процедуры со мной произошла необыкновенная история.

Процедура самая простая: просто лежишь и под музыку отдыхаешь в отдельной комнате, изолированной от всякого шума. Вот во время этой процедуры я почувствовала раздвоение: как будто половина меня отделилась, и я полетела по коридору из розовых струй, как будто фонтаны в Петергофе, а музыка звучала небыкновенная. Было состояние необыкновенного блаженства – не передать словами, ничего не болело, и было так легко-легко. Вдруг передо мной возникло изваяние: сидел в позе лотоса золотой Будда, а глаза у него были живые. Я от неожиданности затормозила и уставилась на него. А он мне говорит прямо по-нашему: «Ну, что уставилась, не туда смотришь». И показывает глазами, куда смотреть. Я смотрю туда, а там как огромное Солнце, только оно не ослепляет и не обжигает, и такая благодать разливается. Вдруг от него отделился луч, он меня будто приподнял, и я на этом луче вернулась назад. Как мне не хотелось возвращаться!

Я открыла глаза и увидела рядом с собой врача. Он сказал: «Как я Вам завидую. Когда станете знаменитой, вспомните меня. Меня зовут Баженин Михаил Михайлович». Я удивилась, что он такое говорит, но я еще не отошла от пережитого и ничего у него не спросила.

Когда я выписалась из больницы, дома включила телевизор, а там объявили сеанс Кашперовского. Я расположилась напротив телевизора в кресле. Вдруг прямо перед телевизором встал распятый на кресте Иисус Христос. У него на голове был терновый венок, а руки и ноги были прибиты к Кресту и на них капельки крови. Он сказал: «Я за вас пошел на Крест, а ты села к этому сатане». Сказал и исчез. Я прямо вросла в кресло, а потом сообразила, что Он сказал. Вскочила и выключила телевизор, и затем, как только по телевизору объявляли сеанс Кашперовского, я телевизор выключала. Но с тех пор у меня открылся дар целительства и ясновидения, и я стала видеть Иисуса, Богородицу и святых. Я многому у них научилась.

***

Слова, как в небе шарики летают:
Кого-то ранят, а кого спасают.
Но даже в самой-самой грозной битве
Спасают матери детей молитвой.

***

Прикорнуло облако на крыше,
Облако заснуло. Люди, тише.
Облако полмира облетело,
Отдохнуть немного захотело.
Взять от бури бы его прикрыть,
Ведь ему еще немало плыть!





Вознеслось опять оно на небо,
Сон, ты был у облака иль не был?
Помахала я ему рукой вослед:
Передай ты миру от меня привет!

***

Сон свернулся котенком в ногах,
Милый котик, зачем не в глазах?
Я их крепко-крепко закрываю,
Почему они не спят не знаю.
Глазки, глазки, вы хотите сказки?
Но они ушли в другие глазки.
Сон, возьми же ты за руку сказку,
Приведи ко мне вот эту глазку.

***

Забеременела девица:
«Залетела» она в интернете.
На места инвалидов садится,
Не стыдясь, заявляет об этом.
Ну, и кто ж у нее родится?
Тут, наверно, появится кибер.
И куда же планета-то мчится?
Не дай Бог, ведь конец это миру.

***

Мне б по жизни пройти фрагментарно,
Научите меня телепортации,
Я б тогда встала рано-рано

